# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3-4 ( 27-28 ) ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ 2004 г.

## У НУМАРЫ:



## ЭДУАРД АКУЛІН НА ПОЛІ ЛЯ МАЛОГА ОЛЬЖАВА, ШТО Ў ЛІДСКІМ РАЁНЕ

***27 ліпеня 2003 года беларускія пісьменнікі Вольга Іпатава, Эрнэст Ялугін, Міхась Скобла і бард Эдуард Акулін наведалі магілу паўстанцаў 1863 года паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы Лідскага раёна. Пасля імшы за палеглых Эдуард Акулін спеў некалькі патрыятычных песень.***

**На полі, дзе расійская пагарда,**
**Бы серп, сякла паўстання каласы,**
**Як рэквіем, гітара Эдуарда.**
**Сярэбраныя плачуць галасы**

**Па продках, што за волю тут плацілі,**
**Прастор палеткаў, сэрца не ірві!**
**Тут буракоў чырвонае націнне –**
**Сляды невысыхальнае крыві.**

**Прарос гарох скрозь тонкія мундзіры,**
**Прабілася скрозь грудзі сенажаць.**
**Тут паўтара стагоддзя камандзіры**
**Са шляхты беларускае ляжаць.**

**З каменняў, нават, сцерлі іх імёны,**
**Не адпусцілі душы на спачын.**
**Няхай жа восень**
**дажджавой заслонай**
**Цябе захіліць, нейчы брат ці сын!**

**І адпяе завея галашэннем,**
**Каб старадаўні збыўся запавет –**
**Ляглі, каб не аддаць сваё найменне,**
**Ляглі, каб стаў свабодным гэты свет.**

**Пакутліва мы волю здабываем,**
**Ды гонар чужакам не аддамо.**
**Гітара барда плача і спявае –**
**І з душ спадае рабскае ярмо...**

***Вольга Іпатава.***



**Міхась Мельнік**, *першы старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"*

www.kamunikat.org

# Лідскі Летапісец



Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні



Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3-4 ( 27-28 ) ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ 2004 г.


## Навуковая гістарычна-краязнаўчая канферэнцыя ў Радуні



11 снежня 2004 года ў Радуні адбылася навуко-вая гістарычна-краязнаўчая канферэн-цыя, прымеркава-ная да 220-х угод-каў з дня народзі-наў бацькі беларус-кіх гісторыкаў То-дара Нарбута і 152-х угодкаў з дня на-родзінаў беларуска-га археолага, антраполага і краязнаўца Вандаліна Шукеві-ча. Канферэнцыю арганізоўвалі Воранаўскі раённы выканаўчы камітэт, аддзел археалогіі Інсты-тута гісторыі НАН Беларусі, кафедра гісторыі Беларусі ГрДУ імя Янкі Купалы, Гарадзенскае абласное ды Воранаўскае раён-нае аддзяленні Таварыства ахо-вы помнікаў гісторыі і культуры.

На канферэнцыю сабрала-ся больш двухсот чалавек на-вукоўцаў з Менска і Гародні, а таксама тутэйшых краязнаўцаў і аматараў гісторыі. Прагучала шмат цікавых дакладаў пра людзей, народжаных ці лёсам звязаных з Воранаўшчынай: Тодара Нарбута, Станіслава Юндзіла, К. Падчашынскага, Ц. Кандратовіча, Яна Траяноў-скага і інш.

Непасрэдна перад канфе-рэнцыяй была закончана рэс-таўрацыя родавай усыпальніцы Шукевічаў. Рэстаўрацыі папя-рэднічалі раскопкі, праведзеныя гарадзенскімі археолагамі, якія ідэнтыфікавалі адзін з раскопа-ных шкілетаў, як шкілет Ван-даліна Шукевіча.

Удзельнікі канферэнцыі ўсклалі кветкі да магілы Тодара Нарбута ў Начы.

**На здымку:** удзельнікі кан-ферэнцыі ля родавай капліцы Шукевічаў на Нацкіх могілках.



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.


ПАСВЕДЧАННЕ АБ РЭГІСТРАЦЫІ Г 1342

ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ
**Валеры Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

РЭДАКТАР
**Станіслаў Суднік**



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231300, г. Ліда, вул. 1-я Навапрудская, д. 61
E-mail: naszaslowa@tut.by



**Наклад 400 асобнікаў**
**10 друк. аркушаў**

Часопіс размножаны на ўласным абсталяванні.

Часопіс падпісаны да друку 9. 03. 2005 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 1150 руб.
індывід. 6 мес.- 2300 руб.
Кошт у розніцу: вольны



Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

# КРОНІКА ЛІДЫ



***А. Урбан***



***П. Чаркоўскі***

У ліпені 2004 года Пётр Чаркоўскі і Анатоль Урбан з Бярозаўкі сталі чампіёнамі свету па гарадках на чампіянаце ў Кіеве.



***Ваверскі касцёл***

У ліпені ў Ваверскім касцёле адкрыта мемарыяльная дошка ў памяць ксендза Раймунда Зямацкага, расстралянага ў Вільні ў 1863 годзе за абвяшчэнне з амбону ў Ваверцы маніфесту паўстання. Дошку выканаў Рычард Груша.

27 ліпеня Наталля Карэйва з Ліды на чампіянаце свету па лёгкай атлетыцы ў Італіі стала чэмпіёнкаю свету па бегу на дыстанцыі 800 м з часам 2 мін 1,47 сек. Трэнер Юры Снапко.




***Наталля Карэйва***




У 2004 годзе ў выдавецтве “Znak” у Кракаве выйшла кніга Аляксандра Юрэвіча “Lida”.
Аляксандр Юрэвіч нарадзіўся ў Лідзе ў 1952 годзе.
У пяцігадовым узросце хлопчыка вывезлі ў Польшчу.
Кніга “Lida” пранізана вострым пачуццём настальгіі па радзіме, па родным горадзе.

www.kamunikat.org



*Генадзь Пашук*

19 жніўна старшынём Бярозаўскага гарсавету абраны Генадзь Пашук.




У Лідзе выйшла кніга “50 лет в строю. История Лидских тепловых сетей. 1954-2004 гг.” 128 ст. 500 асобнікаў.



*Прэзентацыя кнігі “Памяць”*



30 верасня ў Лідзе прайшла прэзентацыя кнігі “Памяць. Ліда. Лідскі раён.” Кніга выдадзена ў выдавецтве “Беларусь” накладам 3000 асобнікаў.

***Рэдакцыйная калегія:***
В. Г. Баранаў, Г. К. Кісялёў,
М. У. Малец, Б. В. Ульянка.

***Раённая камісія:***
В. Г. Баранаў *(старшыня камісіі)*,
Н. М. Вайман *(нам. старшыні камісіі)*,
П. К. Галаваты, А. В. Жалкоўскі,
І. В. Швакель.

***Гарадская камісія:***
М. У. Малец *(старшыня камісіі)*,
М. А. Сарокін *(нам. старшыні камісіі)*,
М. С. Агурцова, Г. М. Жалезны, А. А. Каралевіч, У. І. Русак, Я. А. Скоблікаў, Р. К. Філімонава, І. В. Швакель.

***Рабочая група:***
М. В. Васілючак, У. П. Верхась,
Н. С. Вялава, Т. М. Кудрашова,
А. Ф. Кулеш.

**В. В. Сліўкін** афіцыйна заявіў, што ў склад гарадской камісіі па напісанні кнігі “Памяць”не ўваходзіў, а таксама артыкул “З гісторыі бібліятэчнай справы”, падпісаны яго прозвішчам, не пісаў.

www.kamunikat.org






14 кастрычніка адбыліся ўхошчыны ў новы будынак Лідскага тэлерадыёаб'яднання на вул. Чарняхоўскага.



15 кастрычніка пасля рамонту адкрылася Лідская лазня.






У канцы 2004 г. у Лідскай друкарні выйшла кніга лідскага і барысаўскага аўтараў Віктара Волчака і Мікалая Бельчыкава "Паэзія шахмат Беларусі", 344 ст., 500 асобнікаў.

www.kamunikat.org



У выніку выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 17 кастрычніка 2004 г. дэпутатам па Лідскай гарадской выбарчай акрузе № 56 стаў Малец Уладзімір Міхайлавіч.



Дэпутатам па Лідскай сельскай выбарчай акрузе № 57 стаў Орда Міхаіл Сяргеевіч.



У Савет Рэспублікі ад Лідчыны абраны Казімір Уладзіслававіч Рахатка і Наталля Андрэеўна Зайцава.





20 лістапада ў лідскім Паўночным гарадку на тэрыторыі Лідскага памежнага аддзелу асвечана капліца ў гонар св. Сергія Раданежскага.



***Капліца св. Сергія Раданежскага***

www.kamunikat.org



*Алена Сядзяк*

11 снежня 2004 г. па выніках конкурсу “Міс Лідчыны - 2004” найпрыгажэйшай дзяўчынай краю прызнана Алена Сядзяк.



19 снежня ў Лідзе на месцы былых яўрэйскіх могілак (раён вуліцы Фрунзе) адкрыты памятны знак. Камень ахвяраваў скульптар Рычард Груша.






30 снежня 2004 г. пасля рамонту адчынілася Амбулаторыя ўрача агульнай практыкі ў мікраараёне Індустрыяльны.

31 снежня 2004 г. ўпершыню выйшла ў эфір Лідскае тэлебачанне.



# Кроніка айкумены

Лідскі гістарычны каляндар

## ліпень – снежань

**1644 год, 25 верасня.** Ліст караля Уладзіслава 1V аб аб'яўленні баніцыі лідскому маршалку Аляксандру Халецкаму за неправільны продаж маёнтка Дзеятковічы Слонімскага павету.

**1654 год, восень.** У Лідскім павеце сфармаваны 4 харугвы: гусарская, рэйтарская, казацкая і пешая для ваенных дзеянняў ў пачаўшайся вайне паміж Расеяй і Рэччу Паспалітай.

**1694 год, 5 ліпеня.** Кампрамісны суд у складзе Аляксандра Яна Масевіча - ваяводы мсціслаўскага, Казіміра Францкевіча Радзімінскага- падскарбія надворнага ВКЛ і старасты лідскага спрэчную відугораўскую зямлю, захопленую барцянскімі баярамі прызнаў уласнасцю нашчадкаў Мартына Крупеля.

**1744 год, 12 лістапада.** Кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст III пацвердзіў усе, раней напісаныя для горада Ліды каралеўскія прывілеі.

**1774 год, 19 лістапада.** Запіс дакрэту Лідскага гарадскога суда аб рэгламентацыі павіннасцяў і падаткаў юрысдычан Лідскага касцёла - у адказ на іх скаргу на лідскага плябана.

**1784 год, верасень.** Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі праехаў цераз Беліцу на сойм у Гародню.

**1794 год, 29 верасня (10 кастрычніка).** Параза войскаў Т. Касцюшкі пад Мацыевічамі, захоп у палон Т. Касцюшкі рускімі войскамі генерал-лейтэнанта І. Ферзена.

**1794 год, 20 снежня.** Князь Мікалай Рапнін выдаў у Гародні ад імя Кацярыны II універсал аб падзеле ВКЛ на тры часткі. Лідскі павет аднесены да Віленскай губерні (Віленскага намесніцтва).



**Вялікі князь Літоўскі і кароль Польскі Аўгуст III**

**1824 год.** У Лідзе 2 вуліцы з брукам і 2 без бруку, адна плошча, 2 драўляныя масты, 2 клештары мужчынскія, 1 мураваная царква, 1 драўляная, 1 капліца, 2 могілак, 1 шпіталь,1 аптэка прыватная, 1 турма, 1 дабрачынная мураваная ўстанова, 1 прыватная навучальная ўстанова для мужчынскага полу, 2 прыватныя сады, 2 шынкі, 2 вінныя склепы, 50 піцейных дамоў,1 гандлёвая лазня, 1 рынак, 1 аддаленая лаўка, 1 дом для публічных сходаў, 1 хлебны склад, 4 пажарных коней, 2 пажарныя трубы.

**1834 год, 2 лістапада.** Закрыта піярская школа. Калегіюм канфіскаваны ў піяраў і рэарганізаваны ў 5-класную дваранскую павятовую навучальню.

**1834 год.** Пачатак установкі праваслаўных іканастасаў ва ўніяцкіх цэрквах. Першай пад нутраную перабудову падпала Голдаўская царква.

З-за старасці знесена Радзівонішская ўніяцкая царква.

www.kamunikat.org

**1844 год.** Зацверджаны штат будучай праваслаўнай царквы: протаіярэй, святар, дзякан, дзячок, папастыр і прасфорыя.

**1854 год.** Куроўшчына (уладанне прыходскага касцёла) перайшла ва ўласнасць горада Ліды ў абмен на фальварак Зарэчча. Ксёндз Хлявінскі ўсе пабудовы з Куроўшчыны перанёс і для праезду цераз рэчку пабудаваў мост і грэблю даўжынёю ў 200 сажняў.

**1864 год**. У Лідскім павеце жыве каля 110 тысяч жыхароў, больш за 75 тысяч католікаў, 39 тысяч праваслаўных, каля 6 тысяч юдзеяў. 31 касцёл, 19 цэркваў, 18 яўрэйскіх малітоўных дамоў, 15 мястэчак, 15 сёлаў, 866 вёсак і 876 іншых пасяленняў (калоній, фальваркаў, ваколіц, хутароў).

У Лідзе жыве 2208 чалавек (1095 мужчынскага полу), шляхты 305, купцов 17, мяшчан і цэхавых 1400, рамеснікаў 279, з іх 119 майстроў. 452 каталікі, 1377 яўрэяў. Праваслаўная царква, каталіцкі касцёл, сінагога і 3 яўрэйскія малітоўныя школы. 438 дамоў, з іх 41 мураваны. 76 лавак, 2 шынкі, 10 харчэвень, 20 пастаялых двароў, павятовая і прыходская навучальні. 2 дамашнія сальна-свечныя ўстановы, якія вырабляюць шабасавыя свечкі, 3 шкураныя заводы, якія давалі вырабаў са шкуры на суму да 6 тысяч рублёў. Гандаль мізэрны. Выдадзены гандлёвыя пасведчанні купцам 1 гільдыі - 2, 2-ой - 4, загадчыкам - 8. Штотыднёвыя базары ў нядзелі і панядзелкі, кірмашы 11 красавіка і ў дзень Святога Духа, на кірмаш прывозіцца тавараў на суму да 2 тысяч рублёў, прадаецца на 600. Горад займае 345 дзесяцін, ва ўладанні гарадскіх абывацеляў - 1544 дзесяціны.

**1864 год, восень.** Аткрыта Лідская прыходская двухкласная навучальня, законанастаўнікам прызначаны І. І. Каяловіч.

Адкрыты Беліцкая, Ганчарская, Дзікушская, Зблянская, Тарноўская народные навучальні.

Першая аднакласная царкоўна-прыходская школа з'явілася ў Малым Мажэйкаве.

**У навучальных установах забаронена размаўляць на беларускай мове.**

**1864 год.** У Голдаўскім прыходе святаром К.С. Брэнам заснавана праваслаўнае брацтва.

Баброўская царква атрымала ў падарунак звон коштам у 42 рублі.

Знесены капліцы ў Радзівонішках, Паперні, Місевічах, Лябёдцы, Станкевічах.

Ліквідаваны касцёл у Дылеве.



***Піўны завод А. Папірмейстара***

**1874 год.** У Лідзе адкрыты піўны завод А. Папірмейстара.

**1884 год.** Пабудавана паравознае дэпо з бутавага каменю на два стойлы для паравозаў серыі Чн, якія маглі перавозіць груз вагой 300-400 кг на 50 км.

6 дзесяцін, 1316 квадратных сажаняў адышло ад саборнай царквы пад станцыю "Ліда" Віленска-Ровенскай Палескай чыгункі (6,83 га).

**1884 год.** У Ольжаве, Далекіх і Радзівонішках адкрыты царкоўна-прыходскія школы.

У Воўкаўцах ад Жыжамска-га, у Мастаўлянах і Панямунцах ад Зблян-скага прыходу адкрыты школы пісьменства.

Згарэў дом святара, пабудовы, амбар, хлеў для сена ў в. Радзівонішкі.

**1884 год, 30 снежня.** Адкрыты рух па чыгунцы Вільня - Ліда - Лунінец. Па мосце з боку Вільні цераз Ліду, Баранавічы на Лунінец прайшоў першы цягнік. Уведзена ў эксплуатацыю чыгуначная станцыя Ліда на плошчы 6,83 га.

**1894 год.** У Зблянах адкрыта адна-класная царкоўна-прыходская школа.

У Карпейках і Масявічах ад Ган-чарскага прыходу, у Агародніках ад Мала-



**Лідскі вакзал. Канец XIX ст.**

www.kamunikat.org

мажэйкаўскага і ў Філонаўцах Дакудаўскага прыходу адкрыты школы пісьменства.

**1894 год.** Пралажана першая на Лідчыне тэлефонная лінія паміж шклянымі фабрыкамі Нёман-А (стары шклозавод у Астроўні) і Нёман-Б (новы шклозавод).

**1894 год.** Сацыяльны склад насельніцтва Ліды: дваран 485, святарскага стану 48, ганаровых грамадзян і купцоў – 129, мяшчан - 5693, сялян - 1188, вайсковага стану - 311, іншых - 10.

**1904 год**. На дарозе Ліда-Гародня ля Дзітвы Шамятоўскай цераз Дзітву пабудаваны мост.

На чыгунцы ля в. Парачаны пабудаваны мост цераз Дзітву на лініі Маладзечна-Ваўкавыск.

У Лебядзе адкрыта пошта пры валасной управе на паштовым тракце Ліда-Гародня пры разгалінаванні дарогі на Дзмітроўцы і Алімпіянава.

**1904 год.** У Лідзе 25 вуліц і завулкаў, 2 плошчы. 1000 жылых будынкаў, 275 мураваных і 725 драўляных, 20 крытых жалезам, 680 - дрэвам, 300 - чарапіцай. 60 ліхтароў на газе,14 заводаў і фабрык, 400 рабочых, аб'ём вытворчасці - 1200 тысяч рублёў.170 рамесных майстэрняў, 204 рамеснікі. 4 кірмашы ў год, прадажа жывёлы, абарот 100 тысяч рублёў. Штотыднёвы базар. Банкірская і натарыяльная канторы, 10 страхавых агентаў. 13 гасцініц і нумароў. 24 шынкі, харчэўні і чайныя.

15025 жыхароў 7250 муж. і 7775 жан. 4 бальніцы на 115 ложкаў, 6 дактароў, 6 акушэраў,10 фельчараў, 1 ветфельчар. 2 аптэкі, 5 аптэкарскіх складоў, 4 ніжэйшыя мужчынскія і 2 ніжэйшыя жаночыя ўстановы, павятовая 2-класная навучальня на 60 навучэнцаў, прыходская з жаночым аддзяленнем, аднакласная яўрэйская школа. 23 настаўнікі, 700 вучняў. 3 друкарні, фатаграфія, бібліятэка-чытальня. 4 пажарныя помпы і машыны, 6 пажарных бочак. Зарплата прыслузе: муж.-10 руб., жан.-5 руб. заработак- чорнарабочы ў дзень: муж. - 70 кап, жан. - 50 кап.

**1904 год.** З-за шырокага распаўсюджання туберкулёзу ў Лідзе адкрыты аддзел Усерасійскай лігі па барацьбе з туберкулёзам.

**1904 год.** На шкляным заводзе створаны прафсаюз з 100 чалавек.

**1904 год, 4 лістапада.** У Курасоўшчыне приступілі да заняткаў у школе пісьменства 22 хлопчыкі і 7 дзяўчынак, настаўнік селянін Даніла Кандратавіч Рачак.

**29 лістапада**. У Ольжаве прыступілі да заняткаў у школе пісьменства 20 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі, настаўнік Уладзімір Вікенцевіч Савонь.

**11 снежня.** У Далекіх прыступілі да заняткаў у школе пісьменства 23 хлопчыкі і 2 дзяўчынкі. Настаўнік Ігнат Фаміч Цысовіч.

**1914 год**. Лідскі павет плошчай 5615,7 км кв, складаўся з 23 гмін, 8 акругаў, 5 паліцэйскіх участкаў у Воранаве, Шчучыне, Эйшышках, Васілішках і Беліцы. У павеце жыло 250 тыс. жыхароў. Павятовы маршалак шляхты паляк Людвік граф Грабоўскі. Павятовы спраўнік Яўген фон Грота - дэ Буко. У Лідзе знаходзіліся канцылярыя маршалка шляхты (кіраўніка дваранства), дваранскага папячыцельства, павятовы з'езд, паліцэйская ўправа, сельскагаспадарчая, школьная інспекцыі, вайсковая ўправа прызыву ў войска, скарбовая каса, фінансавая інспекцыя, управа 5 акцызнай акругі, управа павятовага вайсковага начальніка і прызыва ў войска.

Шкляная вытворчасць Столе мела 4 шкловарныя печы, колькасць рабочых дасягнула 1125 чалавек. Майстар атрымоўваў 50 рублёў, рабочы - 15, жанчына - 8, падлетак - 5, Майстар забяспечваўся жыллём. У Бярозаўцы 2 касцёлы, царква, піцейная ўстанова.

**1914 год.** У Лідзе жыло 16 тысяч чалавек, 704 зарэгістраваныя гандлёва-прамысловыя прадпрыемствы. 6 фабрык: тытунёвая Віленчыка-Капштэйна, гільзавая Вільнера, цукеркавая Рабіноўская, макаронная Шалюбскага, дзве лесапільныя (тартакі) Папірмейстара і братоў Палячакаў. 9 заводаў: бетонна-цэментавы, мёдаварны братоў Вінаградавых, 2 піваварных Пупко і Папірмейстара, дрожджава-вінакурны братоў Стругач, чыгунно–ліцейны і машынабудаўнічы братоў Шапіраў, ліцейны братоў Штайнбергаў, мылаварныКівяліёвіча. 2 друкарні Самуіла Зельдавіча і Кейлі Эшптэйн. Бойня. 3 млыны: вадзяны Мардуховіча, паравы Мельніка і ветраны Віленскага. 45 майстэрняў: бляшаныя, механічныя, шапачныя, слясарныя, шавецкія, швейныя, бетонных работ. 12 гасцініц, 450 усемагчымых гандлёвых пунктаў, 98 чайных, піўных лавак, шынкоў, буфетаў. Кінаматограф, цырульня, лазня, пральня. Яўрэйскі кааператыўны банк, банкаўская контора Янушкевіча. 10 аптэк, 2 бальніцы.

Бургамістр горада Лявон-Пётр Вісмант, яго намеснік Баляслаў Гейштаўт, сябар магістрату Язэп Якубоўскі.

**1914 год.** На аэрадроме базаваліся цэпеліны, іх запраўлялі вадародам.

**1914 год, 25 ліпеня.** На станцыі Ліда вывешаны тэлеграфныя аб'явы, што чыгунка здымае з сябе адказнасць за своечасовую дастаўку грузаў.

**26 ліпеня (нядзеля).** З летняга лагера пад Аранамі ў Ліду цягніком прыбылі сем'і вайскоўцаў. Пад вечар прыбыла частка Лідскага пяхотнага палка. Яна ўзяла пад ахову чыгунку, масты, вадаправод, асобныя будынкі.



***Ліда ў 1914 г.***

**29 ліпеня (серада)**. Сход упаўнаважаных пастанавіў пералічыць 400 руб. дырэкцыі мужчынскай гімназіі на наём памяшкання, абсталяванне і іншае для падрыхтоўчага класа пры гімназіі і 500 руб., сабраных бацькамі, на абсталяванне гэтага класа.

**30 ліпеня (чацвер).** Абвешчана мабілізацыя ў Лідскім павеце. Мабілізацыю абавязаны былі правесці вайсковая ўправа, прызыўны пункт і паліцыя. Абавязкі старшыні прызыўной камісіі выконваў начальнік першага аддзялення паліцыі падпаручнік у адстаўцы Міхаіл Трафімовіч.

**1914 год, 31 ліпеня (пятніца).** У Лідзе створаны 4 мабілізацыйныя пункты. У горадзе і сёлах развешаны плакаты аб мабілізацыі. Забаронены продаж спіртных напояў.

Лідзяне кінуліся ў скарбовую касу здымаць уклады, утварылася чарга ў паўкіламетра, чыноўнікі банка спакойна выдавалі ўклады.

**1914 год, 1 жніўня.** У Лідзе вельмі горача - 40 градусаў. Гарэлі лясы і тарфянікі. У горад ішлі тысячы мабілізаваных. Яны разабралі манапольку ў в. Арлянцы на р. Дзітве, спалілі краму з старасвецкай карчмой Маўраса. Адменены ўсе пасажырскія цягнікі.

**У 19 гадзін** пасол Германіі Пурталес уручыў міністру замежных спраў Сазонаву ноту аб аб'яўленні вайны. Пачалася Першая Сусветная вайна.

**2 жніўня**. У Расіі аб'яўлена ваеннае становішча. На ўсю карэспандэнцыю аб'яўлена ваенная цанзура. У Лідзе ваеннымі цэнзарамі прызначаны начальнік паштова-тэлеграфнай службы Калянкоўскі і асэсар дваранскага папячыцельства Бруxаў.

**6 жніўня.** На палкавым пляцы ля казармаў зшыхтованы Лідскі полк з поўнай выкладкай. Капелан правёў малебені за перамогу, а кампалка Раманаў павіншаваў полк з адпраўкай на фронт. Полк налічваў каля 4 тысяч штыхов.

**1914 год, жнівень-верасень**. Лідскі пяхотны полк ва Ўсходняй Прусіі, затым на Гарадзеншчыне.

**1914 год, восень.** У Лідзе 12 навучальных установаў: дзяржаўная мужчынская гімназія (167 вучняў), прыватная жаночая гімназія (227 вучаніц), дзве прыватныя прагімназіі, вышэйшая пачатковая школа, дзве парафіяльныя школы мужчынская і жаночая, народная навучальня (школа), гарадская навучальня, павятовая навучальня, талмуд-тора, ешыбот рабіна Райнеса.

**1924 год.** Шклозавод "Нёман" стаў акцыянерным таварыствам.

У Шайбаках і Перапечыцы дзейнічалі дзве цагельні (цагляныя заводы), якія належалі Сямашку і Кучынскаму.

**1934 год.** Прыняты закон аб ізаляцыі "грамадска-небяспечных элементаў".

**1934 год.** На вуліцы Сувальскай адкрыты кнігарня і склад Уладзіслава Пугачоўскага,

пабудаваны кінатэатр "Маленькі" на 200 месцаў.

Завершана будаўніцтва драўлянага будынка акцыянернага Народнага банка ў Лідзе, на вуглу вуліц Пярацкага і 3 траўня.

**1934 год.** Піярская школа ператворана ў агульную (сумеснага навучання) 4-гадовую гандлёвую школу.

**1934 год.** Для падафіцэраў, якія служылі ў 77 і 5 палках, створаны гімназічны курс.

**1934 год.** Польшча заявіла ў Лізе нацый пра аднабаковы разрыў дамовы аб абароне нацыянальных меншасцяў.

**1934 год, канец.** Памёр Мейлах Пупко - уладальнік піўзавода, завод перайшоў да яго дзяцей Марка і Сымона.

**1944 год, ліпень.** Батальён Рагнера з 2 -ма эскадронамі ўланаў налічваў 1600 чалавек.

**3 ліпеня.** Расстраляны камсамольцы – падпольшчыкі і мірныя жыхары.

**3 ліпеня.** Лётчыкі Першай Усходняй эскадрыллі Арам Саркісавіч Карапецян, Уладзімір Сяргеевіч Маскалец (ст. лейт), Панцеляймон Уладзіміравіч Чкуаселі, а таксама 3 (4) пасажыры: Сіма (у будучыні жонка Чкуаселі, нарадзіла сына, потым з'ехала), Толік і Юры Лабуцін-Горскі на трох самалётах уцяклі да партызанаў брыгады "Неўлавімыя" ў раён в. Бакшты.

**4 ліпеня.** Савецкае Вярхоўнае камандаванне паставіла войскам новыя задачы. 3-ці Беларускі фронт павінен быў наступаць на Вільню і часткаю сілаў на Ліду, далей - выйсці на р. Нёман і захапіць плацдармы на заходнім беразе.

**4 ліпеня.** Падарвана чыгуначнае палатно (18 рэйкаў) на чыгунцы Ліда –Маладзечна. Рух цягнікоў затрыманы на 12 гадзін. Старшы групы Сакалоў В., вызначыліся Кажамяка К., Дамейка Ул. Падарваны воз і аўтамашына, забіта 2 гітлераўцы, ранена 4.



***С. І. Балгарын***

**1944 год. 8 ліпеня, раніца.** Салдаты 5 кавалерыйскай дывізіі 3 Гвардзейскага кавалерыйскага корпуса вышлі на ўскраіны Ліды.

**19 гадзін.** Ліда цалкам вызвалена. У вызваленні прымалі ўдзел 17, 23, 86 кавалерыйскія палкі. На станцыі захоплены 6 цягнікоў з прадуктамі, боепрыпасамі, абмундзіраваннем.

**9 ліпеня.** Масква салютавала войскам 3-га Беларускага фронту ў гонар вызвалення Ліды 12 артылерыйскімі залпамі з 124 гарматаў.

**10 ліпеня.** Кулямётчык Сяргей Іванавіч Балгарын ля в. Парачаны агнём з кулямёта рассеяў нямецкіх сапёраў, якія спрабавалі падарваць чыгу-начны мост цераз р. Дзітву. Знішчыў каман-дзіра 3 паліцэйскага палка палкоўніка СС, узнагароджанага трыма крыжамі, і больш 100 гітлераўцаў.

Каля в. Парачаны смяртэльна паранены камандзір 86-га кавалерыйскага палка падпалкоўнік А. Ф. Труханаў.



***Мост цераз Дзітву ля в. Парачаны***

**25 ліпеня.** За вызваленне горада Ліда Указам Прэзідыюма Вярхоўнага Савета Саюза ССР 32 кавалерыйская дывізія ўзнагароджана ордэнам Чырвонага Сцяга.

Загадам Вярхоўнага Галоўнакамандуючага за вызваленне горада Ліды прысвоены ганаровыя найменні "Лідскіх":

17 гв. кав. палку (камандзір падпалкоўнік Шаўчэнка Міхаіл Трафімавіч);

www.kamunikat.org


*А. Ф. Труханаў*

23 гв. кав. палку ( камандзір падпалкоўнік Бондар Барыс Цімафеевіч);

86 кав. палку (камандзір падпалкоўнік Труханаў Аляксей Фёдаравіч);

307 штурмавой авіяцыйнай дывізіі (камандзір падпалкоўнік Кажамякін Аляксандр Уладзіміравіч).

**Ліпень.** Аддзелы АК, сканцэнтраваныя пад Вільняй для ўдзелу ў аперацыі «Вострая Брама», акружаны часткамі Чырвонай Арміі і раззброены, афіцэры інтэрнаваныя. Ацалелыя групы і аддзелы адступілі пад Ліду. У Лідскім раёне пачынаюць дзейнічаць аддзелы Рагнера, Лупашкі, Пільха, Нуркевіча.

**Жнівень.** Адноўлена гарадская бальніца на 125 ложкаў.

**21 жніўня.** У Сурконтах акружаны і забітыя падпалкоўнік Мацей Калянкевіч ("Котвіч"), "Астрога", "Хатрак", Валенты Васілеўскі ("Яры") і 32 жаўнеры.


*М. Т. Шаўчэнка*

**Жнівень.** Забіты агент РайФО Кенць М., дарожны майстар Гінцэвіч, селянін в. Парачаны Місько Б., заг. гандльаддзелам Райспажыўсаюза Міневіч І. Р., райінспектар ЦСУ Карповіч К.В., сакратар Гярвенікскага сельсавета Мальцава М. Г., фінагент РайФО Даўкшас В. К., кіраўнік міжрайбазы Маслапраму Мусаткін Ю. І. Прапалі два старэйшыя лейтэнанты в/ч 02550, старшыня Аполінскага с/с Атоўка, старшыня сяльпо Фамін. Абстраляны і спалены Гярвянікскі с/с.

**4 верасня.** Групай "Рагнера" на ўчастку Далекія-Дубчаны падарваны чыгуначны мост.

**4 верасня.** На Лідскім піўзаводе выпушчана першая партыя піва.

**З 4 на 5 верасня** адбыўся напад на работнікаў Дакудаўскага с/с і ўпаўнаважаных РК і РВК, якія праводзілі перапіс зямлі і жывёлы. Забіты заг. нарыхтканторы Белфутра Гінзбург П., паранены заг. вайсков. аддзелу РК Цімафееў Т. і яшчэ два чалавекі. Знішчаны ўсе дакументы па ўліку зямлі і жывёлы.


*А. У. Кажамякін*

**8 верасня.** На хутары Залескі ў 16 км на п-зах. ад Ліды канфіскавана падпольная радыёстанцыя АК.

**9 верасня.** У Любліне было падпісана пагадненне паміж урадам БССР і ПКНА аб эвакуацыі беларускага насельніцтва з тэрыторыі Польшчы і польскіх грамадзян з тэрыторыі БССР.

**10 верасня.** Блізка ад в. Ворнішкі Аполінскага с/с частка аддзелу "Рагнера" пад камандаваннем сяржанта Паўлоўскага В. С. ("Завіруха") уступіла ў адкрыты бой з вайсковай часткаю Чырвонай Арміі.

**1944 год, 20 верасня**. Ліда і Лідскі раён выведзены са складу Баранавіцкай вобласці і ўключаны ў склад Гарадзенскай вобласці. Прэзідыюм Вярхоўнага Савета СССР зацвердзіў пастанову Прэзідыюму ВС БССР аб утварэнні Бабруйскай, Полацкай і Гарадзенскай абласцей.

**30 верасня** Лідскія ўлады выдалі распараджэнне: "Усім жыхарам г. Ліды правесці ачыстку і прывесці ў парадак тэрыторыі сваіх пабудоваў, прылеглых двароў і вуліц".

**1944 год, верасень.** Забітыя селянін Гагалушка А., яго жонка, заг. нарыхтканторы Белфутра Гінзбург П., чатыры чырвонаармейцы, жонка і сын падатковага інспектара Чайкі. Прапалі без вестак два чырвонаармейцы.

www.kamunikat.org

**1944 год, кастрычнік.** Забітыя: фінагент Слінгава А. А., Громава К. І. і яе дачка Зінаіда, сяляне з в. Дылева Дула Марыя, Дула Іван, Дула Іосіф, актывіст-усходнік Марціноўскі, упаўнаважаны міліцыі Усцінаў Г., сялянка в. Дуброўні, падатквы інспектар Замкавы, падаткавы агент Чайка, старшыня Бердаўскага с/с Залужны і яго сын, трое сялян в. Сучкі.

Прапаў старшыня Гярвянікскага с/с Самсонін І. К.

Зроблены напад на будынак Дубровенскага с/с і на дапаможную гаспадарку райвыканкаму Скаўронішкі. У в. Кабыльнікі спалены тры хаты і гумно.

Каля хутара Рылаўцы забілі памочніка “Рагнера” па мянушцы “Рыч”.

**28 кастрычніка.** Зняты залогі войск НКУС генерал-маёра Кісялёва ў сельсаветах (па 8-14 чалавек), устаноўленыя на момант выканання дзяржпаставак.

**1944 год, лістапад.** Забітыя заг. млына Ігнатовіч, возчык Борка, кантралёр млына Хруль Э., Гарбачоў Андрэй з в. Сліжы, дэпутат і яго жонка з в. Юравічы, старшыня Няцецкага с/с Лукашэвіч А. Б., 2-е сялян з в. Меляшы, Буель з Агароднікаў, лейтэнант Чырвонай Арміі Кругляк А. А. Расстраляны грамадзянін у в. Клюкавічы, павешаны 2 чалавекі ў Дзітрыках.

**1944 год, 3 снежня.** Падчас чэкісцка-вайсковай аперацыі ў раёне хутароў Ерамеічы забіты Заянчкоўскі Часлаў (“Рагнер”).

**20 снежня.** Каля вёскі Ляснікі разгромлена група “Рагнера” з 20 чалавек.

**Снежань.** У в . Клюкавічы затрыманы падпаручнік Ежы Баклажанец “Пазуркевіч”, камандзір роты 4-га батальёна Арміі Краёвай.

**1944 год, снежань.** Забітыя: Казлоўскі І. А., сын яго Франц, жонка Казлоўская Марыя, дачка 7 гадоў; старшыня Тракельскага с/с Гінайка А. К., Кенць Вера з в. Навіцкія-2, Круглы Б. П. з в. Дуброўні, міліцыянер Рыбак А. М. Прапалі без вестак старшыня Дубровенскага с/с Балыкін Ф. М., селянін з в. Сухвальня Дзяк.

**1944 год.** На станцыі Ліда пабудавана часовае дэпо на дзве рамонтныя канавы даўж. 80 м.

У гарадской бібліятэцы 685 кніг і 320 чытачоў.

Капітальна адрамантавана царква Ўзвіжання Божага Крыжа.

**1954 год, 16 ліпеня.** Нёманскі сельсавет расфармаваны, яго тэрыторыя раздзелена паміж Беліцкім і Ганчарскім сельсаветамі, Мееpаўскі с/с далучаны да Ваверскага, Дубровенскі, Лідскі і Цвермаўскі аб’яднаныя ў Дубровенскі, Аполінскі і Запольскі - у Крупаўскі, Ольжаўскі і Мытскі - у Белагрудскі, Фалькаўскі с/с пераіменаваны ў Канюшанскі.

**1954 год, 25 снежня.** Уведзена ў эксплуатацыю Лідская ТЭЦ.

**1954 год.** Па вул. Савецкай заканчваецца будаўніцтва гарадскога Дома Культуры з глядзельнай залаю на 500 месцаў, пакоямі для гурткоў.

Дзяржаўная рэгістрацыя міжраённага аддзела кінапракату.

**1964 год, ліпень.** Устаноўлена званне Ганаровага грамадзяніна г. Ліды.

**1964 год, 20 жніўня.** На базе вячэрняга філіяла Менскага палітэхнікума адкрыты Лідскі індустрыяльны тэхнікум (пастанова Савета Міністраў БССР № 382 ад 18 жніўня і распараджэнне па Міністэрству вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесійнай адукацыі № 544).

Заводам “Лідсельмаш” пабудаваны тыповы будынак на 600 навучэнцаў для Лідскага тэхнікума.

**1964 год, 8 кастрычніка.** Гарадскому парку прысвоена імя Ленінскага камсамолу.

**1964 год, 15 лістапада**. Адкрыты Лідскі планетарый.



*Лідскі планетарый*

www.kamunikat.org

**1964 год.** Адкрыты 4-ты аўтобусны маршрут.

**1974 год.** На мясакамбінаце пабудаваны шкурапасолачны цэх.
Пабудаваны шляхапровад па вул. Ленінскай.
Пачало працаваць народнае прадпрыемства "Праца", у 90-х гадах "Тэмп".

**1974 год, 10 кастрычніка**. У г. п. Дзітва адбыўся пуск новага брыкетнага завода магутнасцю 108 тыс. тон паліва ў год.

**1984 год.** У Лідзе 4 паліклінікі, у гарадской бальніцы 15 спецыялізаваных аддзяленняў.
У Лідскім раёне 7 бальніц, 2 амбулаторыі, 30 фельдшарска-акушэрскіх пунктаў, 19 здраўпунктаў, 13 аптэк, абласная псіханеўралагічная бальніца на 650 ложкаў, 2000 работнікаў, у тым ліку 307 лекараў (4 заслуженныя лекары БССР, 33 выдатнікі аховы здароўя), 920 работнікаў сярэдняга медычнага персаналу і 126 аптэчных.
У Лідзе 13 сярэдніх школ, 1 пачатковая і 1 школа рабочай моладзі. 15 тысяч вучняў. 31 дзіцячы садок з 5000 дзяцей. 57 бібліятэк з кніжным фондам звыш 822 тысяч тамоў.
31 аўтобус, працягласць аўтобусных маршрутаў 54,2 км.
Сярэдняя заработная плата 175,6 рублёў у месяц.
Тавараабарот- 94,2 млн. рублёў.
Здадзены ў эксплуатацыю 680 кватэр -25,5 тыс. кв. м. жылля.
У асабістым карыстанні лідзян 4500 легкавых аўтамабіляў.

**1984 год, 26 жніўня.** Адбылося тэатралізаванае Свята Працы.

**1984 год, канец жніўня.** Створана Беларускае спецыялізаванае тэрытарыяльнае ўпраўленне (БСТУ) "Конус".

**1984 год**. Пачаліся работы па будаўніцтву заводаў "Ізатрон" і "Нёман".

**1989 год, 16 снежня.** Устаноўчая канферэнцыя Лідскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Першым старшынём абраны Міхась Мельнік.

**1994 год, 8 ліпеня.** На праваслаўных могілках па вул. Савецкай адкрыты помнік падпольшчыкам.

**1994 год, 1 верасня.** Адкрыта Ёдкаўская СШ.
У СШ № 16 адкрыты польскі клас - 13 вучняў.

**1994 год, кастрычнік.** У Лідзе прайшоў турнір па вольнай барацьбе памяці пераможца Кубка Свету, двухразовага чэмпіёна СССР Ігара Міхальчука сярод хлопцаў 1980-81 г. нараджэння ў 13 вагавых катэгорыях. У спаборніцтвах прынялі ўдзел больш 100 спартсменаў з Масквы, Менска, Пінска, Ліды, Свіслачы, Бераставіцы.

**1994 год, лістапад.** Пастаўлены металічны крыж ля в. Агароднікі на месцы пахавання трох польскіх афіцэраў, расстраляных у верасні 1939 г.

**1994 год.** На міжнародным конкурсе юных кампазітараў "Надзея-94" зноў перамог навучэнец Лідскай музычнай навучальні Яўген Ларыёнаў.

**1994 год.** Заселены Новы Паўднёвы гарадок (вуліцы Зарэчная і Лётная). Здадзены ў эксплуатацыю гандлёвы цэнтр "Патсдам", пошта, філія "Беларусбанка", рэстаран, бар, паліклініка, дзіцячы садок, новы корпус СШ № 9.



***Новы Паўднёвы гарадок***

www.kamunikat.org

# Лідскія юбіляры 2004 года

**КАРЫЦКІ Міхал** (07.09.1714 - 10.03.1781) - ураджэнец маёнтка Дзітрыкі Лідскага павету (там пахаваны яго бацька), манах-езуіт, доктар філасофіі (к. 1750), паэт, педагог. Пісаў на лаціне вершы, казкі, элегіі, пасланні, пароды і, оды і паэмы, найбольш вядомая з іх - сатырычная паэма "Птушыны сойм". Пры жыцці выдаў 25 вершаў, у тым ліку "Аўстрыйскі Марс" (1756), "Дыфірамб" (1757), "Песня" (1781). Пасля смерці, праз 36 гадоў, у Полацкай езуіцкай Акадэміі быў выдадзены зборнік яго твораў пад назвай "Песні" (1812). У 1863 годзе Карыцкія прынялі ўдзел у паўстанні, іхнія землі былі перададзеныя Макрэцкім.

**НАРБУТ Тодар** (Тэадор Матэвуш, Фёдар Яўхімавіч; 28.10.(8.11.) 1784, б. маёнтак Шаўры Лідскага пав., цяпер Вораноўскі р-н – 14.(26.) 11.1864), гісторык і археолаг. Скончыў Віленскі універсітэт (1803). У 1803 прыняты ў Пецярбургскі кадэцкі корпус. У 1804 удзельнічаў у рабоце камісіі па распрацоўцы праекту рэгуляцыі Нёмана. Удзельнік руска-пруска-французскай (1806-07) і руска-шведскай (1808-09) войнаў (капітан рускай арміі, вайсковы інжынер). Аўтар праекта Бабруйскай цвердзі і ўдзельнік яе будаўніцтва. З 1812 у адстаўцы, жыў у сваім маёнтку, даследаваў гісторыю ВКЛ. Першы на Беларусі даў вызначэне курганам як месцам старажытных пахаванняў. Вёў раскопкі ў Падняпроўі, пазней – на радзіме. У 1820 адкрыў ямнае пахаванне непадалёку ад в. Шаўры Лідскага павету. Апісаў руіны цвердзі на Нёмане каля в. Лыскава Гарадзенскага павету. Сцвярджаў, што дрыгавічы невядомага паходжання жылі каля Кіева. Памылкова адносіў яцвягаў да скіфскіх плямён. Геральдыку Беларусі не лічыў старажытнай, бо аналагічная існавала і ў суседніх народаў. Даследаваў Лідскі замак. Збіраў і вывучаў помнікі археаграфіі. Аўтар "Гісторыі літоўскага народа" (т. 1- 9,1835-41; давёў падзеі да 1569), у 1-м томе змясціў табліцу сваіх знаходак. Увёў у навуковы ўжытак Кроніку Быхаўца (1846). Меў багатую калекцыю археалагічных матэрыялаў. Апублікаваў шэраг артыкулаў пра Ліду, Наваградак, Індуру і інш., займаўся пытаннямі старажытнай міфалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыкі. Бацька герояў паўстання 1863 года: Людвіка (загінуў у баі), Баляслава, Францішка, Тадоры, а таксама славутага лекара Станіслава Нарбута ды яшчэ двух сыноў і трох дачок.



*Т. Нарбут (позні партрэт)*




*Двор у Шаўрах*

Асаблівыя заслугі роду Нарбутаў перад Беларуссю былі ў поўнай меры "ацэнены" расейскаю ўладаю. Жонка Т. Нарбута Крысціна і сын Баляслаў былі сасланыя. Францішак эміграваў. Сам 79-гадовы, моцна хворы Тодар быў пакінуты пад наглядам паліцыі ў Вільні, дзе і памёр. Маёнтак Шаўры, у якім была напісана "Гісторыя літоўскага народа", разрабавалі, калекцыі і дакументы вывезлі.

У незалежнай Беларусі выдалі вельмі шмат розных помнікаў гісторыі і культуры, але да гэтага часу не выдадзена "Гісторыя літоўскага народа" Тодара Нарбута.

www.kamunikat.org

**ЛЯСКОВІЧ Марыя** (1864 - 22.05.1939), дачка ўдзельніка паўстання 1863 г. Настаўніца ў в. Пяткоўшчына Лідскага павету, заснавальніца (1924) і настаўніца прафесійнай жаночай школы ў Ішчолне. У 1929 г. атрымала "Залаты крыж заслугі" з рук прэзідэнта Масціцкага, у 1939 г. узнагароджана ордэнам "Адраджэння Польшчы".

**НАРУШЭВІЧ Язэп** (Іосіф, 6.09.1914- 6.01.1994) Нарадзіўся ў Лідзе ў мікрараёне Ферма ў сям'і чыгуначніка. У 1915 г. разам з бацькамі эвакуяваны ў ваколіцы Гомеля. Сям'я вярнулася ў Ліду ў 1922 г. Язэп закончыў агульнаадукацыйную СШ № 5, у 1930 г. паступіў у нанава створаную Гандлёвую школу піяраў. Быў адным з лепшых вучняў гэтай школы. На агульнапольскіх стралецкіх спаборніцтвах заваяваў бронзавы медаль у стральбе з вайсковай зброі.



*Я. Нарушэвіч*

Пасля атрымання дыплома ў 1935 г. выехаў у Кракаў, вучыўся ў піярскім калегіюме. У 1939 г. з пачаткам вайны пяшком прыйшоў з Кракава ў Ліду.

Разам з бацькам і суседзямі Язэп Нарушэвіч прыняў удзел у вызваленні вязняў з турмы на вул. Сыракомлі ў апошніх днях чэрвеня 1941 г. У час акупацыі працаваў у аптэцы як бухгалтар і забеспячэнец. У 1944 г. працаваў бухгалтарам у швейнай арцелі. Вясной 1945 г. выехаў у Польшчу, жыў у Лодзі. Закончыў філасофскі факультэт у Лодзінскім універсітэце і Вышэйшую духоўную семінарыю ў Лодзі. У 1951 г. пасвенчаны ў капланы. Быў вікарыем парафіі ў Згержы, затым у Азоркаве. У 1964 г. атрымаў дактарат па філасофіі ў Тэалагічнай акадэміі ў Варшаве. Праз некалькі гадоў быў прызначаны духоўным пастырам у Вышэйшую духоўную семінарыю Лодзі, а затым натарыюсам у Епіскапскую Курыю. У 1972 г. атрымаў пробства ў Ласку, дзе да 1986 г. был пробашчам і дэканам Ласкага дэканату. Ганаровы канонік Ласкай калегіі. У 1975 г. арганізаваў у Ласкай плябаніі 1 з'езд выпускнікоў Гандлёвай школы свайго выпуску. У 1986 г. пайшоў на пенсію. Пахаваны ў Ласку.

**СВІРЫДАЎ Пётр Мацвеевіч** (1914-1941), дырэктар Лідскага музея ў 1940-41, ураджэнец в. Грышына Слабада Жукаўскага раёна Бранскай вобласці, выпускнік Ленінградскага кніжнага тэхнікума, студэнт-завочнік гістарычна-архіўнага факультэта Маскоўскага бібліятэчнага інстытута. Вядомыя тэксты двух яго лістоў, напісаных у 1941 г. сябру дзяцінства І. Г. Ганічаву. У лісце ад 8 траўня ён паведаміў: «Веду борьбу с районными организациями за помещение для музея... Живу по-холостяцки, по-студенчески (жыў па вул. Камсамольскай, 53)... в Лиде хорошие паненки. Одна у меня работает секретарем». У апошнім лісце ад 11 чэрвеня ён пісаў: «..наметил провести археологические раскопки... Вел на днях великую борьбу с областными и районными организациями по вопросу сноса нашей Лидской крепости. Нужен был камень для спецстроительства, решили разобрать замок - памятник старины. Долго пришлось скандалить, разъяснять - не помогло. Тогда дело дошло до правительства. Я довел до сведения СНК БССР. Через 30 минут после моей телеграммы председатель СНК БССР Былинский позвонил в Лиду и отдал приказ о прекращении разбора-сноса крепости». У тым жа лісце ён паведаміў прыяцелю, што закахаўся, як хлопчык, у нейкую польку.

У першыя дні вайны экспанаты музея былі эвакуяваныя. Каля Смаленска ў машыну трапіла авіяцыйная бомба. Верагодна, разам з экспанатамі загінуў і Пётр Свірыдаў - абставіны яго смерці невядомыя.

**ДЗІКЕВІЧ Мікалай Мікалаевіч,** нарадзіўся 20 верасня 1924 г. у в. Дзітрыкі. Беларус. Закончыў гадзічны Лідскі педагагічны тэхнікум (1945). 8 студзеня 1946 г. прызваны ў шэрагі Чырвонай арміі, дэмабілізаваны 4.02.47 у годнасці "малодшы сяржант". Настаўнік у школах Лідскага раёна. Да выхаду на пенсію працаваў выкладчыкам фізкультуры ў Нёманскай школе. Узнагароджаны знакам ДТСААФ «За актыўную работу» (1975). Аўтар гістарычна-этнаграфічнага эсэ "Дзітрыкі: згукі заснуўшай цывілізацыі" (друкуецца ў часопісе "Лідскі летапісец" з 2001 г.). Гэтае эсэ мае ўсе падставы лічыцца лепшым творам такога жанру ў Беларусі пачатку 21-га стагоддзя.



*М. Дзікевіч*

www.kamunikat.org

**МЕЛЬНІК Міхась Іванавіч.** Нарадзіўся 7 лістапада 1949 года ў вёсцы Майсеевічы Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Вучыўся ў Гарадзенскай прафесійна-тэхнічнай навучальні № 49 хімікаў. У 1972 годзе скончыў філалагічны факультэт Гарадзенскага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы. Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры Астравецкай СШ, намеснікам дырэктара Красноўскай і Голдаўскай сярэдніх школ Лідскага раёна, старшынём прафсаюзнага камітэта Лідскай ПТН – 196, з 1984 года выкладае беларускую мову і літаратуру ў Лідскім дзяржаўным педагагічным каледжы.



*М. Мельнік*

Міхась Іванавіч вядомы як творчы і дасведчаны педагог, якому ўласцівы высокі прафесіяналізм, дабрасумленныя адносіны да працы. Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь (1995 г.). Выбіраўся народным дэпутатам Гарадзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў па Маладзёжнай выбарчай акрузе № 51 (1990-1995 гг.). З 1989 года па 1997 год з’яўляўся першым старшынём Лідскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Галоўны натхняльнік і рухавік ідэі пабудовы ў горадзе Лідзе помніка вялікаму першадрукару і асветніку Францішку Скарыну (адкрыццё адбылося 25 ліпеня 1993 года, скульптар Валяр’ян Янушкевіч). Уваходзіў у склад Тапанімічнай камісіі пры Прэзідыюме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (1992-1994 гг.).

Першы верш на рускай мове надрукаваў у 1966 годзе ў рэспубліканскай газеце “Зорька”. А першы верш на беларускай мове “Задуменная ноч” з дабраславення славутага Васіля Быкава быў надрукаваны 25 лістапада 1967 года ў газеце “Гродзенская праўда”. Суаўтар (разам з Пятром Чаборам) зборніка вершаў “Скрыжаванне” (Менск, Міжнародны фонд “Беларускі кнігазбор”, 1996 г.). На працягу доўгіх гадоў публікуе свае літаратурна-крытычныя, навукова-метадычныя і публіцыстычныя артыкулы ў мясцовым, абласным і рэспубліканскім друку. Неаднаразова выступаў па радыё і тэлебачанні. З’яўляецца адным са стваральнікаў у Лідскім педкаледжы Музея асветы і культуры Лідчыны і адным з заснавальнікаў і выдаўцоў газет “Народная трыбуна” і “Голас з Ліды” (1992-1995гг.). Кіраўнік літаратурнага аб’яднання “Суквецце” пры рэдакцыі “Лідскай газеты”.

На словы Міхася Мельніка напісана шмат песень кампазітарамі Я. Петрашэвічам, В. Пыпецем, Дз. Мазітавай, С. Мазітавай, Д. Ціханам. С. Лявонавай, С. Чарняком, І. Воранам, В. Пазнуховай і іншымі.

Узначальвае арганізацыю ТБМ педкаледжа – адну з самых буйных у Беларусі.

**СУДНІК Станіслаў Вацлававіч,** нарадзіўся 21.09.1954 г. у в.Сейлавічы Нясвіжскага раёна (у сапраўднасці на хутары Касцянева каля Сейлавіч). Закончыў 10 класаў Сейлавіцкай СШ, Менскую ВІЗРН, Цвярскую вайсковую камандную акадэмію імя маршала Савецкага Саюза Г. К. Жукава (завочна). Ордэн «За службу Радзіме» 3 ступені, медаль «За баявыя заслугі». Падпалкоўнік запасу. Жыве ў Лідзе з 1994 года.



*С. Суднік*

З 1990 па 1992 г. выпускаў газету «Рокаш» у г. Прыазёрску ў Казахстане. Выдаў «Шыхтовы статут беларускага войска» (1992), зборнік вершаў «Пагоня за мову» (1992), «Кароткі расейска-беларускі вайсковы слоўнік» (1993), «Расейска-беларускі вайсковы слоўнік» на 8 тысяч слоў (1997), кнігу вершаў “Мой Грунвальд” (1999), публікаваўся ў часопісах «Полымя» (1992), «Маладосць» (1997), «Лідскі летапісец» (1997-2005), «Роднае слова» (1995), газетах “Рокаш” (1990-1992), “Літаратура і мастацтва” (1993-94), «Лідская газета» (1994), “Пагоня” (1995-1997), «Наша слова» (1997- 2005), “Тэлескоп”(2001-02, 2004-05), “Новы час” (2004).

Рэдактар газеты «Наша слова» з 1997 г., рэдактар газеты «Голас з Ліды» (1995), заснавальнік часопіса «Ад лідскіх муроў» і рэдактар асобных нумароў, выдавец газеты «Голас Ліды» (1998-1999), рэдактар часопіса «Лідскі летапісец», рэдактар газеты “Тэлескоп”(2001-02, 2004-05).

Старшыня Лідскай гарадской арганізацыі БНФ “Адраджэнне” і Партыі БНФ з 1994 г.

Сябар сойму БНФ “Адраджэнне” і Партыі БНФ з 1995 г. па 2003 г.

Дэпутат Лідскага гарадскога савета (1995-1999).

www.kamunikat.org

Намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ з 1994 г. Сябар рэспубліканскай Рады ТБМ з 1995 г. Старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" з 1998 г. Сябар тэрміналагічнай камісіі ТБМ.

Старшыня Альянсу "Дэмакратычная Ліда" з 1995 г.

Старшыня Асамблеі няўрадавых арганізацый Гарадзенскай вобласці (1997-2003).

Старшыня Лідскага літаратурна-мастацкага аб'яднання "Рунь" з 1997 г.

Сябар Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута з 1998 г.

Сябар Беларускай асацыяцыі журналістаў з 2000 г.

Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з 16 сакавіка 2001 г.

Адзін з заснавальнікаў "Фонда развіцця рэгіянальнай прэсы".



*В. Дзікевіч*

**ДЗІКЕВІЧ Валеры Мікалаевіч**, нарадзіся 25 верасня 1964 г. на ст. Нёман Лідскага р-на. Пасля заканчэння ў 1981 годзе Нёманскай СШ працаваў на мясцовых будоўлях мулярам і цеслем, служыў у войску. З 1986-га па 1991 год вучыўся на факультэце міжнародных зносін Маскоўскага дзяржаўнага інстытута міжнародных зносін МЗС РФ (МДІМЗ МЗС РФ). Пасля заканчэння інстытута поступіў у вочную аспірантуру МДІМЗ на кафедру паліталогіі, якую закончыў у 1996 годзе, але ўжо ў завочнай форме. З кастрычніка 1992-га па снежань 1993 года вучыўся на факультэце эканамічных і сацыяльных навук Манчэстарскага універсітэта (Вялікабрытанія), дзе атрымаў ступень магістра эканамічных і сацыяльных навук. Пасля вяртання з Англіі выкладаў у МДІМЗ, кансультаваў камерцыйныя і грамадскія арганізацыі, вёў уласную калонку ў дадатку да газеты «Московская правда» - «Красная площадь». У верасні 1994 г. стаў адным з арганізатараў і кіраўнікоў штомесячнага навукова-публіцыстычнага часопіса «Бизнес и политика», першы нумар якога выйшаў у снежні таго ж года. У якасці адказнага сакратара і рэдактара часопіса быў ініцыятарам шэрагу важнейшых публікацый, якія прынеслі яму вядомасць у навуковых і экспертных колах. На старонках «Бизнеса и политики» ўпершыню ў расійскай палітычнай журналістыцы былі шырока і ўсебакова разгледжаны праблемы лабізму, груп інтарэсаў у сучаснай расійскай палітыцы, карпаратывізму, узаемастасункаў бізнесу і палітыкі ў Расіі і замежных краінах. Са снежня 1994 г. па чэрвень 1996 г. падрыхтаваў да публікацыі каля ста пяцідзесяці артыкулаў, сярод якіх тэксты такіх вядомых палітолагаў, сацыёлагаў і журналістаў, як Ю. Перагудаў, М. Ільін, В. Цымбурскі, А. Мядзведзеў і інш. У «Бизнесе и политике» публікаваліся і ўласныя артыкулы В. Дзікевіча на актуальныя тэмы. У пачатку 1995 г. разам з групай сяброў і аднадумцаў стварыў Цэнтр кіраўнічага праектавання (ЦКП), супольнасць маладых эканамістаў, сацыёлагаў, палітолагаў, псіхолагаў, кіраўнікоў, журналістаў, спецыялістаў у іншых абласцях ведаў. Вынікам цэлага шэрагу семінараў і інтэлектуальных абмеркаванняў у рамках ЦКП сталі артыкулы яго экспертаў, апублікаваныя ў расійскіх друкаваных выданнях. Так, напрыклад, тэкст, напісаны В. Дзікевічам у суаўтарстве з А. Садавым і А. Фяцісавым і апублікаваны пад загалоўкам «Контрольный пакет, как проклятие российской приватизации» у часопісе «Бизнес и политика» (чэрвень 1996 года), а затым пад загалоўкам «Виртуальный мир российской экономики» -у газеце «Деловой мир» (жнівень 1996 года), стаў, па агульным прызнанні, важнай вехай у абдумванні постпрыватызацыйнай рэальнасці сучаснай Расіі. А артыкул В. Дзікевіча, А. Тупіцына і А. Фяцісава «В поисках «субъекта развития», апублікаваная ў дадатку да «Независимой газеты» «НГ- сценарии» у кастрычніку 1997 года, на думку некаторых рэцэнзентаў, «абазначыў істотны паварот у дыскусіі пра будучыню Расіі» (С. Папоў. Развитие человека как приоритет новой политики. - «Независимая газета», 25.10.1997). Летам 1999 г. лепшыя артыкулы В. Дзікевіча, А. Фяцісава, А. Садава і іншых экспертаў ЦКП увайшлі ў другі выпуск зборніка «Игра на своем поле» М., «Русская линия», 1999. Эксперты ЦКП прымалі ўдзел у некаторых нашумеўшых палітычных, сацыяльных і PR-праектах. З траўня 1995 года па гэты час працуе ў буйных карпаратыўных структурах: кіруе рознага роду PR-службамі, з'яўляецца дарадцам першых асобаў гэтых структур па сувязях з грамадкасцю. У ліпені 2002 г. стаў адным з заснавальнікаў Партнёрства кіраўнікоў PR-служб. У якасці «вольнага мастака» па-ранейшаму публікуе (як правіла, пад псеўданімамі) артыкулы і эсэ на палітычныя тэмы ў розных расійскіх выданнях: «Новых известиях», «Российской газете» і інш. Лаўрэат прэміі «Лучшие перья России» (2002). Пад псеўданімам друкаваўся ў часопісе "Лідскі летапісец".

www.kamunikat.org

# Тодар з Нарбутаў Лідскіх

О, Лідскі край, табою ганаруся,
З слязой на воку Бог цябе стварыў.
Не ведаў свет ніякай Беларусі,
А пра цябе з пашанай гаварыў

* * *

Стаяла Ліда між балот Дайнаўскіх,
Сачыла царстваў лёт і заняпад,
Збірала ў песнях і чароўных казках
Хады стагоддзяў адмысловы лад.

Раслі тут людзі, як дубы на ўзлессі,
Снавалі душы аўру той зямлі,
З сабой з народзінаў лідзяне неслі
І тое, пра што ведаць не маглі.

Але збіраліся, як хмары ў паднябессі
Стагоддзяў дзеі ў памяці людзей,
Пакуль магутны лёс ім не накрэсліў,
Хто стане летапісцам тых падзей.

І ён прыйшоў, нашчадак слаўных родаў,
Чые пад Грунвальдам не сцерліся сляды,
Каб расказаць уласнаму народу
Пра слаўныя і мужныя гады

Ён Остык-Нарбут вырас з тых курганаў,
Што крыве прысвячалі ў дар багам
У час, што называе ксёндз паганым,
І што заўсёды быў наймільшы нам.

Як любім мы дзяцінства свайго годы,
Якімі б цяжкімі не выйшліся яны,
Дзяцінства любяць роднага народа,
Народа тога верныя сыны.

Палонны край цягнуў ярмо галечы
Захопнік ладзіў тут сваю турму,
Але ў мінуўшчыне нам край быў вечным,
І ў будучым быць вечнаму яму.

Нам прышласці не дадзена спазнанне,
Ды нешта ведаць можам мы з яе,
Яна заўжды была адлюстраваннем
Мінуўшчыны, як сутнасці свае.

Чаму "Гісторыі літоўскага народа"
На Лідчыне спадобіў Бог саспець?
Таму, што тут спрадвечная прырода
Ліцьвінскай нацыі здалела ацалець.

Тут вёску перайдзі з сярэдзіны да краю,
І пройдзеш па стагоддзях напраскі,
У прозвішчах Дайнава паўсплывае,
І кельты загамоняць праз вякі.

Тут зажурбоча рэчка па-яцвяжску,
І па-нальшчанску зашуміць лясок,
Гара прастогне нешта па-варажску,
І па-судаўску памаўчыць пясок.

Тут след глыбокі ад славянаў-гудаў,
І крывіч у тым краі не чужы,
Дзяржаўнай воляй, а не нейкім цудам
Плямёнаў спадчыну ліцьвін спажыў.

Плямёны тыя меўшы за карэнні,
Магутны ствол ліцьвіншчыны паўстаў,
А Нарбуту ўсяго што разуменне
Бог гэтай велькае сапраўды даў.

Ён ведаў вельмі, вельмі, вельмі многа,
Да тога і дагэтуль не дайшлі…
… Для следапыта розныя дарогі
Бываюць на спакуслівай зямлі.

Ёсць шлях шырокі, статкам пратаптаны,
Гасцінец біты, хоць яйцо каці,
А для адной сапраўдай апантанных,
Бывае, што і сцежкі не знайсці…

* * *

Паўстанне збіта, край наш здратаваны,
Маскаль, як крук, крумкоча: "На вякі",
А дзесь на вёсцы, Богам занядбанай,
З пяра сцякаюць вольныя радкі.

Прывозяць кронікі да Нарбута з паўсвету,
Знаходкі шлюць, як памяткі вякоў,
Бо так патрэбны загібелым гэтым
Ваколіцам хоць некалькі радкоў

Пра іх багоў, што край той ахіналі,
Пра прашчураў, што верылі багам,
Пра іх князёў, што грозна выязджалі
З-пад старажытных невядомых брам.

Пра тыя гарады, што зніклі назаўсёды
Пра смелых думак нецугляны лёт,
Пра велічнасць забітага народа.
Які забыў, што ён і ёсць народ…

… Шаўры не Вільня, нават, не Варшава,
Не цэнтр культурны, што ні гавары,
Ды піша Нарбут, і сюда рухава
Збягаюцца і хлопы, і цары…

…І пазяхнуўшы з забыцця выходзяць
Альгерд, Кейстут, Вялікі Гедзімін,
Вітаўт ізноў над краем верхаводзіць,
І зноў тут гаспадарыць сам ліцьвін…

www.kamunikat.org

Пра бітвы піша, пра здабыткі нашы,
Што за сахой усходзяць на раллі,
Што нам давалі сенажаці, пашы
І што праз злыдняў так і не далі.

... Яшчэ балонкі не дайшлі да друку,
А ўжо яны ў свядомасці людзей,
Яны нясуць дзяржаўную навуку
І грунт для светлых заўтрашніх надзей.

* * *

Раслі тамы пакрэсленай паперы,
А побач дзеці Нарбута раслі,
І прарастала між народу вера
У велічнасць бацькоўскае зямлі

Як грымне гром наступнага паўстання,
І зноў за край падымуцца сыны,
Не гледзячы на імя і празванне,
Сынамі Нарбута ўсе стануцца яны.

... Раз атрымалася што ў лютай сечы
Клінок казацкі хлопца ледзь не зжаў,
Рассек заплечнік, ды не змог рассекчы
Том Нарбута, што ў тым мяшку ляжаў...

Так том гісторыі збярог хлапчыну,
Ды гэта будзе звужаны пагляд,
Тым творам Нарбут абярог Айчыну,
Якую пляжыў іншаземны гад.

* * *

На поплаве, стаптаным капытамі,
Аж чорна ўсё, ды толькі недзе там,
Нашмат глыбей, пад конскімі нагамі,
Жыве карэньчык недаступы нам.

Табун паскача, цёплы дождж прыльецца,
І глянь-паглянь, сыходзіць колькі дзён,
З пад чарнаты ізноў трава бярэцца,
Зямной бранёю прарастае дзёрн.

* * *

Ляжаць тамы, зрэдчас хто возьме ў рукі,
Не крытыкнуць не зможа не адзін,
Вядома ж, што далёка ад навукі,
Ад сённяшняй, той Нарбут паблудзіў.

Ды толькі здарыцца, калі, бывае,
У Начы да магілы падысці,
І новымі пачуццямі ўсплывае
Душа незачарствелая ў жыцці.

Стаім мы перад велічнай магілай,
Пігмеі дробненькіх адкрыццяў і ідэй,
А ён, тытан, з магутнай сваёй сілай
І з-пад зямлі кіруе і вядзе.

Даў Бог краіне вольную навуку,
Гісторыкамі тут хоць гаць гаці,
Ды з іх да звання Тодарава ўнука
Не кожнаму надарыцца дайсці...

* * *

О, Лідскі край, каб толькі ты і здолеў,
Што даць нам Нарбута, дык, нават, і тады,
Ты заручыўся б шчыраю любоўю
Дзяцей тваіх на вечныя гады.

***Станіслаў Суднік.***



***Беларускія гісторыкі каля магілы Тодара Нарбута ў Начы 11 снежня 2004 г.***

www.kamunikat.org

**Як гэта было**

***15 гадоў Лідскай гарадской арганізацыі Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"***

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА І МЫ

**Рэпартаж з гарадской устаноўчай канферэнцыі ТБМ імя Францішка Скарыны (Ліда, 16.12.1989 г.)**

*(Надрукаваны ў лідскай газеце "Уперад" 3 студзеня 1990 г.)*

***Як мы ўжо паведамлялі, у другой палове снежня адбылася гарадская ўстаноўчая канферэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны. З дакладам "Лёс мовы – лёс народа" выступіў выкладчык педвучылішча, старшыня аргкамітэта па стварэнні Таварыства ў нашым горадзе М. Мельнік. Затым былі спрэчкі. У іх прынялі ўдзел выкладчык педвучылішча Т. Страчынскі, настаўніца сярэдняй школы № 14. С. Канапацкая, дырэктар СШ № 15 А. Сокал, ветэран вайны і працы С. Янец, настаўніца СШ № 6 М. Саўкевіч, загадчык ідэалагічнага аддзела гаркома партыі В. Кучынскі, настаўніца СШ № 13 З. Хітрун, навучэнка педвучылішча І. Захарава, адказны сакратар аб'яднанай газеты "Уперад" Т. Чарнавус, каваль завода "Лідсельмаш" І. Гушчынскі, загадчык гарана А. Мазоўка, намеснік старшыні рэспубліканскай Рады ТБМ Я. Цумараў, мастак А. Судар.***

***На канферэнцыі абрана гарадская Рада Таварыства ў складзе 17 чалавек, а старшынём яе з дзвюх кандыдатур – М. Мельнік.***

***Былі прыняты таксама звароты да дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР, а таксама да жыхароў горада і ўсіх прыхільнікаў беларускага слова.***

***Сёння мы прапануем нашым чытачам дзве думкі аб гэтым нетрадыцыйным мерапрыемстве.***

## ЖЫВІ І КВІТНЕЙ, БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА!

Супярэчлівыя, палярныя думкі і эмоцыі нараджала Лідская гарадская ўстаноўчая канферэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Ад радасці і гордасці за стварэнне мясцовай Рады да пакутлівага болю за прапановы і выказванні некаторых прамоўцаў. Крыўдна і балюча стала на душы, калі адзін з прыхільнікаў Таварыства закончыў выступленне наступным чынам: "Трэба зрабіць так, каб наша Лідская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны патроху не пераўтварылася ў нейкую палітычную арганізацыю. Калі яна стане палітычнай арганізацыяй, калі яна стане філіялам "Адраджэння", я думаю, яна не дасць карысці. Яна павінна займацца не палітычнымі пытаннямі, а пытаннямі культуры, пытаннямі мовы, пытаннямі беларускай літаратуры".

На шчасце, ахоўныя фразы адбіліся толькі кволымі апладысментамі перапоўненай залы. Але ўсё ж такі апладысменты...

Пытанні мовы, культуры, літаратуры трапілі ў разрад непалітычных? І адкуль гэта боязь, гэты страх перад словам "палітыка"? На завяршэнні пятага года перабудовы? Усё ад таго "бацькі народаў" з яго партыйна-бюракратычным механізмам, які дзесяцігоддзямі дрэсіраваў, муштраваў нашага чалавека камандамі "напра... нале..." і г. д. У чаканні адзінага – бяздумна-рабскага паслухмянства ці статкава мітынговага асуджэння "прадажнікаў" народа накшталт лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі Бродскага, Сахарава, Салжаніцына (да нашага гонару, памяць А. Д. Сахарава ўшанавалі мінутай маўчання перад пачаткам канферэнцыі па прапанове дэлегата мастака А. Судара).



*Удзельнік канферэнцыі Пятро Макарэвіч*

Сёння мы атрымалі шанц перамагчы ў змаганні за растаптаную калісьці чалавечую годнасць, рэалізаваць абвешчаныя перабудовай і Канстытуцыяй правы на палітычную дзейнасць, у тым ліку ў розных фармальных і нефармальных аб'яднаннях, у выбарных кампаніях. Аб гэтым сведчыць і адзін з пунктаў прынятай рэзалюцыі: "Вылучыць ад Лідскай Рады ТБМ кандыдатаў у мясцовы, абласны і Вярхоўны Савет БССР".

Мы абавязаны зразумець нарэшце, што ніхто не павінен мець манаполію на палітычную

ўладу, што кожны грамадзянін мае права на палітычную думку і барацьбу, якая становіцца і павінна стаць нормай жыцця ў нашым перабудовачным грамадстве.

Трывогу і напружанне ў залу ўнёс сваім выступленнем абцяжараны сівой галавою і гадамі пенсіянер, заявіўшы, што тут спрадвеку жылі і жывуць палякі, а тыя, каго беларусы лічаць нацыянальнымі героямі (Каліноўскі, Нарбут) – на самай справе палякі і абаранялі інтарэсы Польшчы, што парафія каталіцкая змагаецца з парафіяй праваслаўнай, і пераможа, відаць, каталіцкая, што палякі супраць беларускай мовы, і граніца хутка дойдзе да Стоўбцаў. На гэтых словах з залы пачуліся кволенькія апладысменты салідарнасці з ім, а з прэзідыюму – вокліч абурэння. Але той не ўтаймоўваўся і закончыў ваяўніча:

"Там, дзе мы бывалі, там вы не бывалі".

Не дзіва, што пераважная большасць наступных прамоўцаў прама ці ўскосна, але тактоўна палемізавала з шабельнымі выбрыкамі старога чалавека, заклікаючы з пашанаю ставіцца да культуры і мовы людзей усіх нацыянальнасцяў Беларусі (выступы тт. Саўкевіч, Мельніка, Кучынскага, Ярша, Чарнавуса і іншых).

Здаецца, да месца тут будзе ўспамін з нарады маладых паэтаў Прынёманскага краю ў Гародні амаль 20-гадовай даўнасці, калі Ніл Гілевіч пасля праслухоўвання маіх вepisodes вершаваных опусаў на рускай мове, удакладніўшы, адкуль я і хто па нацыянальнасці, абурыўся з трыбуны: "Дзе той хлопец з Цэнтральнай Беларусі, які забыў родную матчыну мову? Ганьба, ганьба. Ганьба! Тройчы ганьба!" А я, свежаспечаны спецыяліст, з вузаўскім дыпломам у кішэні і з моцна ўбітымі ў галаву пастулатамі наконт хуткага зліцця нацый і народнасцей, асабліва малых, праз рускую мову, адчуваў сябе стаячым адной нагою ў абвешчаным камунізме і смяяўся ў душы з папроку ўмудронага і прадбачлівага паэта. Тым больш падбадзёраны тады ж Андрэем Макаёнкам, які ў перапынку падышоў да мяне і абнадзеіў: "Не слухай, браток, нікога і пішы, як пішацца. Мне твае вершы падабаюцца, і калі б я быў рэдактарам, усе б іх надрукаваў". (Дарэчы, сваё слова драматург стрымаў і даў маю падборку ў часопісе "Неман", які неўзабаве ўзначаліў). А мне спатрэбіліся гады, каб пазбавіцца ад навязаных школай і ВНУ ўтапічных пражэктаў і прапагандысцкіх клішэ наконт "непатрэбнай" роднай мовы. Вось і русачыў. Ды што я! Амаль уся Беларусь стала на хадулі рускамоўя, кінуўшы роднае матчына слова на пагібель пад ногі пакут, здзекаў, прыніжэнняў.

***Ці з яблыкам, ці з агурком***
***Дзень прагандлюем на базары,***
***А вернемся ў бацькоўскі дом –***
***"Вучона", "рускай" мовай жарым.***

***Акцэнт – карова на ільду –***
***Слых рэжа ў Гродні і за Глускам.***
***І гэту коўзкую хаду***
***Сур'ёзна лічым мовай... рускай?!***

***Ды сам вялікі Леў Талстой***
***Да смерці ёй не авалодаў!***
***А мы у прастаце сваёй***
***Валодаем... тыдзень без году.***

***Па-роднаму скажы, спытай –***
***Казеляць вочы, як на турка,***
***Ці скаляць зубы ўсе бадай,***
***Адукаваныя прыдуркі.***

***З пяшчотай маці тут зямля***
***Калыскі ж іхнія гайдала.***
***Размашысты свой верш і я***
***Не роднай мовaю кайданіў...***

Хай гэтыя вершаваныя радкі стануць, запозненай удзячнасцю Нілу Сымонавічу Гілевічу за тыя справядлівыя папрокі, якія да гэтага часу пякуць маё сэрца і сумленне за былую здраду матчынай мове. Балюча і горка было асэнсоўваць на канферэнцыі наплывы гэтых успамінаў. І адначасова радасна, што наш шматмільённы народ схамянуўся і адраджае самае дарагое – сваю мову, праз суполкі і рады ТБМ.

Не з кожным прамоўцам і не з усім выказаным на канферэнцыі можна і трэба было пагадзіцца. Акрамя названых, часам выказваліся іншыя спрэчныя і памылковыя думкі, прапановы. Прысутным працаўнікам раённых, гарадскіх партыйных і савецкіх органаў варта было б паправіць іх. І не трэба было б ім, на нашу думку, дабівацца (і дамагліся!) выключэння з праекта рэзалюцыі ўпамінання побач з пералікам катэгорый прысутных выразу "партыйныя і савецкія прадстаўнікі". Склалася ўражанне, што яны свядома адмежаваліся ад Таварыства. А між іншым, статут сцвярджае, што ТБМ імя Ф. Скарыны – добраахвотная грамадская арганізацыя, якая дзейнічае адпаведна Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі БССР, савецкага заканадаўства, супольна з партыйнымі, дзяржаўнымі, навуковымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі СССР і БССР.

Але галоўная мэта дасягнута – Лідская гарадская рада ТБМ створана! Пажадаем ёй актыўнасці і плёну ў рабоце, каб наша беларускае слова гучала горда, па-дзяржаўнаму, несучы ўсім народам цяпло Братэрства, Дружбы, Павагі, Сумлення. Каб наша беларуская мова ніколі не служыла цёмным сілам зла і не стала мовай варожасці, выведніцтва, правакатарства і паклёпніцтва праклятай мінуўшчыны, якая прынесла мора пакут і крыві не толькі беларускаму народу.

***Пятро Макарэвіч.***

www.kamunikat.org

# З НАЕЗДЖАНАЙ КАЛЯІНЫ

Шчыра кажучы, я не рыхтаваўся браць слова на гэтай канферэнцыі, хаця быў адным з актыўных членаў гарадскога аргкамітэта па яго стварэнні. "Круглы стол" "Без яе мы станем нямымі", падрыхтаваны мною некалькі месяцаў назад, выклікаў самыя супярэчлівыя меркаванні, хаця ў цэлым станоўчых водгукаў было куды больш, чым крытычных. Цяпер рыхтую гэтую пошту да друку, прычым без ніякіх змяненняў, і чытачы самі змогуць пераканацца, хто ёсць хто.

Што датычыцца самой канферэнцыі, то пачалася яна даволі шматабяцаюча, пры вялікім зборы лідчан самых розных прафесій і ўзростаў. Дастаткова сказаць, што ў даволі салідней зале музвучылішча не было дзе ўпасці нават яблыку. І калі ў пачатку канферэнцыі на сцэну выйшлі ў доўгіх квяцістых сукенках удзельнікі фальклорнай групы музвучылішча, грымнулі дружныя апладысменты. Дзяўчаты выканалі шэраг беларускіх песень, надаючы тым самым прысутным той нацыянальны каларыт, якога так не хапае сучаснаму чалавеку. Радыё і тэлебачанне абрынае гэтулькі рок-музычнай мішуры, што падчас застаецца хіба, як той жабе, зашыцца ў глей і хоць часова схавацца ад белага свету, які, здаецца, вось-вось з'едзе з глузду.

Неблагое ўражанне пакінуў і даклад, да якога Міхась Іванавіч Мельнік падышоў даволі творча, па-майстэрску выкарыстоўваючы яркія метафары і іншыя вобразныя сродкі. Асабліва ўразіла параўнанне пустэчы, якая ўтварылася ў душах многіх людзей са своеасаблівым духоўным Чарнобылем. Ёміста і з непадробным болем гаварыў Міхась Іванавіч і аб тым якую непапраўную шкоду нанеслі тэорыя фарсіраванага развіцця нацый і народнасцей, сталінскія рэпрэсіі, у час якіх быў вынішчаны цвет нацый – інтэлігенцыя, аб тым што рэформа аб правапісе 1933 года не толькі абрусіла беларускую мову, але і стала выціскаць яе з паўсядзённага ўжытку.

Беларуская мова павінна набыць статус дзяржаўнасці – гэтая шчырая думка чырвонай ніткай пранізвала, як выступленне самога дакладчыка, так і амаль усіх, хто меў слова пасля яго.

Але, на жаль, выступаючым у спрэчках не хапіла духу. Больш таго, на трыбуну часцей за ўсё выходзілі настаўнікі беларускай мовы і літаратуры і здавалася, што канферэнцыя вось-восьператворыцца ў вырашэнне школьных праблем. Хаця Таварыства беларускай мовы – гэта куды больш шырэйшае паняцце, а вывучэнне беларускай мовы ў школах з'яўляецца хоць і значнай, але не больш як адной з састаўных яго частак. Не можа ж гарадское Таварыства вырашаць, скажам, праблемы рэспубліканскага ўзроўню. А настаўнікі часцей за ўсё гаварылі менавіта пра недахоп падручнікаў і метадычных распрацовак. Прыкра, калі настаўнік не хоча выкладаць свой прадмет па-беларуску, удвайне прыкра, калі ён не можа, нават часова, абысціся без усялякіх метадычак. Ці не таму ў нас усе прадметы і выкладаюцца на адзін капыл?

Ужо досыць шмат і нават залішне сказана пра тое, у які стан трапілі многія нацыянальныя мовы, што з іх знікненнем ляжыць дарога да духоўнага вымірання, інакш кажучы – у нікуды. Але як ужо надакучыла, як нудна становіцца ад фраз накшталт "мова ў заняпадзе", "ратуйце мову". Сёння, як ніколі, патрэбны канкрэтныя справы, а не асуджэнне гісторыі (яна ўжо асуджана). Зашмат іх прагучала і на канферэнцыі як у спрэчках, так, нажаль, і ў самім дакладзе.

У цэлым жа, на маю думку, стварэнне ў нашым горадзе Таварыства беларускай мовы з'ўляецца вялікай заваёвай тых, хто змагаецца за яе адраджэнне. У што ператворыцца яго дзейнасць – у фразы накшталт "мова ў заняпадзе" ці ў канкрэтныя справы – пакажа час.

***Т. Чарнавус, сябар ТБМ.***

## З В А Р О Т

**удзельнікаў Лідскай гарадской устаноўчай канферэнцыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны да лідчан і ўсіх прыхільнікаў беларускага слова**

***Мы, прадстаўнікі рабочых і інтэлігенцыі, вучні школ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, веруючыя і няверуючыя, сур'ёзна заклапочаны станам беларускай мовы. Ад заняпаду культуры, ад духоўнага рабства нас можа выратаваць яна – душа народа, мова, на якой гаварылі Скарына і Багушэвіч, Гарун і Купала... Яна дзяржаўна гучала ў эпоху сярэднявечча і Адраджэння, зноў пачала ажываць у 20-я гады нашага стагоддзя. Але ва ўмовах сталінскіх рэпрэсій, чыноўніцка-бюракратычнай сістэмы апынулася на мяжы знікнення. Ды ёсць яшчэ сілы адрадзіць адабранае і растаптанае!***

***Мы звяртаемся да ўсіх, хто разумее неабходнасць вяртання памяці народу праз мову, падтрымаць праект Закона аб мовах у Беларусі, стварыць у нашым горадзе ўмовы для іх развіцця, у тым ліку беларускай як карэннай.***

***Таварыства беларускай мовы ў Лідзе заклікае з вялікай павагай ставіцца да культуры ўсіх народаў, якія жывуць на нашай зямлі. Дапаможам ім развіваць яе і зробім усё, каб сярод яе раўнапраўна гучала беларускае слова!***

***Шаноўныя сябры! Уступайце ў таварыства, стварайце яго суполкі на прадпрыемствах, у школах і вучылішчах. Вернем нашаму гораду беларускае аблічча, а народам – іх мовы.***

***Няхай жыве Беларусь!***

www.kamunikat.org

***Валеры Сліўкін***

# ЛІДСКАЕ ПАДПОЛЛЕ. ХРОНІКА СУПРАЦІВУ.

22 і 23 чэрвеня 1941 года горад Ліда выцерпеў варварскую бамбёжку. Быў цалкам разбураны гістарычны цэнтр, Паўднёвы гарадок і станцыя Ліда. У цэнтры горада захаваліся толькі асобныя будынкі. Ні адзін з сярэдніх і малых беларускіх гарадоў не вынес такіх жорсткіх бамбёжак.

25 чэрвеня войскі Чырвонай Арміі, органы савецкай ўлады і кіраўнікі прадпрыемстваў пакінулі горад, тутэйшыя жыхары ўцякалі ў навакольныя вёскі.

27 чэрвеня ў горад увайшлі нямецкія войскі.

Тры гады горад жыў ва ўмовах немецкай акупацыі.

3 ліпеня 1941 года быў паведзены першы масавы расстрэл. Пазней, аж да 3 ліпеня 1944 года расстрэлы былі звычайнымі. Самы жудасны масавы расстрэл праведзены 8 траўня 1942 года, у гэты дзень былі знішчаны 5670 яўрэяў: старых, дзяцей і жанчын. За гады вайны па ацэнцы камісіі, якая працавала ў жніўні 1944 г. у Лідзе было знішчана 12000 чалавек.

**З восені 1941 года** ў Лідзе фармуюцца асобныя падпольныя групы, паступова нарастае супраціў акупацыйнаму рэжыму. Да 1943 года ў горадзе былі створаны дзве шырока разгалінаваныя, добра закансп іраваныя сеткі падпольных арганізацый: савецкая (чырвоная) і польская (белая).

**1941 год, 19 снежня.**

Мурын Мікалай Герасімавіч, 1922 г. н. і Емяльян Капачэль падпалілі маторны цэх на лідскім аэрадроме. М.Г. Мурына расстралялі *(ЛІХМ. Ф.52).*

**1942 год, студзень.**

Канашэвіч Іван Андрэевіч, 1909 г. н. спаліў 2 грузавыя аўтамашыны і трактар – снегаачышчальнік на аэрадроме *(ЛІХМ. Ф.38, с.1).*

З Лідскага гета ўцяклі браты Туўе, Асаэль і Зусі Бельскія, якія стварылі партызанскі аддзел імя Калініна.



***Р. Сасноўскі***

Ваеннапалонныя Р. Сасноўскі і К. Тартычны, падпольшчыкі Л. Халявінскі і А. Клімко спалілі завод па вырабу канструкцый для бункераў і бліндажоў.



***А. Клімко***

А. І. Анацка зманціраваў дэтэктарны радыёпрыёмнік і пачаў прымаць зводкі Савінформбюро, падпольшчыкі распаўсюджвалі іх сярод насельніцтва. *(Кніга "Ліда", 1976, с. 62).*

**1942 год, сакавік.**

Падпольшчыкі А. Клімко, А. Качан, А. Халявінскі (магчыма, таксама М. Ігнатаў) падпалілі пабудаванае дэпо. *(Кніга "Ліда". 1976. с. 63; Ф.51. с.4).*



***А. Качан***

**1942 год, лета.**

Ваеннапалонныя А. Чаркаскутаў і В. Саўчанка забілі чыгуначнага службоўца Вальтара. *(Ампілаў В., Смірноў В. У маленькім горадзе Лідзе, 1962, с. 51-52).*

Ваеннапалонныя Р. Сасноўскі і В. Саўчанка забілі камандзіра ахоўнага батальёна па імені Сашка Боек *(Ампілаў В., Смірноў В. У маленькім горадзе Лідзе, 1962, с. 51-52).*

**1942 год, восень (або красавік 1943).** Забіты камендант (начальнік) гарадской паліцыі Брут. Існуюць тры версіі: а) забілі яго на вул. Лётнай Міхаіл Вінічак і Жорка, б) Забіў Сасноўскі пра выхадзе з касцёла: в) хадзілі чуткі, што яго забілі ўдзельнікі падпольных польскіх арганізацый (ЛІХМ. Ф. 10, с.3).

Уладзімір Пятроўскі і Язэп Федарук забілі двух паліцыянтаў. *(ЛІХМ. ф.35, с.6).*



***У. Пятроўскі***

**1943 год, студзень.**
Падпольшчыкі чыгуначнага вузла ўстанавілі сувязь з партызанскім аддзелам "Іскра".

**1943 год, люты, ноч.**
Падпольшчыкі А. Клімко і Л. Халявінскі ўзарвалі бензасклад. *(Кніга "Ліда". 1976, с. 65).*

**1943 год, 10 лютага.**
Жаданава А. на перагоне дэпо-вугальны склад сапсавала стрэлку. Паравоз зляцеў у канаву. *(ЛІХМ. Ф.51, с.5).*

**1943 год, 15 лютага.**
Падпольшчыкі А. Клімко, М. Кастраміна, ваеннапалонны Р. Сасноўскі і інш. падпалілі (падарвалі) тартак (лесапільны завод). *(ЛІХМ. Ф.51, с.5).*


*М. Кастраміна*

**1943 год, сакавік.**
У тэндар паравоза А. Клімко падлажыў магнітную міну. За 0,5 км ад станцыі Ліда паравоз падарваўся. Міну прывезлі Анатоль і Ніна Качаны, Маша Кастраміна перадала яе А. Клімко. *(Грыблеўскі І. С. Юныя героі Гарадзеншчыны. 1981 , с. 65- 67).*

**1943 год, 13 сакавіка.**
Ваеннапалонны В. Саўчанка падарваў паваротны круг у паравозным дэпо. *(Кніга "Ліда", 1976, с. 63).*

**1943 год, 13 сакавіка, пасля 23 гадзін.** Уцяклі да партызан 15 ваеннапалонных у іх ліку: Бахмутаў, Дабралежа, Туруткін, Кіян, Рэксін, Мардвінкін і інш. *(ЛІХМ. Ф.35. с.38).*

**1943 год, 14 сакавіка, 2 гадзіны 30 хвілін.** Ваеннапалонныя Роберт Сасноўскі і Сямён Паўлаў падарвалі чыгуначную электрастанцыю. *(Акт ад 14 сакавіка 1943 г., падпісаны камандзірам і камісарам партызанскага аддзелу "Іскра").*

**1943 год, лета.**
Падпольшчык А. Клімко магнітнай мінай падарваў аднаўленчы цягнік *(Кн. Ліда. 1976, с.65).*

**1943 год, 6 чэрвеня.**
Створана падпольная група ў Лідскім гэбітскамісарыяце. *(ЛІХМ. Ф.50)*

**1943 год, чэрвень.**
Невядомы сярод белага дня забіў паліцыянта Яна Клышэйку. *(Ямант Я. У цяні замка Гедзіміна 1985, с.139-140).*

**1943 год, жнівень.**
Шут Г.С. прыцягнуў да падпольнай работы тэхнічнага кантралёра ст. Ліда М. І. Нічыпара *(ЛІХМ. Ф.35, с.37).*


*Г. Шут*

**1943 год, верасень.**
Вызвалены з турмы на Сыракомлі начальнік спецгрупы Васіль Рыбіноўскі. У вызваленні бралі ўдзел партызан Жукаў, паліцыянты Хітрун і Хорд. *(ЛІХМ. Ф.46)*

**1943 год, 7 снежня.**
З нямецкага вайсковага лазарэта № 4 –605 г. Ліда ў партызанскі аддзел "Іскра" ўцякла група ваеннапалонных у колькасці 51 чалавека, Пры ад'ездзе знішчылі 2 аўтамашыны, сапсавалі, разбілі электраматор, забілі нямецкага унтэрафіцэра. Трафеі: каля 2000 патронаў, 8 вінтовак, 8 пісталетаў, аўтамат, 3 акумулятары. *(Рапарт камандзіра і камісара партызанскай брыгады імя Кірава ўпаўнаважанаму ЦК КП(б)Б па Лідскаму міжрайцэнтру ад 11.12. 1943).*


*П. Жукаў*

**1943 год, 19 снежня.**
9 ваеннапалонных грузінаў з Паўднёвага гарадка выведзены ў Кіраўскую брыгаду. *(ЛІХМ. Ф.50).*

**1943 год.**
Забіты бургамістр Пінкевіч.

**1944 год. 3 студзеня.**
Ваеннапалонныя Місюкевіч Андрэй, Капусцін, Мельнікаў з будаўнічага лагеры ўцяклі ў партызанскі аддзел "Балтыец" *(ЛІХМ. Ф.51. с.30).*

**1944 год, 18-19 студзеня.**
Аддзел АК з 11 чалавек пад камандаваннем Альфрэда Фрыеса "БЭЗ" (Рончы, Гуцул, Куля, Шчарбаты, Сашка, Стрэмка, Ружа, Здзіслаў, Енчык, Гром) вызваліў з лідскай турмы 69 вязняў – членаў АК і іх памочнікаў па зараней падрыхтаванаму спісу. Ім дапамагаў вартаўнічы Круцько. Быў забіты шэф турэмнай аховы ўласавец Сарокін, усе 69 чалавек цераз могілкі і р. Лідзейку былі выведзены за межы горада.

**1944 год, 1 лютага.**
Дварэцкі, Якубаў, Ставіцкі з дапаможнай

чыгуначнай паліцыі с. Ліда падлажылі магнітную міну ў пост цэнтральнага кіравання чыгункай.

Раніцай міна падарвалася.

**1944 год, першыя дні лютага.**

Салдаты АК Ежы Кеніг і "Славік" у доме на вул. Каштанавай (зараз Марозава) здзейснілі замах на здраднікаў Ежы Рыпера і Яна Мазя. У перастрэлцы ўцалеў толькі Ежы Рыпер.

**1944 год, 24 лютага.**

Падпольшчыкі знішчылі (падарвалі) браняvы вагон на станцыі Ліда. *(Кніга "Ліда", 1976, с. 65).*

**1944 год, 25 лютага.**

Малеўская падпаліла нямецкую казарму па вул. 17 верасня. Казарма цалкам згарэла. *(Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 1399, воп. 1, с. 301).*

**1944 год, 9 сакавіка.**

Р. Астрэйка падлажыў міну пад крэла намесніку гэбітскамісара Дрэкселя, Дрэксель знайшоў міну. Астрэйку павесілі. *(Ф.50, с.34).*

**1944 год, 21 сакавіка, 24 гадзіны.**

А. Пінчук, 1911 г. н. і М. Мельнік кінулі 2 гранаты ў пакой, дзе знаходзіліся 11 немцаў, паранены намеснік гэбітскамісара Дрэксель, нач. гал. аддзела гэбітскамісарыяту Дош, асабісты сакратар Дрэкселя – Адлер. *(Ф.50, с.3,4.).*

**1944 год, красавіка, 18 гадзін.**

На вуглу вуліц Перамогі (Беларускай) і Гагарына (Маладварцовай) чалавекам у кажуху забіты камендант лідскай паліцыі Гільдэбрам.

**1944 год, 13 траўня.**

У аддзел "Балтыец" выведзены 13 чалавек ваеннапалонных. *(Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 1399, воп. 1. с. 391).*

**1944 год, 19 чэрвеня.**

Штаб партызанскага злучэння перадаў у Маскву карту Лідскага аэрадрома, складзеную падпольшчыкамі *(Гапееў Я.Д. З верай у перамогу // У прынёманскіх лясах. 1975*, с.73).

**1944 год, 25 чэрвеня.**

Рассраляны падпольшчык М. М. Ігнатаў.

**1944 год, 3 ліпеня.**

Лётчыкі Першай Усходняй авіяэскадрыллі Арам Саркісавіч Карапецян, Уладзімір Сяргеевіч Маскалец, Панцеляймон Уладзіміравіч Чкуаселі, а таксама 3 пасажыры: Сіма, Толік і Юры Лабуцін-Горскі на трох самалётах уцяклі з Лідскага аэрадрома да партызанаў брыгады "Няўлоўныя" ў раён в. Бакшты. *(Л І Х М , Ф. 54).*



**М. Ігнатаў**

Кучынская Вера і Касарэўская Зоя падарвалі бочку з бензінам на гарадской аўтабазе, знішчана 165 тон бензіну. *(Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф.1399, воп. 1, с.400).*

**1944 год, 3 ліпеня.**

Немцы расстралялі групу вязняў у калькасці каля 40 чалавек, у тым ліку падпольшчыкаў А. Клімко, А. Качана, М. Наказных, З. і Л. Кудачавых, Л. Грынько. *(Л І Х М. Воп. 124. Акт ад 17 жніўня 1944 г.)*

Падпольшчыкі вялі вусную і пісьмовую агітацыю, слухалі і распаўсюджвалі зводкі Савінфармбюро, пісалі ўлёткі і расклейвалі іх па горадзе. Займаліся зборам выведзвестак. Здабывалі зброю, медыкаменты, паперу, друкарскую фарбу.



**М. Наказных**

Лідскія падпольшчыкі М.М. Ігнатаў (1910 – 44), А. А. Клімко (1925-44), А.Г. Качан (1925-44), М.К. Наказных (1923-44), М.І. Кастраміна (1923-43), Л.Ф. Халявінскі (1925-43), Л.Ф. Кудачаў за мужнасць і адвагу, праяўленыя ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у перыяд Вялікай Айчыннай вайны 1941-45 гг. узнагароджаны пасмяротна 10 траўня 1965 года ордэнамі Айчыннай вайны 1-й ступені. Медалямі "За баявыя заслугі" ўзнагароджаны Клімко Кацярына Міхайлаўна. Качан Марыя Пракопаўна, Качан Ніна Гаўрылаўна, Кумідор Марыя Філіпаўна, Канішчава (Анацка) Алена Андрэеўна і інш.



**З. і Л. Кудачавы**

Удзельнікі акцыі па вызваленні вязняў з Лідскай турмы ўзнагароджаны "Крыжамі валечных", Альфрэд Фрыес і "Рончы" – Крыжамі "Віртуці Мілітары".

Імёнамі М. М. Ігнатава, А. Г. Качана, А. А. Клімко, М.І. Кастраміной, М.К. Наказных, Зоі і Лёні Кудачавых названы вуліцы горада.

**Валеры Сліўкін**

# Аднаўленне Ліды: ліпень-снежань 1944 г.

Фронт на працягу тыдня адышоў пад Гародню, заціх гром кананады. Молах вайны ў чарговы раз прайшоў па горадзе. За 1941-44 гады па афіцыйнай статыстыцы ў горадзе было знішчана або пашкоджана 75% жылых дамоў, усе прамысловыя прадпрыемствы, культурна-бытавыя і адміністратыўныя будынкі, установы аховы здароўя і гандлю. Шкода, нанесеная гарадской гаспадарцы акупантамі, была ацэнена ў 405 мільёнаў рублёў. *(Ліда. Гістарычна-эканамічны нарыс. Мінск 1976, стар.77).*

Колькі дамоў знішчана, а колькі пашкоджана, ніхто дакладна не лічыў. У развалінах ляжаў цэнтр горад, цалкам быў знішчаны Яўрэйскі раён, назаўсёды зніклі вуліцы Чырвоная, Базарная, Вясёлая, Малая. Уздоўж вул. Савецкай адзінока ўзвышаліся Язэпаўскі і Фарны касцёлы, дамы купцоў Вітажэнца, Гурэвіча і яшчэ некалькі цагляных каробак. Згарэлі асобныя кварталы на Слабадзе і Песках, але ў цэлым ускраіны пацярпелі значна менш, чым цэнтр. У вельмі пристойным стане заставаўся Паўночны гарадок, без адзінай трэшчыны – будынкі мікрараёна Вялікая Ліда.

Што тычыцца прадпрыемстваў, то амаль не пацярпелі піваварны завод, заводы сельскагаспадарчага машынабудавання № 1 і № 2, фабрыка хімкультпрадметаў, цвікавы завод. Некаторыя разбурэнні атрымаў піўны завод № 2, згарэў недабудаваны мясакамбінат, цалкам было вывезена абсталяванне з фабрыкі "Ардаль".

Насельніцтва паводле афіцыйнай статыстыкі зменшылася на 40%. Мяркую, што гэты працэнт значна большы. У чэрвені 1941 г. у Лідзе жыло каля 30000 чалавек (па перапісу 1938 г. 26257 чал.), а ў жніўні 1944 г. – 12 тысяч. З 8000 даваенных яўрэяў у жывых засталіся адзінкі, тысячы "ўсходнікаў" уцяклі ў першыя дні вайны, сотні мясцовых жыхароў былі расстраляныя або забітыя.

Назаўтра пасля вызвалення ў горад увайшлі партызаны. "Часовае самакіраванне, створанае пры садзеянні нашых паліторганаў, арганізавала расчыстку развалінаў, прыводзіла пасля бою горад у парадак. Усе важныя аб'екты ўзялі пад ахову партызанскія аддзелы, якія дзейнічалі поблізу Ліды і зараз выходзілі з лясоў. У горадзе на вачах аднаўлялася нармальнае жыццё." *(Дабрушын Д. Ад Волгі да Эльбы. Кіеў. 1984. с. 233-234.).*

Партызанскія камандзіры былі вылучаны на партыйную і савецкую работу. Старшынём гарвыканкаму стаў камандзір партызанскай брыгады імя Кірава **Сяргей Піліпавіч Васільеў**, намеснікам старшыні-камандзір аддзела "Балтыец" **Іван Аляксандравіч Пралыгін**, сакратаром гарвыканкаму-камандзір роты аддзела "Іскра" **Аляксей Ціханавіч Глухароў**, старшынём райвыканкаму-камандзір аддзела "За Савецкую Беларусь" **Мікалай Андрэевіч Рашчынскі**, сакратаром – камандзір аддзялення аддзела "Іскра" **Мікалай Фадзеевіч Брушкоў**, заг. гарана – камісар шпіталю брыгады імя Кірава **Ніна Сцяпанаўна Бейзарава.**

---

***Біяграфічная даведка.***

***Васільеў Сяргей Піліпавіч*** *(1904-1973) – старшыня Лідскага гарвыкаканкаму з ліпеня 1944 да сакавіка 1945 г. Нарадзіўся ў Вязьме ў сям'і паравознага машыніста. Рускі. Закончыў чыгуначную школу, вячэрні рабфак (1921). Рабочы ў службе каляі пры ст. Вязьма, у 1926 г. прызваны ў Чырвоную Армію, залічаны ў асобную каманду аднагадзічнікаў 111 Чаркаскага стралковага палка.*

*Агент наркамзему па перасяленні (1928-31). У студзені 1932 г. накіраваны ў Ленінград на бранетанкавыя курсы ўдасканалення і перападрыхтоўкі начскладу, пасля заканчэння залічаны ў кадры РККА як "трыццацітысячнік". Накіраваны ў Слуцк, камандзір звязу, камандзір роты ў асобным танкавым батальёне.*

*У 1939 г. прызначаны ў Віцебску 56-ты карпусны артполк памочнікам начальніка па тэхнічнай часткі, у 1940 г. – начальнікам тэхнічнай часткі палка. У чэрвені 1941 г. начальнік аўта-бранетанкавага аддзе-ла 21-га стралковага корпуса.*

*Трапіў у палон 6 ліпеня 1941 г. У ліпені 1942 г. уцёк з лагера Бушафаберг. Са жніўня 1942 г. камандзір групы ў партызанскай брыгадзе імя Леніна, затым камандзір аддзела Шчучынскага падпольнага райкаму партыі, камандзір партызанскай брыгады імя Кірава. Кандыдат у члены УКП(б) з 1943 г. Старшынём Лідскага гарвыканкаму быў прызначаны ЦК КПБ. Пазней дырэктар Лідскай абутковай фабрыкі "Ардаль" (1945-49), дырэктар шклазавода "Камінтэрн"*



**С. П. Васільеў**

www.kamunikat.org

*Бабруйскага раёна (1949-60). Са снежня 1960 г. на пенсіі. Узнагароджаны ардэнам Чырвонага Сцяга і 4-мя медалямі. Персанальны пенсіянер рэспубліканскага значэння (1965). Ганаровы грамадзянін Ліды.*

---

**Гарвыканкам.**

Асноўныя рашэнні па гаспадарчай дзейнасці ў горадзе прымаў гарвыканкам. Гарвыканкам прызначаў людзей на адказныя пасады, выдзяляў жылую плошчу, нацыяналізаваў прыватнае жыллё, перадаваў будынкі гаспадарчым арганізацыям, арганізоўваў гарадскую гаспадарку. Першы дакумент, прыняты гарвыканкамам - Пастанова аб здачы маёмасці і каштоўнасцяў у гарсавет, другі – рашэнне аб стварэнні інвентарызацыйнай камісіі. 24 ліпеня была прынятая і цераз два дні аддрукаваная ў друкарні пастанова “Аб мерах узмацнення супрацьпажарнай бяспекі”. Пры гарвыканкаме былі створаны гаркамгас, фінансавы аддзел, інвентарызацыйнае бюро (10.08.44), праектнакаштарысная група, камітэт фізкультуры і спорту (1.09.44).

**1 жніўня** была прынятая пастанова аб адкрыцці базара па плошчы 3 –га траўня. Дазволены свабодны продаж усіх с/г прадуктаў, малака і малочных вырабаў, мукі, збожжа, бульбы, птушак, сена, саломы, дроў, рэчаў хатняга абыходжання і да т. п.

**4 жніўня** было прынятае рашэнне аб перадачы ў распараджэнне канторы БТПТ агародаў з парнікамі, рамамі і цяпліцамі.

**5 жніўня** заслушаны праект гарадскога бюджэту на 4-ты квартал.

**15 жніўня** прынята рашэнне перайменаваць вуліцу Чыгуначную ў вуліцу Труханава.

**26 жніўня** двухпавярховы мураваны дом па вул. 7 лістапада (дом лекара Стасевіча) замацаваны ў часовае карыстанне за КЭЧ.

**31 жніўня** дома № 78 А па вул. Школьнай вырашана вызваліць ад жыхароў да 16 гадзін 1.09.1944 г. для спецыяльных патрэбаў НКУС Беларускай вайсковай акругі.

**15 верасня** лідскаму аддзяленню вайсковага гандлю перададзены мураваны двухпавярховы дом № 139 па вул. Савецкай з абавязкам правесці бягучы рамонт да 7 лістапада.

**18 верасня** дом № 86 па вул. Савецкай перададзены пад сталоўку № 2.

**20 верасня** 1944 г. Указам Прэзідыюму ВС БССР Ліда і Лідскі раён выведзены са складу Баранавіцкай вобласці і ўключаны ў склад Гарадзенскай вобласці.

**10 кастрычніка** па заяве лідскага рабіна Мірона Мацвеевіча Савіцкага вырашана вызваліць яўрэйскі дом малітваў, які быў заняты пад склад гаркаму.

Давідзюку дазволена адкрыць фатаграфію па вул. Польнай.

**26 кастрычніка** гарвыканкам абавязаў начальніка міліцыі да 7 лістапада выявіць ўсіх самагоншчыкаў і прадаўцоў самагонкі па г. Лідзе.

**30 кастрычніка** прынята рашэнне аб забеспячэнні ўсіх вуліц трафарэтамі і нумарамі дамоў за кошт насельніцтва горада.

**20 студзеня 1945 г.** арганізаваны дзіцячы прыёмнік-размеркавальнік.

**Заводы і фабрыкі.**

Дзякуючы імкліваму вызваленню горада 3-м гвардзейскім корпусам вытворчыя прадпрыемствы захавалі матэрыяльную базу. Праз месяц пасля вызвалення ў Лідзе працавалі заводы: цвікавы, піваварны, сельскагаспадарчага машынабудавання № 1 і № 2, друкарня, млынакамбінат і прамкамбінат.

**Завод сельскагаспадарчага машынабудавання № 1.**

*“Пасля вызвалення толькі тры дні не працавалі, з 8 па 12. У маёй працоўнай кніжцы такі запіс: “22 ліпеня 1944 года залічаны на працу ў якасці сталяра”, але мы ўжо з 12 ліпеня працавалі. 10 дзён працавалі без загаду. Я тады прыйшоў на завод, Абрэмбскі, Купа-Нікіцін, Оська, Грышкевіч. Знайшоў на тэрыторыі завода вінтоўку, аўтамат. Нікога яшчэ не было на заводзе.*

*Адразу пасля вайны першым дырэктарам быў Іванкоў – ён быў уласавец, хаваўся. Некалькі тыдняў папрацаваў – яго апазналі. Потым іншыя былі , папрацуюць па аднаму - два месяцы, і іх адхіляюць. Гаркам прысылаў. Коўнер (ці Кучнер) – вайсковец, капітан, яўрэй – нядоўга пабыў. Макееў –маёр. Пасля яго Авецікаў, вельмі моцна піў.” **(Мікалайчык Фелікс Уладзіслававіч (1928-2002 – былы рабочы завода сельгасмашынабудавання №1).***

Завод выпускаў арфы (веялкі), конныя малатарні, плугі, церніцы (льномялкі), сячкарні (саломарэзкі) , конныя прывады, бораны “Зігзаг”, сякеры, бабкі для клёпкі косаў, качэргі і чапялі, восі для вазоў, малаткі, вілкі (для чыгуноў), напільнікі, запчасткі для с/г машын, праводзіў рамонтныя работы.

**Завод сельскагаспадарчага машынабудавання № 2.**

31 ліпеня 1944 г. СНК БССР пастанавіў: аднавіць дзейнасць завода сельскагаспадарчага машынабудавання № 2 у г. Лідзе. Дырэктарам быў прызначаны Перабіла, тэхнічным кіраўніком – Круглік, у верасні яго змяніў Раманцоў. Страты, нанесеныя заводу за час акупацыі, ацэнены ў 568 тысяч рублёў. *(ЗДА ў г. Лідзе Ф. 1, воп.1. арк.3).*

У верасні на заводзе працавалі 90 рабочых у ліцейным, мадэльна-сталярным, інструментальным, механічна-слясарным і кавальскім цэхах, групе галоўнага механіка, сілавой гаспадаркі,

www.kamunikat.org

АГА. У чацвёртым квартале – 105 рабочых і 25 вучняў. *(Там жа, арк. 10)*. За верасень было выпушчана прадукцыі на 38,4 тыс. руб. У 4-м квартале – на 141 тыс. руб. *(Там жа, арк.13)*. З 25 верасня для забеспячэння выканання вайсковых замоваў пры недахопе рабочых завод быў пераведзены на 10-гадзінны рабочы дзень. *(Там жа, арк. 56)*. Завод вырабляў чыгуннае ліццё, калёсныя ўтулкі, прасы, скавародкі, чыгункі, восі для вазоў, запчасткі да с/г машын.

**Цвікавы завод.**

Уступіў у дзеянне з 15 ліпеня, вырабляў цвікі і спружыны для матрацаў. На 20 кастрычніка выпусціў прадукцыі на 136 тысяч рублёў.

*"Я прыйшоў на завод 15 ліпеня разам з усімі. Даводзіў да парадку абсталяванне. Праз пару дзён першыя кілаграмы цвікоў былі адпраўлены на склад. Мне больш даводзілася мець справу са станкамі. Рамантаваў, рабіў для іх уручную дэталі. Працавалі без чарцяжоў і тэхналогіі. Вельмі часта даводзілася заставацца пасля змены. Абсталяванне выходзіла з шыхту, а спецыялістаў можна было пералічыць па пальцах. Пра адгулы і думаць не маглі."* ***(Хітрун Іван Аляксеевіч, былы рабочы цвікавога завода.)***

**Фабрыка хімкультпрадметаў.**

Будынак фабрыкі захаваўся непашкоджаным, сыравіна і матэрыялы – у цэласнасці. 10 жніўня 1944 года быў праведзены перапіс сыравіны і хімікатаў. Захаваліся дзесяткі кілаграмаў фарбавальнікаў, цынкавых бялілаў, дзесяткі літраў кіслотаў, сотні літраў шкіпідару, сотні кілаграмаў кааліну, азакерыту, гіпсу на суму ў 10650 рублёў. *(ЗДА ў г. Лідзе, Ф.19, воп.1, с.1, арк.3)*. 15 жніўня былі складзены расцэнкі на чарніла, туш і крэм для абутку. *(Там жа, арк. 4)*. 19 жніўня дырэктар фабрыкі А. Х. Гільдэсгейм звярнуўся ў Наркамат мясцовай прамысловасці БССР з праектам штатнага раскладу. Ён прапанаваў разгарнуць працу ў двух цэхах: фарбавым і разлівачным з прыцягненнем 17 службоўцаў і 30-50 рабочых. *(Там жа, с.2, арк. 4)*. 6 верасня планава-эканамічны аддзел Наркамата мясцовай прамысловасці спусціў фабрыцы вытворчую праграму на 4 квартал 1944 года: гуталін – 100 тысяч баначак, крэйда школьная – 2 тоны, алоўкі для дрэва (хімічныя) – 300 кг, крэйда шавецкая – 1000 кг, чарніла 5000 літраў, туш – 500 літраў, клей канторскі – 800 кг, мыла гаспа-дарчае –2000 кг. *(Там жа, с.1, арк.1)*. 12 снежня планам па працы фабрыцы было запланавана штомесячна ў 4-м квартале выпускаць прадукцыі на суму 45,5 тысяч рублёў. *(Там жа, с. 2, арк 3)*. 17 кастрычніка намеснік старшыні Савета Народных Камісараў БССР М. Грэкава распарадзілася: "Дазволіць Народнаму Камісарыяту мясцовай прамысловасці БССР аднавіць дзейнасць фабрыкі хімкультпрадметаў Наркаммясцпрама БССР у г. Ліда". *(Там жа, с.2, арк.1)*. Дзяржаўная штатная камісія пры СНК ССР 20 снежня зацвердзіла штат у колькасці 8 адзінак службоўцаў . *(Там жа, с. 2)*.



***Фабрыка хімкультпрадметаў***

Сітуацыю з лідскімі вытворчымі прадпрыемствамі ў другой палове 1944 г. адлюстраўвае загад № 251а па Народнаму Камісарыяту мясцовай прамысловасці БССР ад 30.10.1944 г., г. Менск.

*"Рабочыя і інжынерна-тэхнічныя работнікі заводаў сельскагаспадарчага машынабудавання № 1 і 2, цвікавога і фабрыкі хімкультпрадметаў г. Ліда правялі вялікую работу па ўводу прадпрыемстваў у дзеянне. Адрамантавалі рухавікі, значную частку станочнага абсталявання, папоўнілі станкамі механічныя цэхі на 15 адзінак. Сабраны асноўныя кадры рабочых.*

*По стану на 20.10.1944 выпушчана прадукцыі з пачатку дзейнасці (15 ліпеня г.г.):*

***Заводам сельгасмашынабудавання № 1*** *на суму 160 т. р.*

***Заводам сельгасмашынабудавання № 2*** *на*

*суму 127 т. р.*

***Цвікавым заводам** – 136 т. р.*

***Створаны новыя віды вырабаў:***

***Заводам сельгасмашынабудавання № 1*** *арганізавана вытворчасць насечкі напільнікаў, вытворчасць плугоў, кузаваў для аўтамашын, мэблі і нажоў для сячкарняў.*

***Завод № 2*** *асвоіў вытворчасць магнет і поршняў для аўтамашын.*

*Побач з гэтым адзначаны наступныя недахопы:*

***Па заводу сельгасмашынабудавання №1:***

*А) не закончана будаўніцтва сушылкі і ліцейнага цэха;*

*Б) невыкарыстанне вытворчых памяшканняў завода;*

*В) выраблена таварнай драўніны 150 м3 заміж 1000 м3.*

***Па заводу сельгасмашынабудавання № 2:***

*А) пры наяўнасці абсталявання і памяшканняў не арганізаваны дрэваапрацоўчы цэх;*

*Б) не арганізавана вытворчасць вырабаў шырспажыву (прасаў, скавародак, пячных прыбораў і інш).*

***Па цвікаваму заводу г. Ліда:***

*А) не адрамантаваныя 15 цвікавых станкоў і 2 валачыльныя сталы;*

*Б) не нарыхтавана паліва для газагенератара.*

***Недахопы характэрныя для ўсіх заводаў Ліды:***

*А) абсалютна недастаткова арганізавана вытворчасць вырабаў шырспажыву на заводах сельскагаспадарчага машынабудавання № 1 і не прыступалі да іх вытворчасці цвікавы завод і завод сельскагаспадарчага машынабудавання №2;*

*Б) не ўпарадкавана пытанне нормаў выпрацоўкі і расцэнак;*

*В) недастаткова арганізавана наглядная агітацыя: лозунгі, плакаты, паказчыкі стаханаўцаў і моладзевых брыгад;*

*Г) слабая работа па набору і абучэнні вучняў з прыцягненнем жанчын на вытворчасць;*

*Д) слаба арганізавана нарыхтоўка паліва;*

*Е) не прыступілі да вытворчасці і нарыхтоўкі гародніны і не закончаны рамонт сталовак.*

*У мэтах падрыхтоўкі і пуску прадпрыемстваў на поўную вытворчую магутнасць загадваю:*

*1. Кіраўніку Белметызтрэста тав. Бязлюдаву, дырэктарам заводаў сельскагаспадарчага машынабудавання № 1 тав. Макееву А.С., № 2 тав. Перабіла, цвікавога тав. Пузанову і фабрыкі хімкультпрадметаў тав. Гільдэсгейму А. Х. забяспечыць выкананне наступных мерапрыемстваў:*

*А) да 1.12.1944 г. правесці рамонт рухавікоў, усяго станочнага абсталявання і памяшканняў. Рамонт станочнага абсталявання цвікавога завода правесці спецыяльна скамплектаванай брыгадай з слесараў цвікавога завода і заводаў сельскагаспадарчага машынабудавання №1 і 2, для чаго кіраўніку Белметызбуда тав. Бязлюдаву да 1.11. гг. скамплектаваць брыгаду слесараў.*

***Па заводах.***

***Цвікавому:***

*А) да 18.12. 1944 пабудаваць дадатковыя травільныя ванны з разліку прапускной здольнасці пратраўкі 3500 тон катанкі ў год:*

*Б) да 15 лістапада гг. адрамантаваць 15 цвікавых станкоў і 2 працяжныя сталы;*

*В) да 1.01.1945 г. нарыхтаваць і вывезці 2000 м3 дроў лісцвенных пародаў для газагенератара;*

*Г) у мэтах эканоміі электраэнергіі перавесці ўсе цвікавыя станкі на індывідуальныя маторы, а да 1.12.44 г. перавесці цвікавыя станкі з агульнай трансмісіі на групавыя:*

*Д) дабіцца атрымання 80 га ворыўнай зямлі і сенакосаў для арганізацыі прыгараднай гаспадаркі.*

*В) да 15.11 гг. закончыць падрыхтоўку завода да зімы:*

*Ж) арганізаваць вытворчасць спружын для матрацаў, аконных і дзвярных праёмаў.*

***Па заводу сельскагаспадарчага машынабудавання №1.***

*А) да 1.01. 45 г. закончыць будаўніцтва ліцейнага цэха і сушылкі;*

*Б) да 1.01.45 г. устанавіць дадатковы рухавік 25 кс і генератар;*

*В) арганізаваць вытворчасць вырабаў шырокага спажывання, пячных прыбораў, масавую вытворчасць мэблі, бялізнавых прышчэпак і дзіцячых цацак;*

*Г) да 15.11 г.г. закончыць падрыхтоўку завода да зімы;*

*Д) адрамантаваць 2 цягачы і аўтамашыну.*

***Па заводу сельскагаспадарчага машынабудавання № 2:***

*А) да 15.12.44 г. арганізаваць на базе наяўных памяшканняў дрэваапрацоўчы цэх;*

*Б) на працягу лістапада 1944 г. правесці падрыхтоўку вытворчасці для таго, каб са снежня г.г. прыступіць да масавага вырабу прасаў, скавародак, чыгункоў і пячных прыбораў.*

*В) да 15.11. г.г. закончыць падрыхтоўку цэхаў прадпрыемстваў да зімы.*

***Па фабрыцы хімкультпрадметаў:***

*А) да 10.11. г.г. закончыць ацяпленне памяшканняў;*

*Б) да 1.12. г.г. арганізаваць вытварчасць і масавы выпуск грыфельных сшыткаў і алоўкаў;*

*В) арганізаваць у лістападзе месяцы г.г. вытворчасць зубнога парашку з выпускам 1 тоны ў месяц.*

*2. Пры зацверджанні ўрадам народнагаспадарчага плана на 1945 г. вызначаць заданне*

*на 1945 г. і 1 квартал у суме і асартыменце згодна з дадаткам №1.*

*3. Да 20.11. 44 г. арганізаваць на заводах цвікавым, сельскагаспадарчага машынабудавання № 1 і 2, майстэрні па бытавым абслугоўванні рабочых заводаў і іх сямей (абутковыя, швейныя і па рамонту металавырабаў).*

*4. Абавязаць дырэктара Лідскага гарпрамкамбіната арганізаваць працу абутковых і швейных майстэрняў на заводах сельскагаспадарчага машынабудавання № 1 і 2 і цвікавым заводзе.*

*5. Прымацаваць рабочых фабрыкі хімкультпрадметаў да сталоўкі завода №1.*

*6. Перадаць заводу сельскагаспадарчага машынабудавання №1 лакамабіль 25 кс, які зараз выкарыстоўваецца Лідскім цагельным заводам гарпрамкамбіната.*

*7. Для аказання практычнай дапамогі прадпрыемствам Наркаммясцпрама БССР г. Ліда ў распрацоўцы вытворчых праграм на 1945 г. і 1 квартал, распрацоўцы норм выпрацоўкі і расцэнак, уліку, справаздачнасці і абследвання парасілавой гаспадаркі камандзіраваць адказных работнікаў Наркаммясцпрама тэрмінам на 10 дзён з 7.11.44 г.:*

*1. Начальніка вытворчага аддзела Белметвырабтрэста тав. Каплан;*

*2. Інспектара па катланагляду тав. Кулакова;*

*3. Начальніка цэнтральнай бухгалтэрыі тав. Кузянца.*

*Обавязаць дырэктараў завода з 1 па 20.10 перадаць у спраўным стане цягач 65 кс цвікавому заводу ў пастаяннае карыстанне.*

*Начальніку Галоўзабеспячзбыту Круштафуку:*

*А)адпусціць заводам сельскагаспадарчага машынабудавання № 1 два камплекты газагенератарных установак для пераводу цягачоў з вадкага на цвёрдае паліва;*

*Б) цвікавому заводу генератар 57 кс і 10 электраматораў ад 1,5 да 5 кВ.А.*

*Кантроль за выкананнем гэтага загаду ўскладаю на начальніка вытварчага аддзела тав. Рапапорта.*

*Народны камісар мясцовай прамысловасці Лапета.”*

**Піўны завод.**

**18 ліпеня 1944 г.** піваварны завод быў перададзены ў распараджэнне гарвыканкаму. Дырэктарам прызначаны **Пішчыкаў Сяргей Фёдаравіч**, галоўным піваварам – **Валянціна Саевіч**, бухгалтарам – **Дзяшовая**.

*“.. завод знайходзіўся ў хаасным стане. Уся тэрыторыя завода і цэхаў была засмечана і завалена. Заводскія склады разрабаваныя і на свавольства адкрытыя. На складах не было ні зерня, ні соладу. Ні адной транспартнай бочкі. Адзіная маёмасць завода – лагернае піва ў падвалах, запас вуглекіслага газу ў колькасці каля 5 тон, хмель – каля 2,5 тон і піўныя бутэлькі ў колькасці звыш 120000 штук.”*

Заводакіраўніцтва ўзялося за ачыстку тэрыторыі завода і прывядзенне ў парадак вытворчых цэхаў, пасля чаго прыступіла да водпуску піва вайсковым часткам, якія праходзілі праз Ліду.

Магчымасць пуску ў ход вытворчасці піва з’явілася толькі пасля атрымання ў верасні партыі соладу з Гарадзенскага піўзавода ў колькасці 9 тон. 4 верасня завод прыступіў да першай варкі піва. За перыяд да 31 снежня 1944 г. было выварана 18 затораў з колькасцю 441 гкл па гарачаму суслу.

Першыя партыі ячменю паступілі на завод ад дробных дзяржпаставак 3 верасня і вельмі нізкай якасці. Да 30 верасня былі атрымана толькі 9383 кг. ячменю. З кастрычніка завод прыступіў да першай замочкі ячменю для выпрацоўкі соладу. Усяго да канца года было 18 замочак у колькасці 113 т. несартавога ячменю.

Ліманадны цэх у 1944 г. вельмі мала выкарыстоўваўся з-за адсутнасці эсэнсій і матэрыялаў для выпрацоўкі безалкагольных напіткаў. Лесапільны цэх таксама не быў дастаткова скарыстаны з-за адсутнасці драўніны, апрацоўваліся матэрыялы піўзавода на патрэбы бягучага рамонту. Акрамя таго сілавыя ўстаноўкі завода не ў стане даць дастатковую коль-



***Адзін з пасляваенных суботнікаў***

www.kamunikat.org

касць энергіі для поўнай нагрузкі ўсіх цэхаў завода.

У 4 квартале выпушчана 1275 гкл. піва бачкавога жыгулёўскага і 211 гкл. піва бутэлечнага. Цэх безалкагольных напіткаў выпусціў прадукцыі на суму 1, 4 тыс. рублёў.

Убыткі справаздачнага перыяду выклікаецы ненармальнай працай завода. Таму што завод пабудаваны для выканання вялікай вытворчай праграмы, а з-за адсутнасці сыравіны завод не быў цалкам загружаны. Дэбіторскай запазычанасці ў 1944 г. не сабралася. Таму што рахункі на адпусканую прадукцыю выстаўляліся непасрэдна пры выхадзе тавараў і перадаваліся ў банк на інкасо не пазней, чым у 3-х дзённы тэрмін. *(ЗДА у г. Лідзе. Ф. 34, воп.1, с.4, арк 27-29).*

**У студзені 1945 г**. на заводзе працавала 27 чалавек.

**Друкарня.**

**26 ліпеня** ў гарадской друкарні была аддрукавана пастанова "Аб мерах узмацнення супрацьпажарнай бяспекі ў г. Лідзе". Пачала выпускацца газета "Уперад".

**Фабрыка "Арадль".**

Усё абсталяванне фабрыкі "Ардаль" было вывезена ў Германію. У карпусах фабрыкі ў ліпені былі арганізаваны падсобныя склады "Нарыхтзбожжа".

**Бойня.**

**15 жніўня** прыступіла да работы бойня па вул. Фабрычнай, 11, пабудаваная ў 1904 годзе. Усім арганізацыям, установам і прыватным асобам было катэгарычна забаронена праводзіць забой жывёлы па-за бойняй.

**Чыгуначны вузел.**

**З 17 жніўня 1944 г.** пачаў сваю працу чыгуначны вузел. *"Калектывам паравознага дэпо праведзена вялікая праца па аднаўленні і падрыхтоўцы дэпо да працы ў зімовых умовах. Сваімі сіламі адноўлены: кавальскі цэх, слясарныя майстэрні, газазварачны і электразварачны цэхі, аўтаматны і інструментальны цэхі, тры такарныя станкі. Адноўлены будынак для цёплай прамыўкі паравозаў. Праведзена адпаведная праца па падрыхтоўцы кадраў. Арганізавана навучанне машыністаў (20 чалавек), памочнікаў машыністаў (50 чалавек), слесараў (закончыла навучанне 37 чалавек і навучаецца 10)"*

**8 верасня 1944 г.** народны Камісарыят харчовай прамысловасці СССР прыняў рашэнне арганізаваць **Камбінат харчовых канцэнтратаў у г. Лідзе. 12 верасня** пам. начальніка тылу Чырвонай Арміі генерал – маёр Юдзін накіраваў ліст нам. камандуючага БВА па МТЗ генерал – маёру Панову: *"Для абслужвання Беларускага фронту ў г. Лідзе да 1.XI. 1944 па заданні Мікаяна павінен быць зманціраваны і здадзены ў эксплуатацыю камбінат харчовых канцэнтратаў".* Загадвалася аказаць дырэктару гэтага камбіната т. **Міхайлаву Р. В.** дапамогу аўтатранспартам, рабочай сілай і дапаможнымі будаўнічымі матэрыяламі.

**16 кастрычніка 1944 г.** СНК БССР прымае рашэнне: арганізаваць камбінат харчовых канцэнтратаў у г. Лідзе на базе былога піваварнага завода № 2, перадаць згаданаму камбінату будынкі, збудаванні і захаваўшаеся абсталяванне піваварнага завода, а таксама дзве машыны "Імперыял" для сушкі гародніны, якія былі на заводзе.

Бясплатна з Маскоўскага соевага завода быў атрыманы вентылятар, з Горкаўскага завода харчовых канцэнтратаў – тры вентылятары, цэнтрыфуга, тры электраматоры, 5 шківоў, атрыманы таксама рэдуктар, кацёл "Вулкан", электраматор, трансмісійны вал - усяго на суму 21,18 тысяч руб. *(ЗДА у г. Лідзе. Ф.12, воп.1, с.53. арк .13).*

**31 снежня 1944 г.** камісія ў складзе начальніка будаўніцтва Я. С. Талера, галоўнага інжынера Я. В. Бухарына і галоўнага бухгалтара М. І. Вайтовіча, склалі акт аб тым, што прадугледжаныя тытульным спісам на 4 квартал аднаўленчыя работы закончаны і аб'екты ўведзены ў эксплуатацыю. Былі адноўлены склады (адрамантаваны падлогі, столі, сцены, дзверы, страха), кацельная (адрамантаваны трубаправоды, гарэльня, дах і паравая машына), жылы дом (адрамантаваны дзверы, рамы, печы, устаўлена шкло, памаляваны падлогі) кошт рамонту склаў 29,2 тысячы рублёў. *(Там жа, арк. 2).* Пры гэтым патрачана: 3 тоны алебастры, 31 тона цэменту, 118 м2 шкла, 10 м3 лесу круглага, 6 м3 лесу пілаванага, шпалы, 336 кг жалеза ліставога, 288 кг цвікоў, 150 штук чыгунных труб, 94 м3 пяску, 337 кг сталі ліставой. *(Там жа, арк.12).*

Лічыцца, што першыя 200 кг прадукцыі былі адпраўлены на 3-ці Беларускі фронт у лістападзе 1944 г. Аднак, першая чарга харчкамбіната была здадзена ў эксплуатацыю **17 лютага 1945 г.**, і з гэтай нагоды быў правядзены ўрачысты сход, на якім выступіў дырэктар **Нянашаў**. Але фактычна камбінат уступіў у дзеянне ў **красавіку 1945 г.**, калі выпусціў першыя 9,2 тоны прадукцыі. *(Ф. 18, воп. 1, с. 54).*

Вялікія цяжкасці былі з будаўнічымі матэрыяламі. Шукалі іх, дзе толькі маглі. Рашэннем гарвыканкаму ў **жніўні 1944 г**. быў арганізаваны будаўнічы ўчастак № 2. Аднаўленчыя работы павольна, але няўхільна пачалі набываць усё больш арганізаваны характар.

**27 ліпеня** створана аўтатранспартная кантора (АТК), першапачатковая колькасць

www.kamunikat.org

працаўнікоў – 9 чалавек, рухомы склад 4 аўтамабілі.

**28 ліпеня** дырэктарам гарадской лазні празначаны **Хімчанка Іван Дзмітрыевіч.**

**29 ліпеня** загадчыкам цырульні прызначаны **Каравенкаў Васіль Андрэевіч.**

**3 жніўня** на плошчы на вуглу Ленінскай і Перамогі адкрыты рынак для вольнага прадажу.

**У жніўні** аднаўлена гарадская бальніца на 125 ложкаў.

**17 жніўня** быў складзены акт аб злачынствах фашыстаў у г. Лідзе. Падпісаны членамі камісіі: старшыня – першы сакратар гаркама Р.А. Сідарок, адк. сакратар А.Т. Глухараў – сакратар гарвыканкаму, члены: І. А. Радчанка – нам. старшыні гарвыканкаму, Хаметаў – начальнік НКУС, Фіневіч – нач. гар. аддзела аховы здароўя, Л. Ф. Чэшак – святар праваслаўнай царквы, Ю.А. Гнатоўскі – гал. інжынер г. Ліды. Камісія пачала працу 31 ліпеня.

Аднасасова пачала і закончыла працу другая камісія ў складзе старшыні – нам. старшыні гарвыканкаму І. А. Пралыгіна, членаў: І.К. Пяньkoўскага (прадстаўнік гаркаму), пракурора Ф.І. Ніканава, судмедэксперта В.Ф. Стасевіча, ксяндза М. К. Чабаноўскага, святара А. Г. Зукаля, доктара М. В. Галіна і М. І. Кальфа. Паводле дадзеных камісіі за годы акупацыі спалена 913 сялянскіх двароў, знішчана больш 200 будынкаў. Карныя экспедыцыі праводзіліся ў в. Дакудава, Агароднікі, Бобаўцы, Навасёлкі, Леснікі.

**8 верасня** адкрылася гаррайашчадкаса № 6402. Загадчыкам зацверджаны **Слядкоў Пётр Якаўлевіч** – нам. камандзіра партызанскага аддзелу "Іскра" па выведцы, адукацыя – 5 класаў.

Адкрыўся кінатэатр. Начальнікам кінатэатра прызначаны **Васіль Іванавіч Перадзельскі** – камандзір звязу аддзелу "Балтыец".

За 6 месяцаў 1944 г. гарадскія прадпрыемствы выпусцілі прадукцыі на 1 млн. 245 тыс. руб.

**Партыйныя органы.**

**27 ліпеня 1944 г.** адбылося першае паседжанне гаркама партыі. На павестцы дня былі два пытанні: аб складзе аргбюро і ходзе мабілізацыі. Самым першым пасляваенным першым сакратаром быў зацверджаны **Рыгор Аляксандравіч Сідарок** – памочнік ўпаўнаважанага ЦК КП(б) Б і Беларускага штаба партызанскага руху па Баранавіцкай вобласці (1943-44), членамі бюро – **Г. В. Рапчынскі** і начальнік Лідскага НКУС маёр **Галім Бакіравіч Хаметаў**.

---

***Біяграфічная даведка.***

***Сідарок Рыгор Аляксандравіч*** *– першы сакратар Лідскага гаркаму партыі з 27.07.1944 па сакавік 1945 г. нарадзіўся ў 1902 годзе ў в. Варацец Хойніцкага раёна Палескай (зараз Гомельскай) вобласці. Беларус. Адукацыя сярэдняя: закончыў Рэчыцкую фабрычна-заводскую вячэрнюю школу II ступені (1927-32), Гомельскую савпартшколу (1932-34), курсы пры ЦК КП(Б) Б (1937-38).*

*Працоўная дзейнасць.*

*1916-19 – пастух у в. Варацец і в. Плоскае Хойніцкага раёна.*

*1919 –24 – на сельскай гаспадарцы бацькі ў в. Варацец:*

*1924- 11.27 - чырвонаармеец, камандзір аддзялення 98 сп, г. Стары Быхаў.*

*1927-8.28 – міліцыянер Рэчыцкай райміліцыі, г. Рэчыца.*

*1928-32 –рабочы лесапільнага завода ўг. Рэчыца.*

*1932 - 3.34 курсант і сакратар парткаму савпартшколы,г. Гомель.*

*1934-35 – заг. аддзелу прапаганды і агітацыі РК КП(б)Б, г. Дрыса, Віцебскай вобласці.*

*1935-11.37 – старшыня райсавету "Асавіяхіму" г. Дрыса.*

*1937-39 – інструктар Дрысенскага РК КП(б)Б, г. Дрыса.*

*1939-7.39 – заг аддзелу прапаганды і агітацыі РК КП(б)Б г. Вятрыла Віцебскай вобласці.*

*1939-2 40 – інструктар вайсковага аддзелу ЦК КП(б)Б, г. Менск.*

*1940-6.41 – першы сакратар Івянецкага РК КП(б)Б, г. Івянец.*

*3.07.1941 г.– ЦК КП(б)Б з Магілёва накіраваны ў Віцебскі абкам КП(б)Б, адкульэвакуяваўся ўг. Гомель.*

*20.07.1941 – 08.41 – на дыверсійных курсах у г. Гомель.*

*8.1941 –15.08.41 – упаўнаважаны ЦК КП(б)Б на Цэнтральным фронце.*

*8. 1941 – 1.42 – на лячэнні ў шпіталі (Жалезнаводск).*

*1. 1942 –5.42 – у рэзерве Галоў. П.У. ВПШ імя Леніна, г. Масква.*

*5. 1942- 1.43 – інструктар аддзелу кадраў ЦК КП(б)Б, г. Масква.*

*1. 1943- 7.44 – памочнік упаўнаважанага ЦК КП(Б)Б і БШПД і кам.злучэння па Баранавіцкай вобласці.*

*27.07.1944 – 3.1945 – першы сакратар Лідскага ГК КП(б)Б.*

*Узнагародаў не мае.*

*(ЗДА у г. Лідзе, Ф.1, воп. 9, с. 1360).*

---

На наступным паседжанні гаркам стварыў аргбюро вузлавога парткама станцыі Ліда, якое ўзначаліў **І. В. Шамятовец** – камісар партызанскага аддзелу імя Калініна. Неўзабаве былі створаны партыйныя арганізацыі паравознага дэпо, вагонага ўчастка, лясной аховы, аддзялення руху станцыі Ліда, лінейнага аддзелу міліцыі.

На паседжаннях бюро абмяркоўваліся пытанні аб хлебапячэнні, гандлі: "*Есць магчымасць арганізаваць гандаль, таму што некаторыя крамы захаваліся, маецца некалькі сталовак. Але памяшканні крамаў і сталовак не*

*адпавядаюць свайму прызначэнню, не адраман-таваны, не абсталяваны, знаходзяцца ў анты-санітарыйным стане". (З пратакола № 5 ад 9.09.1944 ).* Аб працы хлебакамбіната, канторы хлеббуда, гарпаліва, рэдакцыі газеты, аб афармленні брацкіх магілаў, аб падрыхтоўцы да зімы 8 дыстанцыі каляі, аб зацверджанні кадраў, аб працы дзіцячага дома, аб размяшчэнні адміністратыўных установаў, аб электрастанцыі. Электрастанцыя чыгуначнага вузла была падарвана падпольшчыкамі у сакавіку 1943 г., зараз яе трэба было нанава будаваць.

На працягу верасня – кастрычніка гаркам КП(б)Б зацвердзіў склад гарсавету, стварыў вячэрнія партшколы для сярэдняга звяна партыйных, савецкіх, прафсаюзных і камсамольскіх кадраў, на якіх выкладчыкамі па курсу гісторыі партыі і партыйна-савецкаму будаўніцтву былі Сідарок, Ранчынскі, Федасееў, **рэдактар газеты "Уперад" Драгун.**

**16 верасня** гаркам заслухаў пытанне аб працы аддзела аховы здароўя. Было адзначана, што: *"У горадзе адкрыта 7 лячэбных установаў, што не задавальняе цалкам патрэбаў. Да гэтага часу яны не забяспечаны інвентаром, а бальніцы прадуктамі харчавання... адсутнічае радзільны дом і дзіцячая лячэбная ўстанова. Падрыхтоўка да зімы не пачатая, паліва адсутнічае" (З пратакола № 6 ад 16. 09. 1944).*

**29 верасня** адбыўся першы пасляваенны актыў горада з павесткай дня "Аб бліжэйшых задачах партарганізацый горада ў сферы масава-палітычнай і культурна – асветніцкай работы сярод насельніцтва". Асноўны даклад прамовіў першы сакратар Сідарок. У пастанове ўказвалася на неабходнасць перабудоўваць усю партыйна-палітычную і арганізацыйна-масавую работу ў сувязі з блізкім заканчэннем вайны і пераходам на мірны перыяд.

**4 снежня** паўторна заслухана пытанне аб працы гарадскога аддзела аховы здароўя. Адзначана, што аддзел незадавальняльна вядзе працу. Не падабрана памяшканне пад жаночую кансультацыю і радзільны дом. Не завершаны рамонт бальніцы. Прадукты харчавання для хворых атаварваюцца не цалка. За дрэнную пастаноўку медыцынскага абслугоўванню насельніцтва і невыкананне пастановы гаркаму загадчыка гарздараддзела папярэдзілі

**18 снежня** паўторна заслухаўна пытанне аб працы дзіцячага дома.

На захадзе яшчэ грымелі пушкі і лілася кроў. І "Усё для фронту! - Усё для перамогі!" - гэта былі лозунгі кожнага дня.

**Адукацыя.**

Першым пасляваенным старшынём гарана прызначылі партызанку **Ніну Бейзараву.** На другі дзень пасля вызвалення горада загадчык гарана Ніна Сцяпанаўна Бейзарава сфармавала штат гарана з 8 чалавек.

**15 ліпеня** Н.С. Бейзарава зацвердзіла штаты шасці лідскіх школ: 1-й рускай, 2-й беларускай, 3-й польскай і трох пачатковых: 4-й, 5-й і 6-й. У верасні 1944 г. пачалі працу чатыры школы: руская сярэдняя школа № 1, беларуская няпоўная сярэдняя школа № 2, няпоўная сярэдняя школа № 3 і пачатковая школа № 4.

**30 жніўня 1944 г.** была прынята рашэнне аднавіць дзейнасць Лідскай рамеснай навучальні па адрасу Савецкая, 182 на базе заводаў сельскагаспадарчага машынабудавання №1 і № 2 з кантынгентам навучэнцаў у 300 чалавек. Народны камісар мясцовай прымысловасці БССР звярнуўся да гарадскіх уладаў з просьбай перадаць навучальні будынкі, якія належалі ёй да вайны, выдзяліць неабходныя плошчы для арганізацыі інтарнатаў і сталоўкі, аказаць дапамогу ў забеспячэнні неабходным абсталяваннем, інструментамі, інвентаром і мэбляю, а таксама неабходнымі матэрыяламі для правядзення рамонту і прыстасавання будынкаў для навучальных мэтаў. *(ЗДА ў г. Лідзе. Ф.55,воп.1. 10д, арк.5).* 9 верасня гаркам партыі прапанаваў заводу сельгасмашынабудавання ўзяць шэфства над спецыяльнай навучальнай установай.

50 чалавек моладзі былі накіраваны ў Мастоўскую школу ФЗВ.

**30 жніўня 1944 г.** пачала працу прыёмная камісія па набору навуцэнцаў у Лідскую പеднавучальню. Набор праводзіўся на базе сямігадовай школы і на базе 10 класаў з паскораным курсам навучання (1 год). Калектыў складаўся з 7 педагогаў: Фралоў А. М. – дырэктар, Хацэнка М.Н., Голуб С.Ф., Кардлін Д.П., Старасцін А.А., Левін У.У., Зыкаў. У кастрычніку ў навучальні пачаліся заняткі. **1 снежня 1944 г.** беларуская школа №2 была вызначана базавай школай, якая была цалкам пераведзена на бюджэт навучальні. У снежні было адкрыта завочнае аддзяленне, яго працу ўзначаліў А. А. Старасцін.

**3 ліпеня 1945 г.** Ліда адзначала першае свята вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Усе прадпрыемствы і ўстановы, чырвоныя куткі былі ўпрыгожаны лозунгамі, плакатамі, партрэтамі правадыроў партыі і ўраду. Выйшаў спецыяльны нумар газеты "Уперад". На стадыёне адбылося масавае фізкультурнае свята. На плошчы былі праведзены агульны мітынг і дэманстрацыя працоўных. Быў арганізаваны агляд магіл партызан і воінаў Чырвонай Арміі, былі зроблены агароджы і помнікі, каля брацкіх магіл праведзены мітынгі. Тыя, хто застаўся ў жывых, кляліся палеглым, што яны заўсёды будуць вернымі іх памяці і закончаць справы, якія яны не паспелі завяршыць.

www.kamunikat.org

# ДАСЛЕДЧЫК МАМАНТАЎ З ЛІДЧЫНЫ

У № 17 часопіса "Zestaniec " за 2004 год быў змешчаны артыкул З. Вуйціка "Polscy badacze geologii Syberii", дзе між іншым паведамлялася, што "аднаго з Гданьскіх прыродазнаўцаў у 1716 г. цар Пётр I прызначыў да кіраўніцтва навуковаю выправаю па еўрапейскай і азіяцкай частцы Расіі. Гэта быў Даніл Месершмідт, выбітны даследчык, але адначасова навукова трагічная постаць. На пачатку 1724 г. ён дабраўся да Іркуцка, дзе атрымаў прадпісанне вывучыць рэшткі маманта знойдзенага на Індзігірцы. Дык вось, скарыстаўшы, зручны выпадак, ён выслаў на месца знаходкі лекара Міхала Валаховіча, (Michala Wollochowicza), які знаходзіўся ў няволі. Гэты ж, закончыўшы выправу поспехам, прывёз, разам з рэчавым вопісам жывёліны, пакрытую поўсцю ейную шкуру". Пры гэтым зацёмка спасылаецца на наступную крыніцу: А. Н. Иванов. "Из истории открытия трупов плейстоценовых животных. Сведения поляка М. Волоховича (1724) о находке шкуры на Индигирке" – "Dzieje polskich, rosyjskish badan polarnych. Materialy 111 sympozjum polsko-radzieckiego. Z historii nauk o ziemi. Wrocтaw 25-30 wresnia 1978 r. (Wr. - W-wa. - Kr. -Gd. - t., 1982, s.445-452.), дзе А. Іваноў далей падае наступнае: "Зацікаўлены намі асобай М. Валаховіча (Волоховича) супрацоўнік Музея Зямлі ПАН З. Вуйцік на выснове старапольскіх матэрыялаў выявіў, што Валаховічы жылі ў 1700 г. ў вёсцы Валаховічы Лідскай воласці ў паўночна-ўсходняй частцы Польшчы*. Бліжэйшая вышэйшая навучальная установа знаходзілася ў Вільні. Па меркаванні З. Вуйціка М. Валаховіч мог быць лекарам пры якойсьці залозе. Аднак, як выявілася, у даўняй Віленскай Акадэміі на пачатку XVIII ст. меліся толькі багаслоўскі ды юрыдычны факультэты. Пагэтаму віленскі геолаг А. Грыгяліс выказаў меркаванне, што М. Валаховіч мог быць слухачом Акадэміі па багаслоўскаму факультэту і ў войсках апынуўся ў якасьці служкі культу" (стар. 449). У сваіх дзённіках Даніл Готліб Месершмідт адзначае, што М. Валаховіч быў палонны паляк ("Michael Wolochowicz, ein gefan-gener Pole"), які ў Іркуцку чакаў вызвалення ад выгнання праз пасрэдніцтва "Podstolpe Sinickin" (Meserschmidt D. G. "Forschungreise durch Sibirien 1720 – 1727". Teil 2. "Tagebuchufzeichnungen Januar 1723 - Mai 1724", Berlin, 1964. s. 209.) Як вядома Сяніцкія гербу Боньча, якія з XYI ст. вызначалі кальвінізм, свой род выводзілі з Сенніцы Краснастаўскага павету Бэлзскага ваяводства (Чырвоная Русь). Два сыны Мікалая Сяніцкага – Павел, падстолі Бускі (зараз Буск знаходзіцца ва Львоўскай вобласці Ўкраіны) ды Веспасіян выехалі на службу ў ВКЛ і там былі падтрыманы Радзівіламі. У 1671 г. у Веспасіяна, ад шлюбу з Аляксандрай Станкар, нарадзіўся сын Крыштаф, а ў Паўла, ад шлюбу з Канстанцыяй Станкар, сын Людвік. На элекцыйным сойме ў 1697 г. Крыштаф, услед за саксонскім курфюрстам Аўгустам, абраным каралём Рэчы Паспалітай, прымае каталіцтва пад імем Казімір. Неўзабаве Крыштаф – Казімір атрымлівае ад караля чын генерала артылерыі ВКЛ ды таксама надзвычай даходную Магілёўскую эканомію. Людвік жа робіцца віца-адміністратарам гэтай жа эканоміі і рэгіментарыем (палкоўнікам) беларускай дывізіі ВКЛ. У 1706 г. браты Сяніцкія прымаюць бок караля Станіслава Ляшчынскага, стаўленніка шведаў. У 1707 г. яны ўдзельнічаюць у захопе транспарту з расійскімі грашыма. Раз'юшаны Пётра I загадвае генералу Боўру ўзяць Быхаў, паланіць Сяніцкіх ды даставіць іх у Маскву. "Магілёўская кроніка" Т. Сурты і Ю. Трубніцкага, апісваючы паланенне Сяніцкіх зазначае: "У апошнія дні ліпеня праводзілі Сяніцкіх са значнаю маскоўскаю світаю праз Магілёў…абодва Сяніцкія ехалі на лектыцы акаваныя, так што і шапкі нікаму не маглі зняць. А за імі, на простых калёсах, вязлі Пятуха, пры Сяніцкіх прыслужваў якійсьці іхні пакаёвы…Па заканчэнні абеду масква адразу з Сяніцкімі рушылася з места. Згаданыя Сяніцкія былі завезены да Смаленскай мяжы, а праз Маскву сасланы ў выгнанне на Сібір, дзе доўга там у вельмі вялікіх нястачах жыццё сваё праводзілі, і там з іх адзін памёр, а другі, як з'ехаў з глузду, адасланы быў да Польшчы. А Пятух неўзабаве са сталіцы быў вернуты на Русь, прыбыў да сваіх маёнткаў, якія знаходзіліся ў Магілёўскай эканоміі". *("Могилевская хроника Т.Р. и Ю. Трубницкога" - Полное собрание русских летописей. Т. 35. Летописи белорусско – литовские. М., 1980. стр. 267.)* Як бачым, магілёўскі кранікёр добра ведае магілеўчаніна Пятуха, але не называе прозвішча "пакаёвага" Сяніцкіх, бо пэўна той не быў ураджэнцам Магілёўшчыны ды і знаходзіўся там, пэўна, не вельмі працяглы час. Не называе таксама прозвішча "пакаёвага", але вызначае яго як афіцэра надзвычайны англійскі пасланец пры маскоўскім двары Чарльз Вітварт, які даносіў з Масквы 8(19) кастрычніка 1707 г. статс – сакратару Гарлею ў Лондан што: "Генерал Сяніцкі ("m-r Seniezky"), які (як я меў гонар паведаміць вам 13/24 жніўня) разам з залогай захопленай у Быхаве, адасланы быў ў Варонеж, прысланы назад у Маскву з тыдзень таму разам з ягоным братам і двума другімі афіцэрамі, але ўсе яны ўтрымоўваюцца пад строгім наглядам. Простых жаўнераў сюды не вазвярнулі". А 17(28) снежня 1707 г. ён ізноў даносіў: "Я меў гонар паведаміць вам, што былы Быхаўскі губернатар Сяніцкі, які ўтрымоўваецца

** На сёння вёскі Валаховічы ў Лідскім раёне няма, але ў спісе лідскай шляхты, рэпрасаванай за ўдзелу паўстанні 1863 года ("Лідскі летапісец", № 3-4 за 2003 г.) значацца:* ***Валаховіч Аўгустын*** *(сын Мацея, гадоў 30, з ваколіцы Трабушкі, высланы ў Сібір),* ***Валаховіч Тэафіл*** *(сын Пятра, гадоў 26,* ***з ваколіцы Валаховічы****, быў у аддзеле Нарбута),* ***Валаховіч*** *(Валасовіч)* ***Юзаф****, (сын Аўгустына, гадоў 20, з вёскі Кіўлакі, высланы ў Сібір), што пацвярджае існаванне населенага пункта* ***Валаховічы*** *і дае магчымасць прыблізна ўказаць яго колішняе месцазнаходжанне. (Рэд.)*

www.kamunikat.org

пад строгім арыштам у адным з падмаскоўных манастыроў. 7-га дня бягучага месяца яго, яго брата і яшчэ аднаго афіцэра, звязаўшы па руках і па нагах, кінулі ў звычайныя сані і адправілі ў месца, якое прызначана для катаванняў злачынцаў; туды ж у тую ж ноч прывезены былі прылады катаванняў...” У сваіх успамінах Людвік Сяніцкі пісаў: “...палякі, якія прыехалі ў Маскву дзеля сузірання і святкавання Палтаўскага трыумфу, сакрэтна звярнуліся да нас, ці не жадалі б мы напісаць ў Польшчу, з дэкларацыяй, што жадаюць дабра і бяспечна перавязуць гэтыя лісты. На гэта, не бачачы небяспекі, быў спакушаны мой брат, пан генерал літоўскай артылерыі, які падкупіў варту ды напісаў лісты ў Польшчу, і праз свайго слугу пана Міхала Валаховіча (“Michala Wlochowicza”), адаслаў да тых палякаў, якія з-за здрадніцтва, перахапіў генерал Боўр, і аддаў іх князю Меншыкаву, які быў на той час на царавым месцы ў Маскве. Той аддаў гэтыя лісты князю Рамаданаўскаму ды загадаў учыніць найстрогшую інквізіцыю, дзеля якой майго брата п. генерала артылерыі вазілі ў Прэабражэнск, дзе тры тыдні ўтрымоўвалі асобна ад мяне, хаця і мяне таксама прывезлі ў гэты ж манастыр. Там яму цяжкія пакуты задавалі, пасля якіх, адабралі ад нас рэшту служылых людзей ды пана Пятуха, харунжага маёй харугвы, пакінуўшы нам толькі Міхала Валаховіча, якому за нашэнне гэтых лістоў далі дваццаць пяць бізуноў, нас саміх жа адаслалі ў Сібір на выгнанне... (Sienicki L.. ”Dokument...”, Wilnia 1754 r., s. 6-7. ) І вось тут можна зрабіць невялічкае дапушчэнне. Заснавальнік роду Станкараў-Franciscus Stancarus – прыбыў у Рэч Паспалітую з Мантуі што ў Італіі. Як пратэстант ён прычыніўся да выдання Берасцейскай Бібліі ў 1563 годзе і атрымаў прыхільнасць Радзівілаў. А мы ўжо ведаем што ў Крыштафа-Казіміра і Людвіка мацяркамі былі сёстры Станкар. Як падае “Encyklopedyja Powszechna”, (T-23, W-wa., 1866r. s. –970.), “ягоныя нашчадкі, евангелічна-рэфармацкага веравызнання, жылі аж да нашых часоў у Троцкім павеце”. Магчыма са Станкарам з Італіі прыехалі нейкія людзі, слугі ці магчыма паплечнікі па рэфармацкаму руху, якія ў Лідскім павеце ВКЛ, пэўна на землях Радзівілаў, заснавалі вёску Валаховічы, што атрымала сваю назву ад празвання італьянцаў – “Влохъ” (ГСБМ, вып. 4, Мн. 1984, стар. 44.). А ўжо іхнія нашчадкі, па моцы нейкіх абставінаў, засталіся вернымі Станкарам і працягвалі служыць іхнім нашчадкам, а ў выніку шлюбаў і Сяніцкім. Таксама адзначым тут што Д.М. Анучын, які быў знаёмы з рукапісамі Месершмідта, ў сваёй працы “По поводу реставрации мамонта для антропологической выставки.” – “Известия Императорского общества любителей естествознания, антропологии и этнографии, состоящего при Московском университете”, Т. 35, “Труды антропологического отдела”, Т.5, М., 1879, стр. 40, падае прозвішча Міхала Валаховіча як “Михаил Волович”, але магчыма гэта памылка друку, якую паўтарылі і іншыя даследчыкі. У 1710 г. Сяніцкія з “пакаёвым” Валаховічам апынуліся ў Табольску, адкуль іх саслалі ў Якуцк, на шляху куды Людвік, “не даходзячы фартэцыіі Нарым” на пустынным беразе ракі пахаваў свайго брата – генерала артылерыі ВКЛ. З “Дела о пленнике Людвиге Синицком” (“Сибирския Архив.”, № 5, 1916 г., стр. 235-239.) вядома, што 24 траўня 1712 г. захопленыя “ў Быхаве штурмам” былі “прысланы з Масквы з Сібірскага прыказу на выгнанне падстолле Людвік Сяніцкі ў Якуцк ды валанцёр Міхал Валаховіч (“Міхайло Влоховіч”) для адсылкі на Камчатку”. У 1722 г. намаганнямі пасла Рэчы Паспалітай Станіслава Хамянтоўскага Людвік Сяніцкі быў вызвалены ад выгнання і выехаў на Жмудзь. Тады ж верагодна быў вызвалены і Міхал Валаховіч, які на зваротным шляху з Камчаткі і зрабіўся сведкам знаходкі рэштак маманта. Таму ён, як пісьменны чалавек (нават валодаў лацінай), якуцкім губернатарм, паводле загаду Пятра І, быў адпраўлены ў Іркуцк, дзе і сустрэўся на пачатку 1724 г. з Месершмідтам, які, як мы ведаем, з навуковымі мэтамі вандраваў па Сібіры. Там ў Іркуцку, на кватэры ў Месершмідта, Валаховіч і напісаў сваё сведчанне лацінай пра знаходку рэштак маманта на Індзігірцы. Ізноў ехаць на Індзігірку, па прапанове Месершмідта, Міхал Валаховіч адмовіўся, бо з надзеяй на Людвіка Сяніцкага нецярпліва чакаў на хуткае вызваленне. Але на зваротным шляху Месершмідт ізноў сустрэўся з Валаховічам, які ўсё яшчэ знаходзіўся ў Іркуцку. Гэтым разам Міхал Валаховіч папрасіў яго даць яму якіх-небудзь лекаў для сваёй цяжарнай жонкі, з якой пэўна ажаніўся на выгнанні. Месершмідт, які ў маладосці вывучаў медыцыну ва ўніверсітэтах Нямеччыны ў сваіх дзённіках адзначыў, што Валаховіч не выяўляў пры гэтым аніякіх медычных ведаў. З чэрвеня 1725 г. Месершмідт назаўсёды развітаўся з Валаховічам, і яны больш не бачыліся. У 1730 г., калі Месершмідт прыехаў у Данцыг, то перадаў свайму сябру І. П. Брэйну свае малюнкі чэрапа, біўняў, зубоў і сцёгнавай косткі індзігірскага маманта ды, таксама, сведчанне Валаховіча, па якіх той зрабіў даклад у Данцыгскім навуковым таварыстве. Ужо пасля смерці Месершмідта Брэйн напісаў ліст, датаваны 28 верасня 1735 г., прэзідэнту лонданскага каралеўскага навуковага таварыства сэру Гэнсу Слоўну, які датычыў мамантавых костак, да якога дадаў свой даклад, малюнкі Месершмідта ды сведчанне Міхала Валаховіча. Гэты ліст, са ўсімі прыкладзенымі да яго матэрыяламі, быў апублікаваны ў выданні: “Philosophical transactions” Vol. 40 (1737-1738), № 446, London, 1741, p. 124-128. Праз некалькі гадоў на гэтыя матэрыялы звярнуў увагу вядомы французскі прыродазнавец Жорж Кюўе, і яны дапамаглі яму прыйсці да высновы, што мамант - гэта выкапнёвы слон. Гэтак лідзянін, хаця і не па сваёй волі, дачыніўся да разгадкі стагоддзя.

***Алесь Баркоўскі.***

***ЭДВАРД УРОЦКІ***

# КАНСТАНЦІН ГОРСКІ: жыццё і дзейнасць

## (13.06.1859 – 31.05.1924 гг.)

У жалобным раздзеле “Познаньскага кур’ера” аркестр Вялікага тэатра падаў да публічнай вядомасці звестку, што 31 траўня гэтага года (1924, *рэд.*) раптоўна памёр ад сэрца с. п. Канстанцін Горскі, канцэртмайстар опернага аркестра ў Познані, скрыпач, знакаміты кампазітар, а таксама былы прафесар кансерваторыі ў Харкаве, зазначаючы, што ў нябожчыку музыкі страцілі аднаго з найлепшых калегаў, які сваёй значнасцю і аўтарытэтам узбуджаў заўсёды і ўсюды годную павагу, а грамадства страціла адданага паляка і грамадзяніна.

Смерць з’яўляецца законам прыроды, з якім чалавецтва, хоць і неахвотна, аднак мусіць пагаджацца, але калі з жыццёвай нівы сходзіць такой велічыні дзейнасці і карыснасці чалавек, як сп. Канстанцін Горскі, то цяжка прыдушыць тыя горыч і навалу жывёльнага пратэсту, якія ў такіх выпадках нараджаюцца ў душы чалавека.

Канстанцін Горскі быў паўсюль вядомы не толькі, як першарадны скрыпач-віртуёз, але і як дасканалы педагог і кампазітар.

Належыць шчыра шкадаваць, што велізарная колькасць музыкаў, выхаваных Горскім, сёння разносяць па свеце славу расейскай школы.

Трэба шкадаваць, што нашае грамадства са спакоем і не раз з абыякавасцю змушае лепшых сыноў сваіх жывіць і запладняць іх творчым духам чужую нам глебу.

Жыццё і дзейнасць Горскага нажаль з’яўляюцца красамоўным прыкладам, які нават ў вольнай Польшчы рэдка ўдаецца знайсці.

**Канстанцін Антон Горскі нарадзіўся 13 чэрвеня 1859 г. у Лідзе Віленскага краю.** Паходзіў са знакамітай красовай (беларускай) шляхты. Пасля заканчэння Віленскай філалагічнай гімназіі (першай), якая размяшчалася ў слаўных універсітэцкіх мурах, пастанавіў вырушыць у свет, як верны саюзнік свету мелодыі, рытму і гармоніі, бо любіў музыку і больш за ўсё.

Той выбар не спаткаўся з супрацівам бацькоўскага дому, які меў традыцыі далучанасці да эстэтычнай культуры і пры тым разлягаўся ад музыкі маладых артыстаў, таму што апрача Канстанціна з віяланчэллю ўпраўляўся яго брат Ян, у будучым вельмі вядомы (нават у Амерыцы пасля цыклу санатавых канцэртаў з В.І. Сафонавым) артыст і дырыжор сімфанічных аркестраў, а на фартапіяне выдатныя вынікі паказвала сястра Ядвіга, якая перад шматабяцальнай артыстычнай кар’ерай аддала перавагу ўзорнаму хатняму агменю, выйшаўшы замуж за вядомага ў Беларусі дзеяча Віктара Трамшчынскага. К. Горскі найперш падаўся ў Варшаву, дзе вучыўся на скрыпача ў аднаго з найслаўнейшых у той час скрыпачоў Апалінарыя Куцкага (Kontskiego, 1826-1879), вучня Паганіні і дырэктара заснаванага ім у 1861 г. Музычнага інстытута (Кансерваторыі), а закончыў сваё навучанне ў Пецярбургскай кансерваторыі ў




***Кніжачка Эдварда Уроцкага “Канстанцін Горскі. Жыццё і дзейнасць. 1859-1924”. Асобны адбітак з нумара 6 за 1924 год часопіса “Рытм”, цэнтральнага органа Згуртавання саюзаў музыкаў польскіх. Наклад 1500 асобнікаў, з іх 25 нумараваных, на бездраўніннай паперы Міркоўскай фабрыкі.***

www.kamunikat.org

знакамітага майстра і геніяльнага педагога Леапольда Аўэра ў 1881 г. з вялікім срэбным медалём і годнасцю "вольнага мастака".

Кампазіцыі і інструментацыі Горскі вучыўся ў такога майстра, якім быў М. А. Рымскі – Корсакаў.

У той час дырэктарам кансерваторыі быў Карл Давыдаў.

Існаваўшае ў той час Музычнае таварыства, закладвала свае аддзелы ў найбуйнейшых культурных асяродках Расіі, а пры іх сярэднія музычныя школы, прыцягваючы да педагагічнай працы найлепшыя дыпламаваныя сілы. Таму неўзабаве мы бачым нашага маладога маэстра ў ролі кіраўніка скрыпічнага класа ў Пензе, пакуль лёс не закінуў і не акліматызаваў у Саратаве Станіслава Экснера, які пільна дбаючы пра выбітных людзей, забраў у саратаўскую школу Канстанціна Горскага. Тут Горскі прабыў на працягу 1885-87 гг., пакуль дырэктарам школы оперы і сімфанічных канцэртаў у Тыфлісе не стаў М. Іпалітаў-Іваноў (цяпер - 1924, *рэд* - і ўжо многа гадоў дырэктар Кансерваторыі ў Маскве).

Не толькі сяброўскія стасункі з М. Іпалітавым – Івановым, але і музычнае жыццё ў Тыфлісе, якое ў той час тут буйна квітнела, прыцягнулі Горскага, і мы бачым яго ўжо у тыфліскай школе, і адначасова за піпітрам канцэртмайстра ў оперы, на сімфанічных канцэртах і ў якасці саліста на ўласных выступленнях. Тут яму даводзіцца бліжэй судакранаццца з Пятром І. Чайкоўскім, і судакрананне тое неўзабаве перарасло ў вядомыя сардэчныя адносіны таго вялікага музыкі да нашага артыста. Дом у якім жыў у Кліне (Маскоўская губ.) П. Чайкоўскі, пасля яго смерці (6 ліст. 1893 г.) быў ператвораны ў выдатны музей яго імя. Дык вось у так званым "пакоі сяброў" (кабінет Чайкоўскага), як памятаю, знайходзіцца і выява Канстанціна Горскага, слаўнага ўжо на ўсім поўдні Расіі, які вялікі і шырокі шчыра палюбіў Горскага і выклікаў ў яго такую ж прывязаннасць.

Харкаў, будучы буйным асяродкам культурнага і мастацкага жыцця, сканцэнтраваў вельмі вялікую і актыўную польскую калонію.

Горскі любіў працу, але сумаваў па працы для сваіх.

Іпалітаў-Іваноў пераехаў у Маскву, але яму не ўдалося перацягнуць за сабой Горскага, якога ў 1890 г. застаём ужо ў Харкаве, дзе дзейнасць яго захоплівае ўсё шырэйшыя абсягі і да вядомага ўжо нам амплуа належыць дадаць выдатнае дырыжаванне сімфанічнымі канцэртамі, а таксама заслугі на ніве арганізацыі і распаўсюджвання культу камернай музыкі. А што тыя заслугі з'яўляюцца выключнымі, можа паміж іншым сведчыць факт утварэння ў Харкаве ў час Вялікай вайны з ініцыятывы чэшскіх музыкаў "Смычковага квартэту імя К. Горскага", у які наш майстар быў запрошаны да першага піпітра (у якасці 1-й скрыпкі).

Тут трэба падкрэсліць, што Канстанцін Горскі быў заснавальнікам вядомага на поўдні Расіі "Польскага і касцельнага хору".

Вяртаючыся да Пятра Чайкоўскага, належыць зазначыць, што з К. Горскім яго звязваў надзейны свойскі душэўны настрой, Чайкоўскі меў у Горскім ідэальнага суразмоўцу, можа адзінага ў сваім родзе, цудоўнага апавядальніка тых часта невымоўных журботаў, якія стваралі аснову душы Пятра Чайкоўскага.

Хто хоць раз чуў "Меланхольную серанаду" ніколі не забудзе… А выкананне Concert'у D-dur –гэта сапраўдная легенда!…

Харкаўскія газеты за 1891 г. падаюць з падрабязнасцямі факт выключны і непамерна ганаровы для нашага маэстра, а менавіта: калі са згаданага канцэрту К. Горскі стварыў легенду, якой ашаламіў і захапіў не толькі аўдыторыю, але ўзрушыў і П. Чайкоўскага, які сам дырыжаваў у гэты час, да такой ступені, што той дакладна страціў уладу над сабой і ў фінале, замест таго, каб даць знак аркестру, сам расплакаўся…

Вялікі, трыумф Музыкі і Артыста!…

Пераглядаючы ў Музычна-гістарычным музеі канцэртныя праграмы з прайшоўшых 40-гадоў скрозь трапляем на імёны выканаўцаў, якія сёння падаюцца проста сном, і імя Канстанціна Горскага мы вельмі часта спатыкаем у іх грамадзе, таму што яно мела вялікую прыцягальную сілу.

Ён не толькі ззяў, як віртуоз, але з рэдкім замілаваннем праліваў на іншых скарбы сваёй выключнай школы і дабраслаўляў на дарогу ў мастацтва. Не адзін з вучняў Горскага дае сёння канцэрты ў Амерыцы, або з'яўляецца прафесарам у кансерваторыі.

Канстанцін Горскі не толькі бліскуча выконваў чужыя творы, але і ствараў цудоўныя свае.

Хаця Пётр Чайкоўскі зрабіў пэўны водціск на музе К. Горскага, як і чужая кампазітарская школа і атачэнне мусілі пакінуць свой след, аднак уважлівы і аб'ектыўны крытык багатай і каштоўнай спадчыны Канстанціна Горскага будзе павінен прызнаць, што ў букеце яго творчасці шмат кветак, нашых польскіх кветак.

А як хапала Горскага на шмат, то і даў шмат.

З апублікаваных твораў К. Горскага (пераважна за ўласны кошт) невялікім накладам і на сёння амаль разабраных трэба назваць найпрыгажэйшыя кампазіцыі, выдадзеныя Д. Рагтэрам (цяпер А. І. Веджамін) у Ліпску, такія

www.kamunikat.org




***Партрэт Канстанціна Горскага ў 1908 г. з Музычна-гістарычнага музея Эдварда Уроцкага.***

як **Op. 1-5. Morceaux pour Violo avec Piano**: № 1. **Souvenir de Nadrzecze. Premiere Mazourka** (выдав. № 2751), № 2. **Petite Etude - Spiccato** (№ 2752), №3. **Seconde Mazourka, sur des chants polonais** (№ 2753), № 4. **Aria** (№ 2754) і № 5 **Gavotte** (№ 2755).

**Compositions pour Violo avec acc. de Piano**.

**Op. 2.** № 1. **Romance** i № 2. **3-leme Mazourka** (Прысв. Гелене Горскай).

**Op. 3. 1-ere Polonaise de Concert D-dur** (Прысв. Сяргею Дачэўскаму).

**Op. 4. 2-de Polonaise de Concert A-dur** (Прысв. Ядвізе Трамшчынскай).

Да Op. 2, 3 і 4 ёсць партытуры аркестровага акампанементу ў рукапісе.

**Pour Violo avec acc. de Piano**.

**Op. 8. Poeme Lyrique.**

**Каденцыя** для канцэрту на скрыпцы Л. ван Бетховена. Op. 61. (Датавана 1882 г.) .

**"Зряшче мя безгласна"...** Канцэрт для змешанага хору і капэлы, для праваслаўнай царквы (Датав. 1892 г.). Кампазіцыя аб надзвычайным уражанні і смутку, часта выконвалася расіянамі ў выпадках выключна ўрачыстых жалобных набажэнстваў. Звяртае на сябе ўвагу фуга, на якой грунтуецца другая частка канцэрту.

Для пастаноўкі ў свой час маларускай 5-актавай апярэткі (драмы) А. Збукеравога **"Ой Божа, што тая любоў зможа"** К. Горскі напісаў у 1895 г. **уверцюру** для малога аркестра, а таксама апрацаваў 20 арыгінальных украінскіх песняў, з якіх № 15 **"Ой у полі край дарогі"** (Спеў Мар'яны), для сапрана, была скампанавана Горскім. У фартэпіянным варыянце выдадзена ў А. Ф. Гергарда ў Харкаве.

Датавана 1903 г. - **Trois Prieres d'Eglise**. №1. **Ave Maria**. Для тэнара або сапрана з удзелам аргана. (Прысв. Юзафу Лісоўскаму), № 2. **Salve Regina.** Для сапрана з удзелам скрынак (сола) і аргана. (Прысв. Элізе Златніцкай) і № 3. **Salutation a la Sainte Vierge.** Для сапрана з удзелам хору, аргана, скрыпічнага квінтэту і 2 валторн. (Прысв. Цэліне Мотат).

**"Маргер"** – опера ў 4 актах. На словы Ул. Сыракомлі, Лібрэта напісаў W.W. G. Выд. у Пецярбургу.

Гэта манументальны твор, музычнай вартасці непараўнальна большай за цэлы шэраг опер, імпартаваных з-за мяжы. Горскі не скарыстаўся з гатовага (наперад мовячы, слабога) лібрэта, напісанага Сыракомлем для Манюшкі, а спрычыніўся да стварэння новага ў вельмі добрай сцэнічнай версіі і прыбраў яе ў багатыя шаты меладыйныя і аркестровыя.

Вясною "Маргер" з з вялікім поспехам выкананы для радыётрансляцыі ў познаньскай оперы, дырэкцыя якой паабяцала Канстанціну Горскаму што паставіць "Маргера" ў наступным сезоне.

У 1914 г. выдадзены "12 песень" на словы М. Канапніцкай, Ул. Сыракомлі, Зд. Дубіцкага і інш. для М.- сапрана або тэнара ў суправаджэнні фартэпіяна. № 1 **"Зашумеў лес"** (Слёзы і песні...) Словы М. Канапніцкай (Прысв. кс. Казіміру Тарасевічу); № 2 **"Песня журбы".** Словы М. Канапніцкай. (Прысв. кс. К. Тарасевічу), № 3 **"Пайду, я пайду дарогай далёкай..."** (Вячэрнія песні) М. Канапніцкай. (Прысв. жонцы маёй Ганне). № 4. **"На Куявах..."** М. Канапніцкай (Прысв. Казіміру і Марыне Зданоўскім). 5. **"Доля".** Ул. Сыракомлі. (Прысв. Марыі Прыкуцкай). № 6. **"Ой не тая цяжкая дарога..."** (Песні без рэха...) (Прыс. М. Прыкуцкай): № 7. **"Пакуль цябе такі маю..."** На словы Зд. Дубіцкага (Прыс. Аліне Стрылкоўскай): № 8 **"Пра змрок".** Зд. Дубіцкага (Прысв. Яніне Наляпінскай ). № 9 **"Хацеў бы сэрца з лона...".** (Прысв. Алдоне Яўдынскай). № 10 **"Я табе не раскажу."** (Прысв. А. Яўдынскай). № 11. **"Неяк мне журботна..."** (Прысв. д-ру Пятру Яўдынскаму) і № 12. **"Асенняя мазурка".** (Прысв кс. К. Тарасевічу).

Большасць каштоўных кампазіцый К. Горскага, якія да гэтага часу застаюцца ў рукапісах, не раз выконвалася ў Расіі пераважна вакалістамі, першынство сярод якіх, сыходзячы з колькасці выкананняў, належыць знакамітаму ў

www.kamunikat.org

свой час Наўвэлю-Нордзі.

Яшчэ засталіся не выдадзенымі звыш **100 песень** на тэксты пераважна польскія; **“На Алімпе”** – сімфанічная паэма на тэму вядомай навэлы Г. Сянкевіча. Была выканана на сімфанічным канцэрце ў Познані і пахвальна выдзелена прафесійнымі крытыкамі; **“Зачарованае кола”** – сімфанічная паэма па казцы Л. Рыдла ў 3 частках. **2 імшы** (Es-dur і A-mol) для аркестра, салістаў і змешананага хору; **36 скрыпічных эцюдаў** (3 ступені цяжкасці) вялікай вартасці. **“Па хлеб”**, опера ў 2-х актах на тэму, узятую ад Г. Сянкевіча. Польскі этнаграфічны матэрыял у оперы “Па хлеб” знайшоў не толькі дакладнае адлюстраванне, але і глыбокую апрацоўку.

**“Фантазія для аргана”** была выканана Карпашэўскім у Варшаўскай філармоніі. Далей яна шматразова мела выканаўцаў такой велічыні, як Фелікс Новавейскі, які “Фантазіяй для аргана” Канстанціна Горскага надаў бляск урачыстаму Капернікаўскаму святу, зладжанаму універсітэтам у Познані.

Вялікая колькасць большых і малых кампазіцый, якія я тут абмінуў, як і тыя вышэй названыя, яшчэ пэўна будуць доўга спачываць у пасмяротнай тэчцы кампазітара, відавочна да тога часу, пакуль не будзе створана **Польская акадэмія музычных ведаў** са сваёй выдавецкай фундацыяй.

К. Горскі прыбыў у Польшчу ў 1919 г. хоць моцна страпаны новым укладам жыцця ў Расіі аднак будучы яшчэ поўным сілаў творчых і выканаўчых. Нават быў шчаслівы, што нарэшце, разгуляўшаяся на ўсходзе бура вырвала яго з моцна ўрослымі карэнямі і на хвалях сваіх вынесла на спрагнелы бераг Польшчы, у якой музычнае жыццё замест таго, каб квітнець, па жабрачы гаруе і гэта з-за таго, што такія выбітныя дзеячы, як К. Горскі ў большасці знаходзяцца недзе за межамі, дзе патрэбныя для чалавека і артыста хлеб і лаўры нажаль хутчэй знайходзяць у чужых.

Сумна гэта... але яшчэ больш сумнымі, бо руйнуюць нашую музычную будучыню, з’яўляюцца адносіны да “новых “, для якіх звыкла няма месца працы.

Той лёс разам з многімі падзяліў і Горскі, які пакорна пастукаўся ў Варшаўскую кансерваторыю. Але нажаль тагачасны дыр. Эміль Млынарскі не задаволіў просьбы Канстанціна Горскга.

Каб не памерці з голаду, наш выбітны маэстра быў змушаны па значна больш доўгі час зачапіцца за кінематографы “Калізей” і “Вадэвіль” на варшаўскім Новым Свеце (акампанаваць на фільмах), адкуль ужо маральна разбіты ва ўласнай краіне, пад канец 1922 г., пераехаў у Познань, дзе ў аркестры Вялікага тэатра заняў піпітр канцэртмайстра. Сярод сваіх прыхільнікаў, якіх Горскі знайшоў у Польшчы на грунце аднолькавых з ім разуменняў, перакананняў і мастацкіх ідэалаў, найбольш шчыра ганарыўся непрытворным прызнаннем Фелікса Новавейскага, які сцішыў боль яго душы і ў некаторай ступені змыў тыя крыўды, якія нанесла Горскаму Варшава.

Паэзію характэрную для Горскага Ф. Новавейскі выказваў пры выкананні яго твораў. Трэба спадзявацца, што Ф. Новавейскі не забудзе свайго намеру пастаноўкі першай вялікай імшы (літургіі), як і ўключэння ў выдаваныя ім харальныя зборнікі шэрагу добрых харальных кампазіцый Горскага.

З той нагоды трэба падкрэсліць, што вельмі добра зрабіў малады кампазітар Фелікс Рыбіцкі, што ў 1 выпуску свежавыдадзенага свайго спеўніка на тры галасы і капэлу змясціў пад № 7 ва ўласнай аранжыроўцы на тры галасы песню Горскага **“Ой, не тая цяжкая дарога...”** (гл. № 6 з выдадзеных 12 песняў).

Доктар Суржынскі, пішучы пасмертныя ўспаміны ў “Ранішнім аглядзе” (№ 156 за 8 чэрвеня) слушна паведамляе, што “карціна была б няпоўнай, калі б прамаўчалі, што с. п. Канстанцін Горскі быў чалавекам з рысамі характару незвыкайнай годнасці, спакойны, працавіты, ненавязлівы, сардэчны, і ахвярны сярод прыяцеляў і калег. Для нябожчыка чужой была зайздрасць, якая нажаль так часта спатыкаецца нават і ў артыстаў неардынарных.

А пры тым паляк-патрыёт з бездакорным мінулым і гарачым сэрцам, які ніколі, а перад усім на эміграцыі, не шкадаваў свайго таленту і матэрыяльнага дабрабыту, каб аблегчыць долю землякоў.

Тут трэба дадаць, што як грамадскі дзяеч К. Горскі працаваў нястомна, развіваючы польскую музыку і паўсюль арганізуючы канцэрты на карысць польскіх гуманітарных і асветных арганізацый. Не было касцёла на поўдні Расіі, дзе не засталася б памяць пра Горскага – звон, абраз або якая-небудзь дапамога.

Канстанцін Горскі – адна з тых мурашак, што дзесяткамі гадоў будучы на чужыне рэальна адраджалі Польшчу.

Пра ўсё тое нельга забываць ні грамадству, ні польскаму ўраду.

Трэба памятаць, што пасля нябожчыка, які на ахвяру польскай ідэі аддаў усё сваё жыццё і набытак, у Познані засталася ў роспачы сям’я, якая складаецца з жонкі Ганны з дому Марцэлі (фартэпіяністкі б. праф. у Харкаве) і 10-гадовай дачушкі Ядвігі.

Трэба памятаць таксама, што на гурчынскіх могілках у Познані з чэрвеня г.г. былі пакладзены на вечны спачын парэшткі той яснай і прыгожай душы Канстанціна Горскага, якая свяціла ўсім і стократна заслужыла не толькі добры ўспамін, але і відны помнік грунтоўны, з якога пелігрым прачытаў бы, як трэба любіць свой край і святое мастацтва.

***Пераклад Станіслава Судніка.***

# ПОШТА Ў ЛІДЗЕ

Паштовая станцыя ў Лідзе вядомая з часоў уладарання караля Станіслава Аўгуста (Панятоўскага, *рэд.*). Дата яе адкрыцця пакуль не ўстаноўлена. На станцыі прымалася і выдавалася простая карэспандэнцыя з адной умовай – лісты павінны быць запячатаны.

Інвентар горада Ліды за 1798 год, які апісваў дамы па Віленскай вуліцы – "ад фарнага касцёла, размешчаныя па правым баку" – адзначае – "спадчынная (прыватная) сядзіба спадарыні Ёдкавай (Ёдка, *рэд.*) у якой пошта". Сядзіба была размешчана ў тым месцы, дзе ў 1939 годзе знаходзілася дамаўладанне Фларэнціна Длускага на вуліцы Сувальскай , 58 (кіно "Эра"). У гэтай жа сядзібе была размешчана пошта на плане Ліды 1832 года. Тады дўмаўладанне належала прапаршчыку Дароднаму. У 1842 годзе сядзіба была знішчана пажарам, пошта была перанесена на ўчастак Камянецкіх, паміж вуліцамі Паштовай і Камерцыйнай На гэтым месцы ў канцы 30 –х гадоў XX стагоддзя знаходзіліся сядзібы Татарскага, Валынскага і Алькяніцкага. Тут на амаль квадратным двары былі пабудаваныя канюшні, карэтны хлеў, памяшканне для фурманаў, паштальёнаў, тут жа быў пабудаваны мураваны будынак паштовай станцыі на вуліцы Паштовай. Гэтую вуліцу ў 1892 годзе перайменавалі ў зав. Паліцэйскі, у 1903 - у вул. Паліцэйскую, у 1921 г. - у вул. Пераца.

У 1790 годзе паштмайстрам у Лідзе быў Язэп Паеўскі, пазней войт горада. У "Палітычным календары" за 1820 год пра пошту ў Лідзе было сказана: "Павятовая паштовая экспедыцыя ў Лідзе. Паштмайстар Кароль Сташэўскі, тытулярны дарадца". Тагачасная пошта была падпарадкавана Літоўскаму паштамту ў Вільні, ад 1830 года была падпарадкавана паштовай інспекцыі 5-й паштовай акругі г. Вільні. У той час лідская пошта была вызначана, як павятовая паштовая кантора 2-га класа. Адначасова такія ж канторы былі ўтвораны ў Слоніме – 2-га класа, у Кобрыне, Наваградку і Пружанах – 3-га класа, а ў Ваўкавыску – 4–га класа. У паштовых канторах 2-га класа штат складаўся з паштмайстра, памочніка і трох паштальёнаў. На ўтрыманне паштовага дома, канцылярскія выдаткі асігнавалася 600 рублёў у год. З 1878 года паштмайстрам у Лідзе быў Канстанцін Аляксандраў.

У 1872 годзе ўздоўж паштовага тракту Вільня-Ліда-Наваградак-Мір была пабудавана тэлеграфная лінія да Карэліч, а ў Лідзе была абсталявана тэлеграфная станцыя з двума апаратамі Морзэ. Першым начальнікам гэтай станцыі быў Савелі Нікіцін, тэлеграфным тэхнікам – Хрысанф Аляхновіч, ён жа і будаваў гэтую лінію. Тэлеграфная станцыя была абсталявана на першым паверсе ў мураваным будынку на вуліцы Віленскай (пры Польшчы – Сувальская, 42), у памяшканні, вызваленым пасля ліквідацыі 1 красавіка 1872 года павятовага суда. У 1873 годзе Ліда была адзіным пасля Вільні горадам у былой Віленскай губерні, у якім дзейнічала тэлеграфная станцыя з прыёмам і перадачай тэлеграм на тэрыторыю Расейскай імперыі і за мяжу. За тэлеграму з Вільні ў Ліду па тагачасным тарыфе за кожныя 20 слоў плацілі 50 капеек. З 9 лістапада начальнікам станцыі быў Тодар Рустаповіч, а тэлеграфістам 4-га класа з 1 студзеня 1874 г. – Язэп Харневіч, які з 19 лютага 1882 года пачаў выконваць абавязкі начальніка Лідскага тэлеграфу. Тэхнікам на тэлеграфе з 1 траўня 1882 г. служыў Язэп-Фелікс Паскошын.



***Мал. 1.***

У выніку рэформы паштовай справы, якая была праведзена ў Расіі ў 1886 годзе, Лідская павятовая паштовая кантора і тэлеграф былі аб'яднаныя ў паштова-тэлеграфную кантору 4-га класа. Паштова-тэлеграфная кантора размяшчалася ў вялікім драўляным доме па вуліцы Віленскай. Дом быў пабудаваны Антоніем Малеўскім на атрыманую ад Віленскай паштовай акругі субсідыю з вяртаннем капіталу праз 12 гадоў. У гэтым доме пошта знаходзілася да 1938 года (мал.1).

У 1890 годзе паштовая канто-

ра ў Лідзе атрымала 5-ты клас, у 1906 - 4-ты, а ў 1913 – 3-ці клас. У 1911 годзе ў штаце паштова-тэлеграфнай канторы было 17 чыноўнікаў, гэта акрамя паштальёнаў і ганцоў (кур'ераў), у 1913 годзе – 22 службоўцы. Кіраваў Лідскай паштова-тэлеграфнай канторай з 31 траўня 1889 г. Сямён Грачышкаў, з 21 сакавіка 1894 г. – Якуб Булгакаў, з 1904 г. – Васіль Смірноў, з 1909 г. - Мелітон Берыдзэ і з 1913 г. – Канстанцін Каланкоўскі. Паводле рашэння Галоўнай паштовай управы і паштовай акругі ў канцы 1914 пачатку 1915 года Лідская паштова-тэлеграфная кантора была эвакуяваная ўглыб Расіі, у г. Каломну Маскоўскай губерні, дзе праз некаторы час была расфармаваная.

Якія штэмпелі прымяняліся для кляймення лістоў на Лідскай паштовай станцыі ў пачатку XIX стагоддзя, устанавіць не ўдалося. У калекцыях беларускіх філаталістаў няма карэспандэнцыі з Ліды таго перыяду.

У Лідскім гістарычна-мастацкім музеі захоўваецца вялікі аб'ём карэспандэнцыі, атрыманай на імя лідскага дабрачыннага Брэна. Паводле гэтых матэрыялаў паштовыя штэмпелі на лістах, атрыманых Лідскай поштай, фіксуюцца з 1840 года. У асноўным гэта слонімскія і віленскія штэмпелі. Першы лідскі штэмпель удаецца зафіксаваць на атрыманай карэспандэнцыі 20 сакавіка 1844 года. Штэмпель уяўляе сабой слова "Лида" прапіссю у касой рамцы, без календара, хаця віленскія і слонімскія штэмпелі гэтага часу календары маюць. Ад гэтага моманту лідскі штэмпель на атрыманай карэспандэнцыі пачынае ставіцца рэгулярна. *(Мал. 2-3)*.



***Мал. 2.***




***Мал. 3.***

З 1 студзеня 1858 года ў абарот паступіла першая расійская марка. Паведамленне Паштовага дэпартаменту пра ўвядзенне паштовых марак у Расіі было апублікавана ў "Віленскіх губернскіх ведамасцях" 11 студзеня 1858 года. І амаль у той жа час у паштовых канторах губерні пачалі прадавацца маркі. У пачатковы перыяд іх выкарыстання маркі гасіліся крыжападобным росчыркам пяра ад рукі: і толькі 26 лютага 1858 года распараджэннем Галоўнай управы Паштовага дэпартамента Расіі за № 138 было ўведзена гашэнне марак асаблівамі штэмпелямі па месцы падачы карэспандэнцыі. Гэтыя штэмпелі мелі своеасаблівы выгляд: яны ўяўлялі сабой геаметрычныя фігуры – квадрат, круг, трохкутнік, якія складаліся з кропак. У цэнтры такой фігуры размяшчаўся нумар, прысвоены пошце, таго ці іншага горада. Гэтыя штэмпелі атрымалі назвы "кропкавых". Пошта павятовага горада Ліды атрымала квадратны кропкавы штэмпель з нумарам "38" *(Мал. 4.)*.




***Мал. 4.***

Ананімныя кропкавыя штэмпелі неўзабаве былі адменены, так як яны не неслі ніякай інфармацыі. Ужо ў 60-70 –х гадах XIX стагоддзя былі ўведзены новыя штэмпелі для гашэння марак на карэспандэнцыі і для іншых паштовых мэтаў. На новым штэмпелі Лідскай пошты значылася назва




***Мал. 5.***

горада "Лида", меўся каляндар, г. зн. дзень, месяц і год адпраўлення карэспандэнцыі. Дата размяшчалася ў цэнтры штэмпеля ў тры рады, месяц абазначаўся трымя пачатковымі літарамі: "8 СЕН 1876". Штэмпель быў упрыгожаны разеткай. Але і гэтыя штэмпелі мелі шэраг недахопаў (мал. 5). Таму ў канцы 80-х гадоў XIX стагоддзя яны былі заменены больш сучаснымі з указаннем прыналежнасці да адміністрацыйнага дзялення і паштовай канторы. Месяц на гэтых штэмпелях таксама абазначаўся трымя пачатковымі літа-

www.kamunikat.org

рамі “ЛИДА. ВИЛЕН. Г 28 (ІЮН) 1888. 2 ПОЧТ. ТЕЛЕГ. ОТД 2” (мал. 6). Як ужо адзначалася рэформа пошты 1886 года аб’ядннала пошту і тэлеграф, што і адбылася па паштовых штэмпелях: “ЛИДА ВИЛЕН. Г. 19 ОКТ. 1889 2 ПОЧТ. ТЕЛ. КОНТ. 2” (мал.7).




*Мал. 6.*

У канцы XIX – пачатку XX стагоддзя Паштовая ўправа Расіі працягнула ўдасканаленне каляндарных штэмпеляў. Было прызнана, што літарнае абазначэнне месяца на штэмпелі нямэтазгоднае. Таму было зменена напісанне календара. У новым штэмпелі месяц календара абазначаўся рымскай лічбай: “1 ЛИДА ВИЛЕН. Г. 1 ПОЧТ. ТЕЛ. КОНТ 19 9/V 00 (мал. 8). Тады ж быў уведзены ва ўжытак новы від штэмпеля, які ўяўляў сабой дзве акружнасці з напісанай між імі назвай горада. Каляндар у рысунку новага штэмпеля быў памешчаны ў акружнасці меншага дыяметра паміж гарызантальнымі лініямі (т. зв. “мосцік”). Штэмпелі гэтага тыпу вызначаліся напісаннем месяца індыйскімі (арабскімі) ці рымскімі лічбамі, а таксама літарнымі індэксамі “ЛІДА ** б 10.X.09” ці “ЛІДА **а 05.05.09” (мал. 9 і 10).




*Мал. 7.*




*Мал. 8.*

Для абазначэння заказных лістоў па Лідскай паштова-тэлеграфнай канторы канца XIX – пачатку XX стагоддзя прымяняўся адзіны для




*Мал. 9.*




*Мал. 10.*

ўсёй Расійскай імперыі ярлык – у рамцы літары “З” і абазначэнне горада. У канцы XIX стагоддзя ярлык з агульнага аркуша выразалі ножнамі. У пачатку XX стагоддзя ярлыкі мелі перфарацыю. Колер рамкі і літары “З” – чырвоны, назва горада-чорны. Сустракаюцца ярлыкі двух відаў: з надпісам толькі назвы горада “ЛИДА” і з надпісам “ЛИДА Вилен. губ.” (мал. 11).







*Мал. 11.*

Пошта ў Лідзе прымянала таксама дапаможны штэмпель “ЗАКАЗНОЕ” . Для абазначэння паштовай карэспандэнцыі прымяняўся штэмпель “ДЕНЕЖНОЕ” (мал. 13).

Калі карэспандэнцыя не была аплачана па тарыфу, то работнікі паштова-тэлеграфнай канторы адзначаў такую карэспандэнцыю авальным штэмпелем з надпісам “ДОПЛАТИТЬ ЛИДА”, у цэнтры гэтага штэмпеля прастаўлялася ад рукі сума, якую трэба было зыскаць з атрымальніка (мал. 14).




*Мал. 13.*




*Мал. 14.*

У 1905 – 1913 гг. уся карэспандэнцыя, якая накіроўвалася ў Лідскую паштова-тэлеграфную

www.kamunikat.org

кантору з розных паштовых вагонаў для рассылкі адрасатам, запакоўвалася ў мяшкі і пошт-пакеты, на якіх наклейваліся спецыяльныя ярлыкі з надпісам "Из почтового вагона № 29 в Лиду мешок..." або "Из почтового вагона № 30 ..."




*Мал. 15.*

Відаць, падобныя наклейкі – ярлыкі меліся і для іншых паштовых вагонаў, але знайсці іх філатэлістам пакуль не ўдалося (мал.15).

У годы 1-й сусветнай вайны паштовым установам шэрагу губерняў было прапанавана ўвесці новы від гашэння карэспандэнцыі. Гэтае гашэнне не павінна было ўтрымоўваць ніякіх звестак пра месца адпраўлення ліста ці бандаролі. Штэмпелі такога віду атрымалі назвы "нямых". Філатэлістам вядомы толькі адзін "нямы штэмпель" Лідскай пошты. Прымяняліся яны вельмі непрацяглы час у



*Мал. 16.*

кастрычніку – снежні 1914 года. Карэспандэнцыя, пагашаная Лідскім "нямым" штэмпелем вельмі рэдка сустракаецца ў калекцыях. "Нямы" штэмпель Лідскай пошты ўяўляе сабой 4 няпоўныя перарывістыя і не вельмі правільныя канцэнтрычныя акружнасці (мал. 16.)

У годы першай сусветнай вайны ўся вайсковая карэспандэнцыя расійскага войска перамяшчалася бясплатна. Падставай для бясплатнай перасылкі лістоў служылі асаблівыя паметкі на вайсковай карэспандэнцыі – розныя вайсковыя пячаткі – частак, рот, дружын, вайсковых школаў, шпіталяў і г.д., а таксама "Печатей для пакетов" розных вайсковых установаў або пячатак з тэкстам "Из действующей арміи". У маёй калекцыі ёсць такі вайсковы ліст, адпраўлены ў снежні 1914 года з Ліды ў Рыгу. На паштовай картачцы адціснута армейская пячатка з тэкстам. "Для пакетовъ. Управл (ение) Лидскаго Уездн. Воинскаго Начальника» (мал. 17, 18).




*Мал. 17.*



*Мал. 18.*

Ёсць у гісторыі Лідскай пошты цікавы і не да канца высветлены бок дзейнасці. У пачатку XX стагоддзя простую і заказную карэспандэнцыю можна было здаваць не непасрэдна на пошту, а аднесці ў ... аптэку, уладальнікам якой быў М. Б. Стукатар. У аптэцы не толькі прымалі карэспандэнцыю, але і выдавалі квітанцыі аб прыёме заказных лістоў, гасілі маркі на лістах. Для гэтага меўся нават спецыяльны імянны штэмпель з надпісам "Г. ЛИДА. АПТЕКА М. Б. СТУКАТОРА". На заказныя лісты наклейваўся спецыяльны ярлык. Ён таксама быў імянным і меў надпіс "Лида Ап. 1" (мал. 19). На ім, як і на ярлыках, якія выкарыстоўваліся дзяржаўнай поштай, рамка і літара "З" былі чырвонага колеру, назва горада і нумар – чорнага колеру.

www.kamunikat.org




*Мал. 20.*

Знойдзены канверт са штэмпелем “аптэчнай пошты” ў Лідзе пакуль вядомы ў адзінкавым асобніку. Год на штэмпелі відзён не вельмі выразна, таму не ўяўляецца магчымым вызначыць час прымянення гэтага штэмпеля, а значыць, і год работы “аптэчнай пошты” ў Лідзе. Аднак, мяркуючы па форме і штэмпеля, і заказнога ярлыка, можна сказаць з упэўненасцю, што паказаныя паштовыя атрыбуты адносяцца да перыяду 1903 - 1914 гадоў, г. зн. да пачатку XX стагоддзя. Падобныя “аптэчныя пошты” вядомыя ў той час у Вільні, Сімбірску і ў іншых гарадах Расіі. Беларускім даследчыкам гісторыі айчыннай пошты яшчэ належыць знайсці архіўныя матэрыялы і адказаць на пытанні, калі пачала працаваць “аптэчная пошта” ў Лідзе, на якіх умовах уладальніку аптэкі было нададзена права займацца “паштовай дзейнасцю” і як доўга працавала гэтая незвычайная пошта ў Лідзе. Можна адзначыць такі цікавы факт. У спісках абанентаў Лідскай тэлефоннай станцыі за 1939 год ёсць 3 аптэкі, і адна з іх на вуліцы Сувальскай, 63 належала Ізраелю Стукатару. У аптэцы быў тэлефон (№ 84), але “пошта” ўжо даўно не існавала.







*Мал. 19.*

Як ужо гаварылася вышэй, паштова-тэлеграфная кантора з Ліды была эвакуявана расійскімі ўладамі ўглыб Расіі ўжо пад сярэдзіну 1915 года. Але гэта не абазначала, што жыхары горада засталіся без паслуг пошты. У ходзе ваенных дзеянняў 1-й сусветнай вайны, а затым грамадзянскай і польска-савецкай вайны ў Лідзе неаднаразова мяняліся ўлады, і ў кожнай была свая пошта, свая паштовая цэнзура. У верасні 1915 года Ліду акупавалі войскі кайзераўскай Германіі. Акупацыя доўжылася больш за тры гады. Салдаты германскіх частак, раскватараваных у горадзе і павеце, карысталіся паслугамі кайзераўскай вайскова-палявой пошты. Пра яе дзейнасць у горадзе Лідзе вядома няшмат. Вайсковыя часткі абслугоўваліся палявымі паштовымі станцыямі. Гэтыя станцыі мелі свае імянныя каляндарныя штэмпелі. Салдацкія лісты перасылаліся бясплатна, але з абавязковай наяўнасцю вайсковай спецыяльнай пячаткі. У беларускіх філатэлістаў у калекцыях захавалася вельмі мала такіх германскіх лістоў. Вось адзін з іх. Паштовая картачка была адпраўлена з вайсковай часткі 16 красавіка 1916 года. На ёй прастаўлена вайсковая пячатка “1-й кампаніі (роты) 17-га аддзела ачуняўцаў (тых, хто папраўляецца) у вайсковым лагеры Ліды”, і каляндарны штэмпель з тэкстам: “Германская кайзераўская палявая паштовая станцыя № 69, 17.4. 16”. У тэксце ліста няма згадкі пра тое, што ліст напісаны ў Лідзе, места вызначана, як “Расія. 16.4.16”. Пра тое, што ліст з Ліды, гаворыць толькі вайсковая пячатка (мал.20).

У снежні 1918 года ўлада ў Лідзе часткова перайшла да Часовага рэвалюцыйнага камітэту. Рэўкам узяў у свае рукі гарадскую тэлефонную і тэлеграфную станцыю. Войскі кайзера сышлі з Ліды ў студзені 1919 года і тады ж 6 студзеня – у горад увайшлі часткі Чырвонай Арміі. Пра работу пошты ў гады савецкай улады ў Лідзе за перыяд студзень-красавік 1919 года паштовых дакументаў не знойдзена.

17 красавіка 1919 года ў Ліду ўвайшлі польскія войскі. Польская ўлада праіснавала ў горадзе да 17 ліпеня 1920 года. Больш за год у Лідзе працавала цывільная і вайскова-палявая пошта польскага войска, была ўведзена вайско-

www.kamunikat.org



***Мал. 21. Лідская пошта, пабудаваная ў канцы 30-х гадоў XX стагоддзя. Сучасны выгляд.***

вая цанзура.

Згодна з пастановай Міністэрства поштаў і тэлеграфаў у Варшаве ад 15 жніўня 1919 года ўся тэрыторыя Польшчы разам з франтамі была раздзелена на 5 акругаў Галоўнай палявой пошты. 4-я акруга Галоўнай палявой пошты размяшчалася ў Лідзе. У акругу ўходзіла тэрыторыя, абмежаваная на захадзе і поўдні чыгуначнымі лініямі Граева-Беласток-Брэст-Лістоўск – Лунінец. На ўсёй гэтай тэрыторыі была ўведзена цанзура. “Газета Варшаўская” (№323 ад 25.11.21 г.) паведамляла, што вайскова-палявая цанзура для польскіх выданняў – газет, часопісаў, якія паступаюць з Літвы, 21 лістапада 1921 года была адменена. Аднак для паштовай карэспандэнцыі – лістоў, бандароляў, тэлеграм – цанзура працягвала дзейнічаць.



Nr. 33
Pan
uiścił za czas od 1/I 1932 r.
do 31/XII 1932 r. opłatę za:
1) wymianę torb*)
2) skrzynkę (przegródkę) pocztową*) nr. 12
3) dworcową przesyłkę gazetową*)
4) list dworcowy*) nadawany przez
do
pociągiem nr.
LIDA 1
31 XII 31.-0
12

***Мал. 22.***

Пасля заканчэння польска-савецкай вайны і заключэння Рыжскай мірнай дамовы паміж Польшчай і Савецкай Расіяй у 1921 годзе землі Заходняй Беларусі, у тым ліку і Лідская зямля, адышлі да Польшчы. Ужо ў пачатку 20-х гадоў польскія ўлады інтэнсіўна аднаўлялі разбураную вайной паштовую гаспадарку. Пошта размяшчалася ў старым дарэвалюцыйным драўляным будынку, у якім было цесна і пошце, і тэлеграфу. Пагэтаму ўлады Віленскай акругі і мясцовыя гарадскія ўлады сумеснымі намаганнямі ў сярэдзіне 20-х гадоў пачалі будаваць у Лідзе новы будынак пошты па англійскаму праекту (мал. 21). У 1938 годзе пошта горада перасялілася ў новы дабраўпарадкаваны будынак. Пад канец 30-х гадоў пасля ўсіх рэарганізацый у Лідзе працавалі:




1) Акруговы тэлеграфны і тэлефонны вузел сувязі;

2) Павятовы паштовы вузел сувязі Ліда-1, горад , вул. Міцкевіча, 11 (дырэктар Ян Драбязговіч);

3) Паштова-тэлекамунікацыйнае (тэлефон-тэлеграф) аддзяленне сувязі Ліда-2 – чыгуначны вакзал;

4) Паштова-тэлекамунікацыйнае агенцтва сувязі Ліда-3 – казармы імя маршала Рыдз-Сміглага.

5) Паштова-тэлекамунікацыйнае агенцтва Ліда-4 – казармы імя генерала Л. Жалігоўскага.

Названы вышэй павятовы вузел сувязі меў свае каляндарныя штэмпелі. У пачатку 30-х гадоў на тэлеграфе выпарыстоўваўся календарны штэмпель з надпісам "LIDA 1\ TELEGRAF". Гэты штэмпель пастаўлены на квітанцыі № 33, выдадзенай 31.X.11. 1931 года жыхару Ліды Івану Юшковічу за карыстанне абанементнай паштовай скрынкаю (мал.22).

У канцы 30-х гадоў быў уведзены ва ўжытак новы каляндарны штэмпель на тэлеграфе з надпісам "LIDA \ TELEF – TELEGR". А таксама тады ж ужываўся для абазначэння заказных лістоў спецыяльны дапаможны штэмпель з надпісам "R \ LIDA \ TELEF \ TELEG"(мал. 23).

*Мал. 23.*

У Спісе абанентаў тэлефоннай сеткі дырэкцыі акругі пошт і тэлефонаў у Вільні за 1939 год у Лідзе налічвалася 260 нумароў тэлефонаў. Але ў горадзе іх было больш, таму што некаторыя абаненты, такія як суд, пракуратура, паліцыя, органы гарадскога кіравання (магістрат, старproductства, вайсковая залога, пошта, некаторыя ўстановы чыгункі, бровары (піўныя заводы), а таксама фабрыкі "Олід", "Унігум", "Ардаль" (гумовага абутку) і інш – валодалі невялікімі камутатарамі з дадатковымі тэлефоннымі нумарамі. У горадзе было 6 тэлефонных аўтаматаў, 4 з іх размяшчаліся ў кандытарскіх крамах (вул. Сувальская, 9 і 131, вул. Орліч-Дрэшара, 29 і Рынак, 11), адзін тэлефон-аўтамат быў устаноўлены у будынку чыгуначнага вакзала і адзін у будынку пошты (вул. Міцкевіча, 11).

Міжгародная тэлефонная сувязь для насельніцтва ажыццяўлялася з чатырох месцаў (там жа знаходзіліся і паштовыя аддзяленні) – з павятовага тэлефоннага вузла сувязі, паштовага аддзялення Ліда – 2, і 2-х агенцтваў: Ліда-3 і Ліда – 4. Усе паштовыя ўстановы Ліды мелі свае імянныя каляндарныя і дапаможныя штэмпелі (мал. 24, 25, 26. 27, 28, 29, 30).

*Мал. 24.*

*Мал. 25.*

*Мал. 26.*

*Мал. 28.*

*Мал. 27.*




***Мал. 29.***







***Мал. 30.***

У 1938 годзе паштовыя ўлады Польшчы ўвялі ў абарот новыя каляндарныя штэмпелі – меншага дыяметру, якія складаліся толькі з адной акружнасці з назваю горада і літарнымі або лічбавымі індэксамі і календаром (мал. 31).




***Мал. 31.***

У перыяд 1923-1939 гадоў на Лідскі акруговы (павятовы) паштовы вузел карэспандэнцыя дастаўлялася з розных канцоў Польшчы некалькімі паштовымі вагонамі. Гэтыя вагоны ўваходзілі ў склад паштова-пасажырскіх цягнікоў, якія курсавалі ад чыгуначнай станцыі Ліда.

У розныя гады паштовыя вагоны былі ў наступных цягніках:

№ 116 – Варшава – Ліда (1923-1939).
№ 282 – Вільня-Ліда (1938-1939),
№ 286 – Ліда – Загацце (1923-1928),
№ 286 - Ліда – Круляўшчызна (1929-1936),
№ 286 - Ліда – Маладзечна (1938-1939),
№ 292 – Ліда – Городня (1938-1939)
і № 298 – Ліда-Баранавічы (1928-1932). У кожным паштовым вагоне быў імянны каляндарны штэмпель (мал. 32. 8 штэмпеляў).




***Мал. 32.***

Пасля верасня 1939 года праца Лідскай пошты была карэнным чынам перабудавана. У горадзе засталіся дзве паштовыя ўстановы: раённая кантора сувязі і паштовае аддзяленне на станцыі. Лідскі чыгуначны вузел увайшоў у склад утворанай Беластоцкай чыгункі.

У “Алфавітным спісе паштовых прадпрыемстваў заходніх абласцей Украінскай і Беларускай ССР (дадатак да спісу паштовых прадпрыемстваў СССР выдання 1938 года)”, выпушчаным у 1940 годзе Цэнтральнай Управай паштовай сувязі Наркамата СССР, значыцца: “1) Ліда. Паштовая кантора, цэнтр раёна Баранавіцкай вобл. БССР; 2) Ліда, ст. Беластоцкай чыг. Баранавіцкай вобл. БССР”. З гэтага ж спісу

www.kamunikat.org

выцякае, што ў 1939 –1941 гг. у Лідскім раёне (па тагачасным адміністратыўна-тэратарыяльным дзяленні БССР) налічвалася ўсяго 16 паштовых установаў: 1 раённая кантора сувязі ў г. Ліда, 2 паштовыя аддзяленні ў Кургане і Нёмане, 9 паштовых агенцтваў: у Белагрудзе, Беліцы, Бердаўцы, Ваверцы, Ганчарах, Дакудаве, Крупе, Мінойтах, Няцечы; на трох чыгуначных станцыях існавалі паштовыя аддзяленні: на станцыі Ліда Беластоцкай чыгункі, на станцыях Нёман і Мінойты Брэст-Літоўскай чыгункі. Перавозку пошты па чыгунцы ажыццяўляла ўтворанае Лідскае аддзяленне перавозкі пошты па чыгунцы (ЧА).




*Мал. 33.*

Аддзяленне перавозкі пошты (ЧА) падпарадкоўвалася Баранавіцкай управе сувязі. Асноўныя маршруты паштовых вагонаў, якія ажыццяўлялі перавозку пошты дляЛідскай раённай паштовай канторы, мелі наступныя нумары: № 403-404 - Львоў - Чырвонае – Здалбуноў – Роўна –Лунінец – Баранавічы – Ліда; № 453-454 – Ліда –Ваўкавыск - Чарамха – Сямяцічы – Баранавічы – Ліда (ЧА), № 461-462 – Круляўшчызна – Ліда – Ваўкавыск – Беласток.

Некаторыя цягнікі блізкіх кірункаў – прыгарадныя – мелі паштовыя вагоны, але не мелі нумароў маршрутаў руху, напрыклад, Ліда – Беняконі, паштовы вагон гэтага маршруту быў бязнумарным.

Газета “Советская Белоруссия” 3-5 кастрычніка 1939 года паведамляла, што было створана восем буйных аддзелаў поштаў і тэлеграфу пры часовых управах гарадоў Гародні, Ліды, Ваўкавыска, Пінска, Лунінца, Брэст-Літоўска. А яшчэ раней 25 верасня 1939 года ўпаўнаважаны ЦК УКП(б)Б у Лідзе П. Калінін паведамляў ў “Праўду”, што ў горадзе працуе пошта, тэлефон, электрастанцыя, банк.

Некаторыя цяжкасці ў працы Лідскай пошты (зрэшты, гэта назіралася ва ўсёй Заходняй Беларусі) выклікала адсутнасць на месцах савецкіх знакаў паштовай аплаты, канвертаў, рэзных паштовых бланкаў, квітанцыйных кніжак і г. д., а таксама навыкаў працы ў савецкіх умовах старых работнікаў Лідскай пошты.

Да 5 кастрычніка ў Заходнюю Беларусь з Менска было паслана “на 1 мільён рублёў савецкіх паштовых марак. 600 тысяч маркаваных канвертаў і 1 мільён паштовак” – так пісала ў тыя дні газета “Советская Белоруссия”. Былі прыняты таксама меры для азнаямлення работнікаў Лідскай пошты з умовамі і рэжымам работы савецкай пошты. Адбыліся пашыраныя сходы паштова-тэлеграфных работнікаў Гародні, Ліды, Пінска і іншых гарадоў Заходняй Беларусі, на якіх былі вывучаны паштовыя правілы, якія дзейнічаюць у СССР, таксама былі арганізаваны 2-х тыднёвыя курсы работнікаў сувязі заходніх абласцей па азнаямленні з умовамі працы на прадпрыемствах сувязі СССР. У Лідзе на пашыраным сходзе прасутнічала больш за 50 старых работнікаў сувязі, курсы наведвалі каля 40 чалавек. Але многім вучоба на курсах не спатрэбілася для дальнейшай працы на пошце. Каля 18 работнікаў Лідскай пошты ў 1940 – 1941 гг. былі рэпрасаваны, арыштаваны, вывезены ў Сібір, у Казахстан.

З-за адсутнасці савецкіх каляндарных паштовых штэмпеляў, на пошце г. Ліды аж да пачатку 1940 года выкарыстоўваліся польскія штэмпелі (а ў першы час і паштовыя маркі) і толькі ў студзені 1940 года былі ўведзены ва ўжытак новыя каляндарныя штэмпелі з надпісам “Лида БССР” а затым, калі было зацверджана тэратарыяльная дзяленне па абласцях, на штэмпелі з’явіўся надпіс “Лида Баранович. обл.”, былі ўведзены ў абарот дапаможныя штэмпелі для заказных лістоў (мал. 33). Есць звесткі, што восенню 1941 года ў Лідзе было намечана адкрыццё 1-га гарадскога паштовага аддзялення. Але перашкодзіла гэтаму вайна.

У гады фашысцкай акупацыі ў Лідзе з 1 кастрычніка 1941 года працавала “Нямецкая службовая пошта на Усходзе“ (DEUTSCHE DIENSPOST OST L AND). Аддзяленне службовай пошты ў Лідзе падпарадкоўвалася Менскаму паштоваму Камісарыяту. Службовая пошта абслугоўвала ўсе акупацыйныя ўстановы і арганізацыі, а таксама цывільнае насельніцтва (у рэдкіх выпадках).

www.kamunikat.org

У пачатковы перыяд – канец 1941 года – работнікі службовай пошты выкарыстоўвалі для гашэння карэспандэнцыі стары каляндарны штэмпель яшчэ польскай вытворчасці, які захаваўся на Лідскай пошце з даваенных часоў. Пры гашэнні марак на карэспандэнцыі гэтым штэмпелем абавязкава побач павінен быў ставіцца дапаможны нямецкі штэмпель з тэкстам у два радкі: “DURCH DEUTSCHE DIENSTPOST OSTLAND “ (мал. 34).




***Мал. 34.***

З пачатку 1942 года і да ліквідацыі нямецкай службовай пошты ў 1944 годзе для гашэння карэспандэнцыі прымяняўся спецыяльны нямецкі каляндарны штэмпель з тэкстам: “LIDA DEUTSCHE DIENPOST OSTLAND“

Такіх каляндарных штэмпеляў на Лідскай пошце было тры, яны адрозніваліся літарнымі індэксамі: “а”, “в”, і “с” (мал. 35).




***Мал. 35.***

Для абазначэння заказных лістоў у 1941 годзе ў пачатковы перыяд выкарыстаоўваліся два прымітыўныя спецыяльныя. R- ярлыкі (наклейкі). У адным з іх ад рукі ўпісвалася назва горада “LIDA” і нумар заказнога ліста, у другіх выпадках на наклейку ставіўся водціск гумовага дапаможнага штэмпеля “LIDA” (мал. 36), нумар жа заказнога ліста ставіўся ад рукі. З 1942 года для заказной карэспандэнцыі прымянялася R-наклейка, надрукаваная ў друкарні з назвай горада і нумарам (мал. 37). У некаторых выпадках на карэспандэнцыю ставілася службовая пячатка Лідскага паштамта.




***Мал. 36.***




***Мал. 37.***

У ходзе аперацыі “Багратыён” Ліда была вызвалена ад фашыстскіх акупантаў 8 ліпеня 1944 года. 25 ліпеня раённая кантора сувязі аднавіла працу. Начальнікам Лідскай пошты прызначаецца Васільеў М.П. Загадам № 1 ад 26 ліпеня 1944 года намеснікам начальніка канторы па паштовай частцы прызначаецца Конан В. Д., а па электрасувязі Кавалевіч А. С. З 25 жніўня 1944 года на пасаду начальніка лідскай раённай канторы сувязі быў прызначаны Лукін Ф. Г.

У згаданым вышэй загадзе № 1 прапаноўвалася прыступіць да збору ўсіх відаў паштовай маёмасці, якая падчас акупацыі і ваенных дзеянняў была раскідана па ўсім раёне. Першы абмен поштай быў зроблены 27 ліпеня 1944 года з паштовай канторай Наваградка. Абмен быў зроблены пешым спосабам.

Праца пошты ў 1944 – 1945 гадах праходзіла ў цяжкіх умовах. Для дастаўкі паштовай карэспандэнцыі з аддзяленняў сувязі ў раённы вузел выкарыстоўваўся гужавы транспарт. Сяды-тады абмен поштай паміж аддзяленнямі сувязі рабіўся пешым спосабам і на раварах. Вельмі рэдка для дастаўкі пошты скарыстоўваўся выпадковы аўтатранспарт. У тыя гады ў лясах Лідскага раёна хаваліся банды рознага толку, якія ўскладнялі работу паштавікоў, здараласся напады на работнікаў пошты і паштовыя аддзяленні.

По стану на 15 жніўня 1944 года ў Лідскім раёне функцыянавала 12 аддзяленняў сувязі.

У пасляваенны перыяд пачаўся новы этап гісторыі пошты на Лідскай зямлі.

***Старшыня Беларускага саюза філатэлістаў***
***Леў Коласаў.***

www.kamunikat.org

**Наталля Сліўкіна**

# ЛІДСКАЯ БОЙНЯ

Прадпрыемства па забоі жывёлы раней называлі бойняй. Ліда была славутая сваімі кірмашамі жывёлы, дазволенымі яшчэ каралём Жыгімонтам Вазай і Соймам Рэчы Паспалітай (1611 г.). У пачатку 20-га стагоддзя на лідскіх кірмашах прадавалася жывёлы на суму да 100 тысяч рублёў.

Першы дакумент, у якім згадваецца пра забой жывёлы ў горадзе, адносіцца да 1729 года, Кароль Аўгуст у прывілеі, які пацвярджаў магдэбургскае права гораду, папярэдзіў лідскіх яўрэяў, "каб хрысціян ад забояў жывёлы не адхілялі, але і самі з дазволу войта і бурмістра забоем жывёлы займаліся, а войту ад кожнай вялікай і малой жывёліны з кожнага забою давалі **лапатковае**" *(НІАБ у Гародні. Ф. 1722, воп. 1, с. 96, арк 145)*. Відаць была скарга ад гарадскіх уладаў, і яна дайшла да караля. З прывілею вынікае, што забоем жывёлы можна было займацца толькі з дазволу войта і бурмістра, і ад кожнай забітай жывёліны належала ўносіць у скарб падатак – **лапатковае**.

У 1841 годзе горад спажываў 4180 пудоў мяса і 2100 вёдзер гарэлкі. *(Улашчык М.М. Перадумова сялянскай рэформы ў Літве і Заходняй Беларусі. М. 1965, с. 398)*. У 1842 годзе пасля пажару сярод гарадскіх пабудоваў планавалася абсталяванне бойні, але дзе – няясна. У 1864 г. у горадзе тры гарбарні, якія выраблялі шкураў на суму да 6 тысяч рублёў.

З пратаколаў паседжанняў Гарадской думы за 1886 год *(НІАБ у Гародні. Ф. 1564, воп. 1, с.5)* вядома, што ў горадзе была бойня, размяшчалася яна ў межах горада, належала яўрэйскаму кагалу, "знаходзілася ў брудным стане і шкодзіла здароўю грамадзян". Каб палепшыць санітарны стан горада, бойню і сарціры Школьнага двара перанеслі на чвэрць вярсты "на больш высокую мясцовасць пясчанай глебы" *(Там жа, с.4, арк. 41)*.

У пачатку 20 стагоддзя паўстала пытанне пра пабудову новай бойні. Лідскі гарадскі стараста Л. С. Рудніцкі хадайнічаў пра дазвол на пабудову бойні за горадам па Крупаўскай дарозе. Будаўнічае аддзяленне Віленскай губернскай управы 4 сакавіка 1903 г. выставіла наступныя ўмовы:

1) работы павінны праводзіцца строга па чарцяжах;

2) павінна быць пабудавана асобная камера плошчай 2х2 м з асобным уваходам для забою ў ёй падазраванай у заражэнні жывёлы;

3) унутраныя сцены павінны быць памалёваны аліфавым малявідлам, падлогі павінны быць непранікальнымі, выграбныя ямы павінны быць зроблены на цэменце (бетанаваныя);

4) у забойнай камеры павінна быць абсталявана не менш 12 прыбораў (ланцугі, лябёдкі і да т. п.);

5) усе слупы, якія маюцца ўнутры будынка, сталы і іншыя прыстасаванні павінны быць абабіты ацынкованнымі лістамі;

6) прыбудоўка павінна быць зроблена над выграбной ямай і закрыта жалезным вечкам;

7) студня павінна быць зроблена так, каб з яе без асаблівай цяжкасці падавалася вада для памыўкі жывёлы і падлогі;

8) увесь будынак бойні павінен быць агароджаны суцэльным плотам не менш чым 3 аршыны вышыні (213 см). Плошча двара павінна быць выбрукаванай.

9) для штотыднёвага вывазу з бойні цвёрдых нечыстотаў павінна быць бочка на колах, якая павінна закрывацца герметычна.

10) паветра ў бойні, як унутры, так і звонку, павінна быць зусім чыстым, для чаго трэба абсталяваць вентыляцыю;

11) Пасля заканчэння работаў бойня павінна быць асведчана ветэрынарам. *(НІАБ у Гародні. Ф. 1574, воп. 5, с. 2, ст. 1)*.

Лідская гарадская ўправа выставіла неіснаваўшую бойню на продаж з наступнымі ўмовамі (кандыцыямі):

- тыя, хто хоча ўдзельнічаць у аўкцыёне, уносяць у заклад 2 тыс. рублёў;
- гандляванні пачнуцца з сумы 3200 руб. у год арэнды.
- арандатары з вясны 1904 г. па 1 верасня 1904 г. за свой кошт і са сваіх матэрыялаў будуюць цагляны будынак, крыты дахоўкай (чарапіцай), даўжынёй 36 аршынаў (25, 56 м.), шырынёй 20,5 арш. (21,65 м.), вышынёй 2,33 сажані (5 м.), таўшчынёй у 2 цагліны; дом для адміністрацыі і прыслугі; хлеў для вазоў і канюшню: студню з помпаю і вадаправодам; драўляныя сарціры (прыбіральні); суцэльны плот;
- пабудаваную бойню атрымоўваюць у арэнду на 10 гадоў;
- арэндную плату ўносяць у гарадскую касу 3-х месячнымі прапорцыямі за кожную чвэрць наперад.
- падтрымліваюць усе пабудовы за свой кошт у належным стане.
- плацяць на карысць гарадскога кіра-

www.kamunikat.org

вання:

за забой буйной жывёлы (з галавы) – 1 руб;

за забой цяляці, авечкі, барана – 15 кап;

за забой свіні – 40 кап;

за санітарна-ветарынарны агляд мяса, якое атрымоўваецца на бойні (з пуда) - 10 кап;

за прастой жывёлы на бойні на працягу сутак: буйной рагатай –20 кап, дробнай – 10 кап.

Акрамя таго арандатар уносіць у гарадскую касу страхавыя 12400 руб. *(МІАБ у Гародні. Ф.1574, воп. 5, с. 2, ст. 7).*

Пасля гандляванняў гарадская бойня, якой яшчэ не было, з 9 лютага 1904 г. была перададзена за арэндную плату 1500 руб. у год арандатарам: Янкелю – Мордуху Зелікавічу Зелікаваму, Мойшы Ёселевічу Барану, Абраму Ёселевічу Барану, Абраму Носелевічу Пупко, Ізраелю Ялевічу Ілютовічу, Сасісту Гіршавічу Ліпніку і інш. Ім было нададзена права атрымоўваць у сваю карысць даходы з бойні пры абавязковым ветэрынарным аглядзе жывёлы і мяса. *(Там жа, с. 5).*

Паміж арандатарамі ўзнікла нязгода. Тады Лідская гарадская ўправа прызнала галоўнымі арандатарамі купца 2-й гільды. Абрама Носелевіча Пупко ды домаўладальніка Ізраеля Ялевіча Ілютовіча і некалькі панізіла патрабаванні. Час арэнды павялічыўся на два гады, уносімы капітал паменшыўся на 500 рублёў, арэндная плата паменшылася да 1400 рублёў у год, астатнія "кандыцыі" арандатары згадзіліся выконваць. *(Там жа, с. 21).*

У сакавіку Лідская гарадская ўправа заключыла з Пупко і Ілютовічам дамову, паводле якой гарадская ўправа абавязалася:

а) вясной 1904 года прыступіць да пабудовы цаглянай бойні на правым баку Крупаўскай дарогі;

б) пасля завяршэння будаўніцтва і атрымання дазволу на адкрыццё бойні аддаць у арэнду здымшчыку тэрмінам на 12 гадоў;

в) праводзіць рамонт і страхоўку ўвесь час арэнды.

Але адмовілася адказваць перад здымшчыкам за непрадбачанныя выпадковасці (эпідэміі і г. д.)

Здымшчык у сваю чаргу згадзіўся:

а) унесці ў Гарадскую ўправу на пабудову бойні 12 тысяч рублёў;

б) з пачатку працы бойні выплачваць гораду штогод арэнду 1400 рублёў, робячы гэтыя выплаты па чвэрці года наперад, калі здымшчык не выплаціць грошы, то пазбаўляецца права ўтрымання бойні;

в) утрымоўваць ветэрынара і фельчара;

г) праводзіць за свой кошт прыборку;

д) не перадаваць сваіх арэндных правоў іншай асобе без згоды Гарадской управы;

е) аплаціць усе выдаткі па складанні дамовы. *(Там.жа. с. 23).*

Такім чынам, будаўніцтва бойні ўзяла на сябе Гарадская ўправа за грошы будучых арандатараў. Ахвочыя прыняць удзел у пабудове пісалі прашэнні на прадстаўленне ім работаў, але не заўсёды тыя работы атрымоўвалі.

Мешчанін Абрам Давыдавіч Мулер згаджаўся выканаць мулярныя работы па пабудове бойні за 32 капейкі з аршына. Управа 19 красавіка 1904 г. аддала мулярныя работы купцу Абраму Носелевічу Пупко за плату 32 кап. за квадратны аршын.

Мешчанін Меер Давыдавіч Гіршовіч 14 траўня 1904 г. прасіў дазволіць выканаць усе работы для верху за 150 руб. *(Там жа, с. 55).*

Мешчанін Шэбшаль Абрамавіч Лазоўскі згаджаўся 17 траўня 1904 г. прыняць на сябе ўсталяванне лябёдак і ланцугоў. *(Там жа, с.56).* Управа згадзілася і дазволіла Лазоўскаму Ш. А. з уласных матэрыялаў і з уласнымі рабочымі пабудаваць увесь жалезны механізм да 1 верасня. 1904 года за 1300 руб. *(Там жа, с. 60).*

Мяшчане Гуціль Эпштэйн і Ёсель Кагановіч згаджаліся пабудаваць вадаправод за 200 руб. *(Там жа, с..65).*

Браты Моўша Зелікавіч і Мордух Зелікавіч Кальмановічы прынялі на сябе абавязкі пакрыць за 65 рублёў ліставым жалезам (бляхай) страху бойні. *(Там жа, с. 67).*

## Справаздача пра пабудову гарадской грамадскай бойні

| № п/п | Найменне выкананых работ і закупленых матэрыялаў | Сума руб - кап |
|---|---|---|
| 1. | **Цэгла. Усяго куплена 168000 шт. цэглы.** | |
| | Куплена ў Э. Лясковіча 22500 шт. па 16 руб. 50 кап. за 1000 | 371 - 25 |
| | За ўкладку заплачана | 1 - 60 |
| | За перавозку | 20 - 00 |
| | Куплена ў М. Алькяніцкага цэглы 119000 шт. па 16,5 кап. | 1963 - 50 |
| | У яго ж 11150 шт. па 16 кап. | 178 - 40 |
| | У Э. Янушкевіча 15359 па 17,25 кап. | 264 - 77 |
| | Заплачана Радзевічу за захоўванне цэглы. | 6 - 00 |

| | | |
|---|---|---|
| 2. | **Камень на падмурак (фундамент).** | |
| | Куплена ў А. Федаровіча 7 куб. саж. каменю па 12 руб. | 84 - 00 |
| | Тое ж у С. Гурчына 5,5 куб. саж. па 12 руб. | 66 - 00 |
| | У І. Хомскага куплена 8,5 куб. саж. каменю па 12 руб. | 102 - 00 |
| | У І. Стасевіча – 10 вазоў камяню па 18 кап. | 1 - 80 |
| | У І. Палубінскага – 1 куб. саж. | 12 - 00 |
| | У А. Пупко – 1,5 куб. саж. | 17 - 50 |
| | 7 вазоў каменю – па 18 кап. | 1 - 26 |
| | Заплачана за перавозку | 1 - 30 |
| 3. | **Лес.** | |
| | Куплена ў А. Тоўгіна лесу ў засц. Невярышкі | 660 - 00 |
| | На тартаку Палячака – 385 дошак па 30 кап. | 115 - 50 |
| | У Гіршы Малчадскага – 36 шт. бярвенняў | 51 - 50 |
| 4. | **Студня.** | |
| | 6 дрэваў на зруб | 2 - 40 |
| | Работы | 55 - 00 |
| 5. | **Вапна. Усяго куплена 2855 пудоў вапны.** | |
| | За 1 вагон вапны ў 750 пудоў | 148 - 00 |
| | За 1 вагон вапны ў 750 пудоў | 153 - 18 |
| | Ё. Левіну за 530 пудоў па 20 кап. | 106 - 00 |
| | Б. Пупко за 825 пудоў па 20 кап. | 165 - 00 |
| | Куплена 5 бочак для вапны і вады | 3 - 50 |
| 6. | **Пілоўка дрэва.** | |
| | Заплачана Абраму Кедыку | 251 - 79 |
| | Заплачана Лайзеру Палячаку | 29 - 45 |
| 7. | **Плот.** | |
| | Падрыхтоўка шулаў і дошак | 17 - 40 |
| | За ўстаноўку 142 саж, 1,5 арш. | 30 - 50 |
| 8. | **Хлявы і жылое памяшканне для вартаўніка.** | |
| | Заплачана Хоне Ілютовічу | 600 - 00 |
| | А. Баланскаму | 32 - 00 |
| 9. | **Жалеза.** | |
| | Заплачана М. Чартоку | 4 - 60 |
| | Заплачана Я. Ландо | 252 - 70 |
| 10. | **Рахунак выдаткаў па будоўлі.** | |
| | Інжынеру Камарову за нагляд над работамі | 150 - 25 |
| | Слясарнаму майстру са Смаргоні за ўстаноўку механізма і план мех. | 20 - 00 |
| | Эпштэйну на пакупку матэрыялаў для вадаправода | 37 - 79 |
| 11. | **Рахунак мулярных работ (А. Н. Пупко, І. Валынскаму, Л. Баланскаму).** | 839 - 60 |
| | Рахунак механізмаў на бойні (Ш. Лазоўскаму) | 1282 - 00 |
| | Рахунак цяслярных работ (Еле Цагяльніцкаму) | 300 - 00 |
| | Рахунак кавальскіх работ (М. Б. Шыкулінскаму) | 82 - 13 |
| | Рахунак рабочым | 56 - 55 |
| | Рахунак Абраму Пупко | 1789 -50 |
| | Рахунак пяску | 231 - 00 |
| | Рахунак жалеза для страхі, кацельнага жалеза і труб | 1250 - 61 |
| | Рахунак сталярнай работы | 231 - 90 |
| | Рахунак бруку | 369 - 71 |
| | Рахунак моху (Г. Малчадскаму) | 8 - 90 |
| | Рахунак дробязных выдаткаў | 35 - 30 |
| | Рахунак цэменту і фарбаў | 394 - 57 |
| | Рахунак пакрыцця і афарбоўкі жалезных стрэхаў | 257 - 50 |
| | Рахунак пабудовы вадаправода (Г. Эпштэйну) | 188 - 40 |
| | Рахунак печаў | 152 - 90 |
| | Рахунак слясарных работаў (Ю. Шымковічу) за акоўку дзвярэй і акон | 88 - 85 |
| | Рахунак мэблі і маёмасці (А. Пупко, Б. Мікуліцкаму) | 112 - 39 |
| | Рахунак шкла | 46 - 75 |

**Усяго 13453 руб. + 1445 руб. 70 кап. (плата рабочым) = 14898** *(Там жа, с. 113 - 118)*.

Нагляд над будоўляй вёў інжынер Камароў. Будаўнічымі работамі кіравалі падрадчыкі яўрэйскага паходжання, сярод іх: Хоня Ілютовіч (сталярныя работы), Хаім Моўшавіч Пупко (цэмент), Берка Пупко (каменні на брук), Берка Мікуліцкі (каваль), Лайзер Палячак (пастаўка дошак), Гутэль Эпштэйн (праца катлоў), Ізраель Валынскі (мулярныя работы), Эля Цагяльніцкі (сталяр), Зэлік Пупко (бухгалтар), Іосіф Шыклондзь (вываз нечыстот), Шышковіч (слесар), Лазар Пупко (загадчык будаўніцтва), Іван Стасевіч (загадчык будаўніцтва), Ландо. *(Там жа, с. 127, 129).*

**Былі пабудаваныя:**

**1. Дом мураваны** ў 2 цагліны, пакрыты жалезам, даўжынёю 18 аршынаў (12,8 метра), шырынёй 12 аршынаў (8,5 метра), вышынёй 6 аршынаў (4,26 метра), 2 сцяны, 3 дзвярэй дзвюхстворкавых на французскіх завесах з нутранымі замкамі, 11 акон з двайнымі рамамі, 2 акны ў шчытах. Дзверы і вокны памаляваны масляным малявідлам, падлога драўляная, печ з белай кафлі з герметычнымі дзверцамі і ўюшкамі, печ жалезная, 2 коміны на печах. Пры доме драўляны ганак з 4 шуламі. У доме: драўляны бар'ер у 5 аршынаў (3,5 м), 6 табурэтак, пісьмовы стол, просты, сіні, медыцынскія інструменты (сінкраскоп, сінкраскапічны набор, кампрэсары).



***Мураваны дом. Сучасны выгляд.***

**2. Хлеў драўляны** з круглага сасновага дрэва з жылым памяшканнем для вартаўніка даўжынёй 15 аршынаў (10,65 м), шырынёй 12 аршынаў (8,5м): у жылым пакоі падлога і столь дашчаныя, дзверы аднастворкавыя з паўзамком, два акны, печ кухонная. Пры пакоі дашчаны ганак. У хляве дашчаныя дзвюхстворкавыя вароты на 2-х засоўках з клямкаю.

**3. Будынак бойні** мураваны па фундаменце, сцены таўшчынёю ў 2 цагліны, пакрыты жалезам, даўжынёй 40 аршынаў (28,40 м), шырынёй 16,5 аршына (11.72 м), вышынёй 7 аршынаў (5 м). Унутраныя сцены – 2 падоўжныя і 2 папярэчныя.

1-шы пакой для забою рагатай жывёлы, сцены памаляваныя аліфавым малявіднам, філёнгавыя дзверы на 3-х завесах з паўзамком, жалезная засаўка знадворку і дзве ўнутры, 7 паўакенцаў з жалезнымі кратамі, 2 акны з акяніцамі, падлога цэментавая, столь дашчаная зводчатая з 8-мю драўлянымі камінамі для вентыляцыі пад страхою, 6 драўляных шулаў, абшытых цынкавым жалезам для ўмацавання бэляк. Жалезны механізм: 4 лябёдкі з блочнымі ланцугамі і чыгуннымі калёсамі, 30 калясак на жалезных рэйках з двайнымі крукамі, 8 жалезных прыстасаванняў для падвешвання дробнай жывёлы, 3 прыстасаванні для падвешвання ўнутранасцяў.

2-гі пакой для кашыравання мяса, сцены памалёваныя аліфавым малявідлам, дзвюхстворкавыя дзверы з паўакенцамі і нутраным замком на французскіх завесах, якая вяла з пакоя для забою жывёлы, 2 акны з двайнымі рамамі і акоўкай, печ жалезная, драўляны абшыты стол.

3-ці пакой з жалезным рэзервуарам для вады, простая печ з жалезным катлом у сярэдзіне для нагрэву вады, дзвюхстворкавыя дзверы, якія вялі ў кішэчнае аддзяленне, на французскіх завесах з нутраным замком.

4-ты пакой пад кішэчнае аддзяленне 2 акны з двайнымі рамамі і фортачкай . Аднастворкавыя дзверы выходзяць да выграбной ямы, жалезная печ, вадапровод з амерыканскай помпай і трубамі, якія праходзіць па ўсіх пакоях бойні, драўляны стол, абшыты цынкам (ацынкованым жалезам).

5-ты пакой для забою свіней. Вялікія абшытыя дзвюхстворкавыя дзверы на 3-х завесах з 2 засаўкамі ў сярэдзіне і 1-й знадворку з паўзамком, дзеры на 2-х завесах з 3-мя засаўкамі і паўзамком. 2 акны з двайнымі рамамі і 2 паўакны. Падлога цэментная, столь дашчаная. Вялікі жалезны кацёл цэментаваны з брукаванай і цэментавай пляцоўкай вакол. Пад катлом печ для нагрэву вады, чыгунны кацёл для абмывання ўнутранасцяў, 4 драўляныя слупы напалову абшытыя цынкавым жалезам, 12 кампельцаў, 4 колы, блок з вялікім ланцугом, 4 драўляныя лавы, абшытыя цынкавым жалезам.

6-ты пакой для забою заразнай жывёлы. Падлога цэментная. Дзверы дзвюхстворкавыя на 2 завесах з засаўкай, столь дашчаная, вентыляцыйны комін ў ёй, атынкованы, выходзіць на страху, 1 паўакно, паўцэментная яма.

Да будынка бойні з задняга боку прыбу-



***Будынак бойні. Сучасны выгляд.***

даваныя 2 невялікія мураваныя пакоі з выграбнымі цэментнымі ямамі ў зямлі, накрытымі жалезнымі накрыўкамі (ямы для вадкіх адкідаў) а над імі – для цвёрдых, у столі атынкованы вентыляцыйны комін, дзверы дзвюхстворкавыя, падлогі цэментавыя, у кожным пакоі па 1 паўакну. Пры вуглах будынка 5 вадасцёкавых труб.

**4. Навес для смалення свіней** даўжынёй 13 аршынаў (9,33 м), шырынёй 7,5 арш. (5,33 м), вышынёй 6 арш. (4,3 м) на 8 мураваных слупах, пакрыты жалезам, падлога з каменю, пасярэдзіне падоўжная цагляная яма для смалення.

**5. Хлеў драўлянны** даўжынёй 15 аршынаў (10,7 м), шырынёй 12 аршынаў (8,5 м), вышынёй 5 арш. (3,55м). У ім адны вароты дзвюхстворкавыя на двух завесах, падлога брукаваная.

**6. Хлеў мураваны**, пакрыты жалезам, даўжынёй 15 арш. (10,7 м), шырынёй 12 арш. (8,5 м), вышынёй 5 арш. (3,55 м). Вароты дзвюхстворкавыя, драўляныя, падлога брукаваная.

**7. Драўлянае адходжае месца** на 2 аддзяленні з цэментнай выграбной ямай.

**8. Студня драўляная** са зрубам глыбінёю 5 саж., абшытая зверху дошкамі, закрытая драўлянымі дзверцамі, над якімі зроблены драўляны вентыляцыйны комін.

У будынку бойні былі наступныя прыналежнасці : воз з жалезнай бочкай і 2 вечкамі для вывазу вадкіх нечыстот; воз для вывазу цвёрдых нечыстот.

Двор абнесены дашчаным плотам даўжынёй 50 сажняў (106,5 м) шырынёй 15 сажняў (32 м) з варотамі і 2 брамкамі. *(Там жа, с.148).*

На сённяшні дзень ад усіх гэтых збудаванняў засталіся два будынкі на тэрыторыі абутковай фабрыкі па вул. Фабрычнай 6; дом мураваны – зараз крама "Чаравічкі" і будынак бойні – зараз майстэрні і склады абутковай фабрыкі.

22 лістапада 1905 года лідскія мяснікі – хрысціяне К. Грыб, П. Стасевіч, В. Талішэвіч, М. Янчэўскі, І. І. Тубялевіч, Ф. Ліпская, О. Снітко, М. Лабіноўскі, П. Здановіч, Т. Бічэль і інш. прыпынілі на час кары-станне гарадской бойняй па наступных прычынах:

1. Бойня не мела належнага распарадчыка – гаспадара.
2. Унутранае яе ўладкаванне пакідала жадаць лепшага.
3. Не звярталася ўвага па чысціню бойні і прыстасаванняў.
4. Некаторыя плацяжы, якія браліся з мяснікоў-хрысціян у даход бойні, з-за цяжкага эканамічнага становішча, прапаноўвалася зняць, у прыватнасці 10-капеечны збор ад забітай свіні і інш. *(Там жа, с.97).*

Бойня працавала сезонна: забой буйной рагатай жывёлы і свіней праводзілі галоўным чынам у жніўні-кастрычніку, цялят – у лютым – сакавіку.

**Колькасць жывёлы, забітай на бойні ў 1908-1910 гадах.** *(Там жа, с.162).*

| | 1908 г. | 1909 г. | 1910 г. |
|---|---|---|---|
| **буйная рагатая жывёла** | 1435 гал. | 1491 гал. | 2353 гал. |
| **цяляты** | 215 гал. | 971 гал. | 435 гал. |
| **свіні** | 493 гал. | 406 гал. | 595 гал. |

У 1913 годзе бойня належала Носелю Моўшавічу і Моўшу Зелікавічу Баранам. Загадчыкам працаваў Шчытпіцкі Іцка Ізраілевіч з гадавым жалаваннем 200 рублёў. Абарот за 1912 год дасягнуў 10000 рублёў. *(Ф.1571, воп. 2., с.9).*

Бойня дзейнічала 40 гадоў. У канцы 1930 гадоў пачалося будаўніцтва мясакамбіната па вул. Длугай (Доўгай). Падчас вайны недабудаваны мясакамбінат згарэў. Наркамат мясамалочнай прамысловасці БССР 1 жніўня 1944 г. запрасіў Лідскі гарсавет выказаць меркаванні аб пабудове новага завода на базе захаваўшайся каробкі. *(ЗДА ў г. Ліда. Ф.55,воп. 1,с.10 д, арк.3).* на пляцоўцы захаваўся незакончаны галоўны корпус і брукаваныя дарогі з дэкаратыўным азеляненнем. *(ЗДА у г. Ліда, Ф.603, воп.1, с. 4,арк. 188).*

Таму 15 жніўня 1944 года зноў была запушчана ў работу бойня па вул. Фабрычнай, 11. Усім арганізацыям, установам і прыватным асобам было катэгарычна забаронена праводзіць забой жывёлы па-за бойняй.

У пачатку 1945 г. пачаў функцыянаваць мясакамбінат на вул. Доўгай (зараз Талстога). Гадавы выпуск прадукцыі ў 1945 г. склаў мяса 439 тон, каўбасных вырабаў – 53 тоны. Мясакамбінат дзейнічае да гэтай пары. У 1988 г. за межамі горада пачалі будаваць новы буйны мясакамбінат, але тут грымнула перабудова...

www.kamunikat.org

***Мікола Дзікевіч***

# ДЗ І Т Р Ы К І

## згукі заснуўшай цывілізацыі

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Наш каменданцкі звяз жыў у прыстасаванай казарме, што знаходзілася ў прыбудове да царквы і побач у драўляным доме з нізкай столлю. Тут нары змайстравалі ў адзін, а ў прыбудове – у тры паверхі. На верхнім радзе трымалася цяпло, унізе было халодна. Як і ў Гародні, хадзілі па вугаль на чыгуначны склад, што знаходзіўся побач.

З кожным днём прыбаўлялася работы ў штабе. Працавалі вечарамі і ноччу. Капітан загадаў выдаць мне наматрацнік, падушку і спальную бялізну. Позна ноччу заставаўся ў штабе. У казарму ісці было далекавата. Уладкоўваўся на сталах. Да снядання збіраў пасцель у шафу і ішоў у сталовую. Раніцай паспяваў першым, а ў абед і вечарам спазняўся. Але мяне гэта асабліва не турбавала. Харчаваўся адзін, з адной міскі і талеркі, лыжкай, якую насіў за абмоткай, а пазней – у боце.

Сябры елі за доўгімі драўлянымі сталамі. Сталы не накрывалі абрусамі. Кожны дзень дзяжурныя скраблі нажамі і бярозавымі венікамі. Сталы жаўцелі, але ад снядання да абеду і ад абеду да вячэры не высыхалі. Заўсёды былі мокрымі. Спачатку першае налівалі і клалі другое ў невялікія алюміневыя тазікі на пяць чалавек. Садзіліся ўсе разам па камандзе і пачыналі есці. Бало не да гутаркі! Кожны стараўся вылавіць гушчу. Праз месяц умовы змяніліся і ў сталовай з'явіліся алюміневыя міскі і талеркі. Хлеб на сталы раскладалі рэзчыкі з разлікам 700 грамаў на дзень. Салодкі чай і кампот пілі тры разы з кубкаў.

Часта мы ўспаміналі гарадзенскую сталовую. У Лунінцы месяцармілі пшаном, а затым месяц – кіслай капустай. Раніцай, днём і вечарам першае і другое. Салдаты хварэлі, не маглі глядзець на такую ежу. Праз месяцаў тры становішча выправілася і варылі лепшыя стравы.

У арміі ішла дэмабілізацыя. На складах не хапала абмундзіравання і сяброў з цяжкасцю апранулі. Я застаўся без яго. Каля трох месяцаў хадзіў у тым, у чым прыехаў. Гімнасцёрка, галіфэ, камашы і абмоткі – з хаты. З цяжкасцю дасталі палявыя пагоны і старую з матэрыі дзягу ды бялізну. У штабе пагоны вешаў на гімнасцёрку, на дварэ – на шынель.

Мой паўкажушок на аўчыне, пашыты з салдацкага шыняля, пакарацеў пасля санітарнай "апрацоўкі" ў бочцы і давялося адпароць унізе аўчыну. У ім хадзіў па Лунінцы да вясны, як цывільны чалавек, маючы вайсковы дакумент на права быць у горадзе ў любы час. Падчас прысягі 12 лютага 1946 года нас апранулі ў лепшыя шынялі стараслужачых. Толькі вясной апранулі мяне ў шынель. Нядоўга красаваўся! Са згоды старшыні звязу многія чарвонаармейцы аддалі шынялі франтавікам узамен на старыя. Брыдка было ім з'яўляцца дома ў старых і паношаных! Пазней апранулі мяне ў паўкажушок з х/б матэрыялу, у якім дэмабілізаваўся.

У Лунінец прыбывалі цягнікі з рэпатрыяцыйным абсталяваннем, яно затым перагружалася ў вагоны на калёсах савецкага шаблону. З крытых вагонаў абсталяванне выгружалі салдаты з нашай брыгады. Капітан дастаў друкарскую машынку з нямецкім шрыфтам. Шрыфт перапаялі на рускі. Вось калі нам стала працаваць лягчэй! Я даволі хутка азнаёміўся і засвоіў тэхніку друкавання. Да гэтага часу "пісаніна" па кадрах выконвалася хімічным алоўкам пад кальку, калі ў адным асобніку – тады чарнілам.

Некалькі разоў па справах з капітанам ездзіў у Пінск у штаб дывізіі. Даведаўся, як немцы будавалі ў балоцістых месцах дарогу паміж Лунінцом і Бярэсцем. Клалі папярок дарогі тоўстыя бярвенні, да іх мацавалі, з аднаго боку прычасаныя, танчэйшыя ў 3-4 разы. З двух бакоў па шырыне задніх калёс машыны. Каб машына не звалілася з кладак, пасярэдзіне клалі бардзюры-адбойнікі на ўнутраную шырыню задніх колаў. Вось так на невялікай хуткасці праз 500-600 м пры добрым бачанні сустрэчнай машыны даязджалі да "раз'езду". Тут адна з сустрэчных машын затрымлівалася на бакавой дарозе.

Незабыўнае ўражанне ўяўляла вясной беларускае Палессе з машыны і акна цягніка. Да гарызонту разлівалася вада. Дзе-нідзе бачны кусты і адзінокія дрэвы, а з пагорка на пагорак перапльвалі паляшукі.

Добра запомніў выбары ў Вярхоўны Савет СССР вясной 1946 года. Рана паснедалі. У казарме зшыхтавалі, агітавалі, каб прагаласавалі за названых кандыдатаў. Без шыхту зайшлі на выбарчы ўчастак, дзе атрымаўшы бюлетэнь, абавязкова павінны былі зайсці ў кабіну, пазнаёміцца са зместам і ўкінуць у скрыню. Абед і вячэра былі выдатнымі. Вольна схадзілі ў кінатэатр. Частку хлопцаў камандзіравалі ў раён на

www.kamunikat.org

ахову выбарчых участкаў.

Запомніў і святкаванне 1 траўня. Першы раз прымаў удзел у вайсковым парадзе. Думаю, што ўражанне ад нас у гараджан засталося нездавальняльным. Маршыравалі дрэнна, а знешні выгляд быў яшчэ горшы. Некалькі разоў па дзве гадзіны да гэтага без музыкі маршыравалі на пляцы, патлумачыўшы, што левай нагой патрэбна ступаць пад стук барабана.

Працуючы вечарам, падказаў капітану магчымасць паехаць дамоў і прывезці сякіх-такіх харчоў. Вырашылі, што выеду вечарам у пятніцу, раніцай буду на станцыі Нёман. Пяшком зайду дамоў, пераначую, у нядзелю выеду назад з разлікам з’явіцца на службу раніцай у панядзелак. Выпісалі камандзіровачную даведку. Разлік быў удалы. Прывёз сала, дамашняй каўбасы і ператопленага здору. Запасамі падзяліўся з капітанам, жонка засталася задаволенай. Затым некалькі разоў выязджаў паўторна, купляў сала, яйкі за грошы капітана. Стаў экспедытарам, пакуль не перавялі ў Пінск.

Прыязджаў дамоў і ў гутарках з роднымі, сяльчанамі даведваўся пра апошнія вясковыя навіны. Вёска бурліла. Ламаўся з такой цяжкасцю наладжаны павольны лад жыцця. Кожны дзень адбываліся нейкія змены. Надзеі на лепшае знікалі, як красавіцкі снег. Пры першых сустрэчах з чырвонаармейцамі пачулі, што Жукаў паабяцаў пасля перамогі над фашыстамі вярнуць уласнасць на зямлю. Гэта былі абяцанкі – цацанкі! Ні ў газетах, ні па радыё аб падобным нічога не пісалі і не гаварылі.

Гаспадарчыя і грашовыя падаткі, пазыкі развіцця гаспадаркі СССР не садзейнічалі надзеям на лепшае. У гаспадароў паступова апускаліся рукі да працы: працуй, не працуй – усё пойдзе ў дзяржаву, а затым у калгас за нішто. Праўдамі і няпраўдамі гаспадаркі дзялілі на меншыя паміж братамі, бацькамі і сынамі. Толькі таму, каб плаціць меншыя падаткі.

Людзі падаліся ў гарады ў заработкі, далей ад роднай зямліцы, здабыць пашпарт, каб потым быць хоць трохі вольным чалавекам. Буйніцкі Якуб Іванавіч з усёй сям’ёй выехаў у Карэлію. Вярнуўся, уладкаваўся на працу ў Бярозаўцы, перавёз туды ўсю пабудову. Урбановіч Станіслаў пераехаў на радзіму жонкі ў вёску Навапрудцы. Пабудаваў са старой хаты з хутара падноўленую, лепшую. Працаваў у Лідзе. Грынь Пётр Кандратавіч запісаўся палякам і паехаў у Польшчу са сваёй сям’ёй: жонкай і дзецьмі. Раней пісаў, што людзі працавалі на чыгунцы, шашы, у Сяльцы, Бярозаўцы і Лідзе.

Цяжка было ім. Працавалі днём і ноччу. Хацелася “абрабіць гаспадарку”, як гаварылі, ды на прадпрыемства не спазніцца. За спазненне каралі, а то і судзілі. Невялікія грошы атрымоўвалі на дзяржаўнай працы, а падмогай у хаце былі вялікай. Забыліся мужчыны пра рэлігійныя святы, а пад час дзяржаўных таксама працавалі дома і ў полі.

Штосьці ў вёсцы вытваралася. Не тымі сталі сяльчане. Людзі зайздросцілі. А зайздрасць - вораг здароўя сабе і сям’і. Зайздросцілі ўсяму і ўсім. Асабліва тым, хто больш працаваў. Яны траплялі ў лік кулакоў. Зайздросціў ім гультаяваты. Ён стараўся прыкласціся да бутэлькі. А той, хто шмат працаваў, сваё жыццёператвараў у беспрасветныя дзень і ноч. Жонка з раніцы да позняй ночы “гаспадарыла” дома, мужык – па выхадных. Дзе тут ім да сумеснага сямейнага кахання! Сустрэнуцца – злуюцца, сварацца і ўспамінаюць пра шчаслівыя непрацоўныя нядзелі і рэлігійныя святы.

Закончыўшы афармленне і здачу штабных матэрыялаў брыгады, нас перавялі ў Пінск у 61 дывізію. Рытм і аб’ём працы змяніўся. Я апынуўся ў самай гушчыні ўсіх падзей дывізіі. Авалодаўшы друкаваннем на машынцы, першым ведаў, што павінна адбывацца ў наступны час. Начальнікам штаба працаваў падпалкоўнік Бяляеў. Чалавек лагодны, душэўна спакойны. Ды бяда – любіў выпіць. Магчыма гэта не было б вялікай перашкодай у яго кар’еры. Ад лейтэнанта- інструктара па артылерыі ў Арміі Людовай даслужыўся да падпалкоўніка ў траўні 1945 года з адукацыяй 4 класы. Ад такіх афіцэраў згодна з загадам армія вызвалялася, калі ён не паступаў у вячэрнюю сярэднюю школу і не закончваў яе пазней. Не рабіў начальнік штаба ні тое, ні іншае.

Падпалкоўнік з дакументамі, якія паступалі, так-сяк спраўляўся. Зусім станавіўся бездапаможным у штабных занятках, падчас палявой вучобы з афіцэрамі, на вайсковых вучэннях. Тут выявілася яго няведанне карт, нанясення на іх агнявых цэляў, разлікаў агнявой магутнасці сродкаў дывізіі. На той час сёе-тое я ведаў і заўсёды, колькі мог, з яго згоды выпраўляў разлікі і памылкі. Памятаю, выехалі на некалькі дзён на ваенныя вучэнні ў раён Кобрына. Камандзір дывізіі, палкоўнік рушыў свае “палкі” ў атаку, а мы дзесьці далёка ад “фронту”, без сувязі друкуем загад на наступленне.

Ноччу, мы, тры салдаты, на склееных шпалерах, малявалі і пісалі пра дзеянні нашай дывізіі падчас “вайсковых змаганняў”. Раніцай генерал з вышэйшага штаба паказваў па карце і па чарзе то аднаго, то другога афіцэра падымаў з часовых драўляных лавак і ўспамінаў ім памылкі ў “бітвах”. Тады я пабачыў новыя, “студабекеры” з ЗША ў дзеянні. Напэўна былі апошнімі ад дапамогі з Амерыкі. Пішу і ўзгадаў, як генерал па тэлевізары паказваў доўгай указкай на карце парушэнне мяжы СССР японскім цывільным самалётам, які потым схаваўся ў невядомым кірунку.

Пасля вайсковых палявых вучэнняў наш лагер у палатках размясціўся на лузе вёскі Пугачова побач з ракой Мухавец каля Бярэсця.

www.kamunikat.org

Штаб нейкі час працаваў на таку ў гумне. Вясной заўсёды гумны пустыя. Успомнілася, як у 1941 годзе каля вёскі Гожа таксама пасяліліся чырвонаармейцы тэрміновай службы, і што пасля з імі здарылася. Тут на лузе ў нядзелю адбыўся паказальны суд над салдатам, які збег з часткі падчас вучэнняў. Злавілі яго з ружжом.

А яшчэ ўспомніў як аднойчы мяне і сяржанта з аўтаматам паслалі ў штаб у Бярэсце з сакрэтнай дакументацыяй. Позна ноччу селі ў прыгарадны цягнік Пінск-Бярэсце. Цягнік не асвятляўся і не ацяпляўся, але ў вагоне было ўтульна На верхніх лаўках хутка заснулі. Прыехалі на станцыю каля дзвюх гадзін ночы. Ішоў дождж, на дварэ было холадна. Вырашылі чакаць, пакуль павіднее. Прыгрэліся і зноў заснулі. Цягнік рушыў. У пасажыраў даведаліся, што едзем зноў у Пінск, адтуль – назад у Бярэсце. Абышлося ўсё добра, бо ў дзесяць гадзін былі ў штабе. Заданне выканалі.

Праца ў штабе, паездкі на вучэнні зблізілі мяне з падпалкоўнікам. Дазваляў вольна хадзіць, як у Лунінцы, па горадзе. І ў Пінску дапамагаў у рамонце безгаспадарчай хаты (даволі някепскай адносна капітана ў Лунінцы). Каля хаты была невялікая лазня. Па нядзелях сяды-тады з сябрам карысталіся ёю.

Сяброўства – сяброўствам, а служба - службай. Два разы падпалкоўнік, як мовіцца, “выклаў” мяне. Першы раз у Пінску, а другі ў летнім лагеры. Да сакрэтных дакументаў ён адносіўся абыякава, губляў, кідаў, як чарнавікі, у смецевую скрынку. Часта даставалі адтуль і разгладжвалі паміж папак. Каб зняць з сябе віну, адпраўляў мяне на гаўптвахту. У Пінску з раніцы пілаваў дровы. “Хапіла” начальніка штаба да абеду. Хутка быў выкліканы ў штаб, дакументы знайшліся, а падпалкоўнік не змог працаваць без мяне. У другі раз з вечара я праспаў у прыстасаваным агнявым зенітным пункце, пабудаваным немцамі, на гаўптвахце на саломе разам з вартаўнічым з карабінам, бо ўсю ноч ліў дождж. Раніцай вярнулі ў штаб, не датрымаўшы абяцанных па пяць дзён гаўптвахты ў першы і другі раз.

А вось з капітанам памочнікам начальніка штаба не скlаліся ў нас адносіны. Фанабэрысты, гультаяваты, а можа вёў сябе так, каб нашкодзіць падпалкоўніку і падняцца на вышэйшае месца. Ды, думаю, з яго не быў бы добры штабіст. Нас, малодшых, лаяў, зневажаў. З асабістай справы стала вядома, што сярэднюю школу закончыў пасрэдна. Пасля кароткатэрміновых збораў сынок вялікага начальніка атрымаў званне лейтэнанта, служыў у Маскве.

Ад Пінска засталіся ўспаміны, як па нядзелях нашы салдаты біліся з маракамі Днепра – Бугскай флатыліі. Камендатура з цяжкасцю разводзіла задзіраў і адводзіла на гаўптвахту.

Пасля летняга лагера нашу 61-ую дывізію разфармавалі, а мяне перавялі ў Бярэсце. Жыў і харчаваўся ў Паўночным гарадку. У новым штабе існаваў цвёрды рэжым, і я павінен быў у тэрмін з’яўляцца раніцай і пасля абеду. Абед цягнуўся гадзіну, і я не паспяваў дайсці з цэнтра горада да сталоўкі. Мне заўсёды дазвалялі пайсці раней. Не памятаю, каб, як раней, працаваў вечарамі.

У Бярэсці сустрэў Клёйду Аляксандра з вёскі Жомайдзі. Былога партызана накіравалі служыць у часткі НКУС. Некалькі разоў ездзілі на склады, што мясціліся ў цытадэлі. Ніхто не ўспамінаў, і нічога не гаварылі аб геройскай абароне.

У 1947 годзе ў штабы прыслалі загад аб дэмабілізацыі настаўнікаў. Іх не хапала. Многія не згаджаліся па тых або іншых прычынах, асабліва афіцэры, але іх прымусова звольнялі: не зважаючы на тэрмін выслугі. Я таксама быў дэмабілізаваны ў званні малодшага сяржанта, не праслужыўшы поўныя два гады.

Дома застаў брата Саню. Ён вярнуўся з Германіі. Прыехаў і адразу пасадзіў кармавыя буракі. З агратэхнікай пазнаёміўся ў нямецкага гаспадара. Нават прывёз нейкую колькасць насення. Буракі выраслі вялікімі. Суседзі прыходзілі і дзівіліся. Толькі пазней пачалі садзіць іх у калгасе. Тады брат Саня сам даглядаў: палоў, прарываў, абсыпаў і рабіў гноевую падкормку.

Доўга турбавалі брата Саню з КДБ. Выклікалі ў Ліду, ды цікавіліся, як трапіў у палон, чаму застаўся жывым, хто з табою працаваў у гаспадара, як адносіўся ён да палонных, у якіх умовах жылі і г. д. і т.п. Пазней, пасля яго смерці, прыслалі дакументы на кампенсацыю нанесенага маральнага прыніжэння і за працу ў Нямеччыне.

У верасні 1946 года Дзітрыкаўскую пачатковую школу перавялі ў вёску Жомайдзі і размясцілі ў хаце Мурына Сымона. Будынак яе захаваўся і зараз. Пачала працаваць школа ў Сіманах (звалася Зарачанская) і Жучкоўская, дзе была Дзітрыкаўская. Дзітрыкаўскай школай загадвала Болбас (Дзікевіч) Анастасія Сямёнаўна. Настаўнікам працаваў Сава Іван Іосіфавіч.

Болбас (Дзікевіч) Анастасія Сямёнаўна, Болбас (Кур’ян) Вольга Пятроўна, Болбас Алена, Пыш і іншыя былі размеркаваны ў Лідскім раёне пасля заканчэння Бабруйскай педнавучальні ў 1946 годзе. Вучэбная група з Віцебскай вобласці з 1944 года навучалася разам з намі ў Лідскай педнавучальні, пасля заканчэння яе ўладкавалі на працу па месцы жыхарства.

Пазней побач з вёскай Жомайдзі пабудавалі новую светлую і прасторную школу з двума класамі. Падворак абсадзілі дрэвамі. Раслі яблыні, слівы і вішні. Век школы быў нядоўгім. Яе закрылі, размясцілі вясковы клуб. Цяпер будынак безгаспадарчы, пустуе. Дзякаваць богу, як кажуць, цэлы, і сяды-тады там танцуюць вясельнікі.

У першыя пасляваенныя гады ў вёсцы вітала надзея на лепшае жыццё. Радаваліся добрым весткам ад першых чырвонаармейцаў.

www.kamunikat.org

Яны гаварылі, што Жукаў абяцаў: не быць калгасам! Людзі верылі і спадзяваліся, але надзея знікала з павелічэннем хлебных закупак дзяржавай, падаткаў, грашовых займаў, развіцця народнай гаспадаркі, з надакучлівай агітацыяй за калектыўную працу на радыё і ў газетах. Ранейшае натхненне і цяга да працы падалі і раставалі, як вясновы снег. Будзеш лепш працаваць, збіраць лепшыя ўраджаі – болей здай збожжа! Пазней у гады калектывізацыі першымі падаліся ў калгасы лепшыя гаспадары, што будзе – не так важна?! Важна вызваліцца ад усё павялічваўшыхся падаткаў і займаў, і пачнём жыць аднолькава роўнымі, хаця і беднымі! Жыхарка Усходняй Беларусі, знаёмая настаўніца на канікулах гасціла на радзіме. Яна гаварыла, што сярод усходніх начальнікаў - кіраўнікоў калгасаў - склалася думка аб Заходняй Беларусі як аб палачцы-выручалачцы: "Мы калгасамі не выцягнем план па сельскай гаспадарцы, затое заходнікі з аднасобніцкім гаспадаркамі заўсёды дапамогуць"! І дапамагалі, як маглі, да ўтварэння калгасаў.

Шмат людзей ехала тады з Украіны, з Усходняй Беларусі па хлеб і да хлеба. Ішлі па хутарах па аднаму, з дзецьмі, па дваіх і больш. Прасілі паесці, наймаліся працаваць. Везлі з сабою розныя рэчы, прадавалі. Пазней прыязджалі машынамі. На рынку ў Беліцы, на вёсках куплялі кароў, авечак, парасят, летам вялі кароў ад вёскі да вёскі, калі дарога была недалёкай.

Вёска ні на дзень не збаўляла рытм працы. Гадавалі жывёлу, рэшткі прадавалі. На рынках у Беліцы, Сяльцы, Бярозаўцы, як гаварылі, ламаліся сталы і вазы ад харчоў і жывёлы. Грошы патрэбны былі на выплату займаў, падаткаў. Лён стаў не ў пашане. Апранацца пачалі ў прамысловыя (крамныя) тавары. На пакупку іх таксама збіралі грошы.

Праз некалькі месяцаў пасля вяртання з арміі я ўладкаваўся загадчыкам Паперненскай пачатковай школы. Там працавала настаўніцай Вольга Якаўлеўна.

Са жніўня 1948 года па жнівень 1950 года другой настаўніцай працавала жонка, Анастасія Сямёнаўна. Дзеці ў школу хадзілі толькі з адной вёскі. Падчас вайны школа працавала дрэнна. Вучняў было больш за сотню. У класе вучыліся дзеці featurnaga ўзросту. Вясковае жыццё, за якім наглядаў і прымаў удзел чуць больш за два гады ў Папернi, было падобным да жыцця ў маёй роднай вёсцы. З вялікай цяжкасцю размяркоўвалі займы развіцця народнай гаспадаркі СССР. У дапамогу прысылалі людзей з райвыканкаму. Сума займаў павялічвалася. Гаспадары ішлі на розныя "хітрыкі", каб падпісацца на меншую колькасць грошай. Памагатыя з раёну чапляліся да ўсяго, каб застрашыць гаспадара: знайшлі брагу (амаль у кожнай хаце адчувалася яна па паху); больш жывёлы, чым запісана ў гаспадарчай кнізе ў сельвыканкаме; стаіць швейная машына (займаешся шыццём без аплаты падат-ку); знайшлі самагонку і многае іншае.

Хапала клопатаў настаўнікам з ліквідацыяй непісьменнасці сярод сяльчан. Хто вучыўся да вайны на польскай мове, у 1939-1941 гадах хутка авалодалі чытаннем на беларускай мове. Непісьменныя не жадалі, ды ім і не хапала часу хадзіць у школу. Часцей адказвалі: "Вось, каб па-польску вучылі!" Даводзілася штогод памяншаць непісьменнасць то за лік павелічэння ўзросту, то вучылі іх распісвацца, то прасілі старэйшых вучняў, каб яны чыталі пісалі з бацькамі і родзічамі. Склалася парука: у школу не ходзім – гаворым, што чытаем і пішам, мы – вучым. А хто праверыць?

Як адбывалася агітацыя за ўтварэнне калгасаў, наглядаў у вёсцы Паперня. Вёска вялікая. Сярод жыхароў былі асуджаныя за ўдзел у Арміі Краёвай, розніца паміж беднымі і багацейшымі была вялікая. У раёне ж вырашылі, што тут можна хутка арганізаваць калгас. На тыдзень прыехала агітацыйная брыгада з Менска, Гародні і трое з Ліды. Наведвалі хаты, а людзей на сход не сабралі. У хатах заставаліся толькі малыя дзеці і старыя. Тады пайшлі на палеткі, дзе людзі працавалі. І тут іх чакала няўдача: гаспадар заранёў кідаў каня ў баразне і падаваўся далей ад "агітатараў". Падобнае відовішча назіралася пазней у нашай вёсцы.

Нядзельная камандзіроўка агітатараў закончылася для мяне непрыемнай размовай у раёне. Упаўнаважаным па раёне быў прызначаны міністр адукацыі Саевіч. У апошні дзень ён заехаў у вёску, наведаў школу, настаўнікаў, пагутарыў з намі і застаўся задаволены ўбачаным. Аднак, як потым мне стала вядома ў горадзе, пры выездзе з вёскі хтосьці каменем раскалоў задняе шкло ў машыне. Выхаванцы школы былі "салідарныя", ніхто пра гэта нічога не сказаў.

На чытанне вершаванага ліста Вялікаму Сталіну ад беларускага народа: "Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход, прымі прывітанне, якое табе прыносіць беларускі народ"... прыйшло чалавек пятнаццаць. Слухалі ўважліва і падпісаліся без лішніх размоў.

Сяльчане даручылі мне працаваць сакратаром выбарчага ўчастка па выбарах у саветы ў вёсцы Мейры. Тут пабачыў "кухню" выбараў з сярэдзіны. З далёкіх вёсак выбаршчыкі ехалі фурманкамі, з бліжэйшых ішлі пешшу. Дома галасавалі тыя, хто па стану здароўя не мог з'явіцца на ўчастак. Не абыходзілася без кур'ёзаў. У скрынку ўкінулі менш бюлетэняў, чым выдалі па спісах; былі напісаны друкаванымі літарамі абражальныя словы ў адрас правадыра ўсіх народаў; выбаршчык з'явіўся на ўчастак, а да яго паехалі з пераноснай скрынкай. Каб дамагчыся 99,9% з'яўлення выбаршчыкаў перад закрыццём участка, прадстаўнік раёна пачкам укінуў бюлетні ў скрынку.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

www.kamunikat.org

*Алесь Нічыпар*

# Я - ЛОКІС*!

*Летнія травы*
*Там, дзе зніклі героі,*
*Як сон.*

**Басё.**

На абымшэлым дубовым бярвяне сядзеў высокі чалавек магутнага складу. Апрануты быў ён у простую ільняную кашулю, расквечаную на рукавах мудрагелістым шыццём і старыя паласатыя парты, якія, звычайна, у зэшлыя часы насілі нарманы. На шырокіх плячах гэтага мужа ляжала срэбная скура вялізнага мацёрага ваўка. Пасівелая пыса звера, з пустымі вачніцамі, жудасна выскаляла сцёртыя жоўтыя іклы на грудзях яго. Лёдзіста – шэрыя, нібы замерзлая вада, вочы пільна сачылі, як залатавалосы юнак б'ецца на мячах з суровым аднавокім воінам, на левай руцэ якога не хапае двух пальцаў. У воіна чорныя, але ўжо дужа пасівелыя на скронях валасы, заплеценыя ў тоўстую касу, якая падае ніжэй сцягна. Твар голены, у сіняватых палосах падгоеных шнараў. Ён усміхаецца, і на сонцы зіхацяць снежна-белыя моцныя зубы.

- Хутчэй. Хутчэй сячы, Лакісон! – крычыць чарнавалосы, насядаючы на маладога. – У твае шаснаццаць зім, я ўжо паліў варожыя караблі і кахаў дзяўчат! А ты яшчэ не вывучыўся, нават, трымаць зброю!

Юнак злізваў з вуснаў салёны пот, які ручаямі цёк па яго твары і па-рысінаму зыркаў зялёнымі вачамі. Усмешка блукала па вуснах чалавека ў воўчай скуры. Цвёрдымі, быццам бы жалезнымі, пальцамі ён круціў доўгія русявыя вусы, цёр светлую шчэць на даўно не голеных шчоках.

- Добрае ваўчанё выгадаваў ты, Локіс, - пачуўся прастуджана-хрыплы, непрыемны голас.

Локіс падняў кудлатую галаву і адкінуў з ілба доўгія русыя пасмы.

- Так, Скаманд, расце воўк. Я ганаруся ім. Мала каму па сілах так доўга цягацца з Варнісам** на мячах.

Скаманд – асілак-яцвяг*** з чырвоным тварам кіўнуў цяжкай галавой. Яго саламяная барада расла жмутамі і не магла схаваць плямы і шнары ад апёкаў.

- На мячах Храўн**** лепшы.

У гэты момант меч выслізнуў з рукі юнака, узняўся ў паветра, ззяючы ў сонечных промнях, і апынуўся ў руцэ чарнавалосага. Тры пальцы – тоўстыя і вузлаватыя, як карэні, моцна сціснулі пераплеценае скуранымі паскамі дзяржанне. Два бліскучыя лязы крануліся белай шыі маладога ваякі.

- Вось і ўсё, Лакісон, - мовіў Храўн і зарагатаў.

- Я буду валодаць зброяй, як ты, Храўн! – цяжка дыхаючы ўсклікнуў юнак. – Нават лепш за цябе! Чарнавалосы паляпаў яго па плячы, аддаў меч і зноў зарагатаў.

- Навука такая каштуе не танна, Лакісон, - сказаў воін, паказваючы на сваю пустую левую вачніцу.

У адрозненні ад пальцаў на знявечанай левай руцэ, пальцы на правай былі доўгія, тонкія і прыгожыя. Далонь маленькая і вузкая.

- Мне было дзесяць зім, калі я пайшоў у свой першы паход з вікінгамі. Цяпер жа мне ўжо мінула сорак. Трыццаць зім я нашу меч.

Ён раптам замаўчаў і зірнуў на хлопца.

- Ты будзеш лепшы, чым я, Лакісон, калі дажывеш да маіх гадоў. А зараз – ідзі. Унь, бацька зачакаўся.

Юнак адкінуў з вачэй мокрыя валасы і накіраваўся да Локіса. Высокі і не па гадах моцны, рухаўся ён мякка, нібы дзікі кот на паляванні. І бачна было – воін ідзе – не бязвусы хлапчук – падлетак.

- Ён вельмі нагадвае тварам Алнэ*****, – прамармытаў Скаманд і раптам змоўк, сустрэўшыся позіркам з Локісам.

- Празрыста-шэрыя, як кроплі сцюдзёнай расы на золку, зрэнкі праведыра рэзалі не горай за баявы пэйле****** . Нібы глядзеў гэта не чалавек, а сам Пікал******* зірнуў з цемры скрозь чалавечыя вочы. Страшэнны глыбокі шнар на правай шчацэ наліўся барвай. І Скаманд, адважны да адчаю вітынг******** адчуў у горле агідны камяк страху.

---

* **Локіс** (літоўска – пруск.) – мядзведзь.
** **Варніс** (пруск.) – крумкач.
*** **Яцвягі** – заходне-балцкае племя.
**** **Храўн** – (скандынаўскае) крумкач.
***** **Алнэ** (пруск.)- сарна, дзікая каза.
****** **Пэйле** - прускі баявы нож.
******* **Пікал** - бог пекла і цемры ў старажытных прусаў. Уладар прывідаў і духаў – насейлаў.
******** **Вітынг** (пруск.) - віцязь, воін, герой.

- Не дарэмна сканды* завуць цябе Локі**.

"У нас і ліцьвіноў ты мядзведь, у скандаў жа імя бога носіш. Ды якога.!" – падумаў яцвяг, апускаючы вочы.

Ужо ў які раз успамінаў ён, што амаль нічога не ведае пра свайго важара. Толькі тое, што быццам бы паходзіць ён з Дайнавы***, дзе ў князя Дзіркота ў дружыне не апошнім вітынгам быў.

Але пайшоў князь вайною на ляхаў, ды не меў удачы ў вайне той. Пасеклі дайнаўцаў ляхі. Дужа парэзалі. Сам князь з воямі лепшымі ў сечы галаву склаў. Мала хто ўратаваўся. А цяжка параненага Локіса знайшлі Стэгісавы самбы****. Ну, а далей... Тое шмат хто з вітынгаў ведае. Доўгія зімы песціць Локіс у душы помсту. Не, не ляхам. Смакуе яе. Як цмок, хавае лютасць у сэрцы сваім. Толькі Скаманд, ды аднавокі нарвег Храўн, якога завуць яны Варнісам, ведаюць тое, чаго не ведае болей ніхто. І не дарэмна людзі Поўначы – сканды завуць Локіса – Локі (Локіс-Локі – так, на свой лад, сканды імем бога завуць Локіса. Локі – самая таемная асоба у скандынаўскай міфалогіі). Яны любяць дайнаўца. Завуць яго сваім хёўдынгам*****. Удачлівы хёўдынг. Сам Аднавокі****** ахоўвае яго. Любіць правадыра і Скаманд. Добра памятае яцвяг пякучыя языкі ахвярнага полымя, якое запалілі пад ім вайдэлоты самбаў. З гэтага жэглішча зняў яго Локіс. І калі загаіліся абпаленыя ногі, аддаў яцвяг свой меч і вернасць сваю славутаму правадыру зграі марскіх рабаўнікоў і атрымаў месца на драконагаловай скандскай ладдзі і сваю долю ў здабычы. І ўжо не першы год яго рум******* быў на носе дракара********. Суровы і дзёрзкі быў правадыр.

Жорсткі быў. І нават самыя адважныя і ваяўнічыя з прускіх плямёнаў – самбы, якія жылі вайною і для вайны, і тыя змяняліся ў твары, калі ў заліве Халібо з'яўляліся жудасныя чорныя ладдзі Злога Локіса, Локіса Прывязаная Сякера, Локіса Цмок у Грудзях! Ведалі самбы, што воіны дайнаўца пойдуць за сваім правадыром хоць да скандскай Валгалы, што ззяе золатам даху ў небе, хоць у цемру да калматага Пікала. І не за тое, што сыпаў шчодрай рукой срэбра Локіс у шоламы



сваіх людзей, а за тое, што за кожнага з іх, не мяркуючы, жыццё паклаў бы. За тое любілі. За тое на смерць ішлі. І не было ў сечы ім роўных. Правадыр вёў іх да перамогі. Яны за яго паміралі.

Юнак стаяў перад Локісам, апусціўшы мускулістыя рукі і намагаўся па вачах бацькі здагадацца, ці задаволены той міжбоем. Але вочы правадыра, як заўсёды, заставаліся абыякавымі. Локіс ніколі не песціў пасона*********.

- А ці не занадта суровы ты да яго? – не аднойчы казаў Локісу, нават, Храўн. А ўсе ведалі, што не дарэмна празваны нарвег Жалезным Сэрцам. Але правадыр толькі паціскаў плячамі. Калі ў жорсткім абардажным баі з данамі сын выратаваў яму жыццё, нават тады нічога не сказаў мужнаму падлетку суровы Локіс. Толькі ў вочы ўважліва паглядзеў, паклаўшы на худое юнацкае плячо цяжкую шурпатую далонь, чорную ад смалы, і ўсміхнуўся.

Дайнавец падняўся з бярвяна. Ён маўчаў.

* **Сканды** – скандынавы.

** **Локі** – скандынаўскі бог падману, хлусні.

*** **Дайнава** – старажытнае княства на землях Заходняй Беларусі.

**** **Самбы** – адно з прускіх плямёнаў, якое адрознівалася ваяўнічасцю.

***** **Хёўдынг** – правадыр у вікінгаў.

****** **Аднавокі** – адно з імёнаў галоўнага скандынаўскага бога Одына – уладара Валгалы. **Валгала** (Вальхала) – палац Одына, дзе ў баляваннях і чечах чакаюць героі – эйнхерыі (якія з годнасцю загінулі) – нябесная дружына Бацькі Багоў дня Рагнарак – бітвы багоў з веліканамі і рознымі тытанічнымі пачварамі, у якой загіне свет. Локі будзе змагацца супраць багоў.

******* **Рум** - - лаўка для весляра на дракары. На носе дракара сядзелі толькі самыя адважныя, знакамітыя воіны.

******** **Дракар** – парусна –вяслярная баявая ладдзя ў вікінгаў.

********* **Пасон** (пруск.) – прыёмны сын.

www.kamunikat.org

Маўчаў і сын яго. І вось непрыкметная ўсмешка кранула цвёрдыя вусны важара.

- Не так дрэнна ты змагаўся сёння, Трынтвей*, – нарэшце мовіў ён, і вочы юнака зазіхацелі. – Рыхтую я чарговы паход на Самбію. Прыйшоў час, якога жадаў я доўгія зімы. Думаю, стаў ты мужам, і чакае бог воінаў, што, нарэшце, выканаю я, клятву, якую даў, калі яшчэ не прыдбаў сівізны ў валасах. Ты ведаеш, што значыць, тваё імя! – Трынтвей кіўнуў залатавалосай галавой – Пойдзем на маёй ладдзі, сын. Па сканчэнні паходу "Якая п'е вецер" падарункам табе будзе. Разам з дымам ты выправіш Стэгіса да Пяркуна!

- Або выпрастаеш яму рэбры** і паслухаеш, як будзе вішчэць пад тваім нажом, нібы парсюк, конунг*** людзей туману****, які загадаў аддаць багам тваю маці. А цабе, немаўля, выкінуць у лес – на разарванне звярам, а далоні бацькі твайго – дзідамі да дуба прыбіць! – прамовіў аднавокі Храўн – Варніс.

Трытнвей маўчаў, сціснуўшы пабялелыя вусны, зялёныя рысіныя вочы яго праменілі пякучае полымя. Нарэшце бацька палічыў яго мужам, Воінам! Ён палічыў яго годным для помсты лютаму ворагу. Усё жыццё рыхтаваўся да гэтага моманту Трынтвей, і прага помсты атруціла яго душу, як калісьці атруціла адважнае сэрца яго бацькі. І жахам веяла ад імя гэтага прыгожага залатагаловага хлопца. Аднойчы папытаў ён Храўна, чаго чакае Локіс? Чаму не напоіць Стэгіса яго ж крывёю? Усміхнуўся нарвег і мовіў:

- Толькі трэль***** спяшаецца. Бацька твой – хёўдынг! І не міне Стэгіса, Шуляком празванага па вашаму, а мы завём яго Хаўкам******, кара лютая. Конунг Сямланду******* ведае гэта. Смерці не баіцца ўладар людзей туману. Ён – воін і кароль! Але горай за смерць – яе чаканне. Шмат разоў спрабаваў ён забіць Локіса. Але не так проста завуць яго дзеці фіёрдаў Локі! Бацька твой – хёўдынг! Ты яго помста!

Так казаў аднавокі воін юнаку.

- Трымай, сын мой, - Локіс працягнуў хлопцу цяжкі меч у каштоўных похвах выкладзеных бліскучым срэбрам. – Калісьці я ўзяў яго ў цяжкай сечы ў правадыра данаў. Думаю, будзеш ты годны гэтай славутай зброі!

Нічога болей не сказаў Локіс. Адвярнуўся і нетаропка пакрочыў да берага, дзе воіны мазалі перад паходам дракары смалою марскіх коней. Трынтвей агаліў меч. Зазіхацела на вясновым сонцы блакітнае лязо, па якім паўзлі хвалістыя "змейкі"- малюнак цудоўнага франкскага дамаску. Ад срэбнага крыжа цяклі ля неглыбокіх долаў скандскія руны.

- Добрая зброя – пахваліў Храўн. – Старадаўняя. Пэўна, вялікія воіны валодалі ім, мячом гэтым. А імя клінку – Ёрмунрэк – імя славутага старажытнага конунга готаў. Каштоўны падарунак, Лакісон, вельмі каштоўны. Такая зброя жыве сваім жыццём, але верна служыць воіну, які ўдосталь поіць яе крывёю!

- Здаецца мне, Локі, цяжкі камень маеш ты на грудзях сваіх, і цяжкія думкі катуюць тваю галаву. Блага гэта напярэданні паходу. Хірдманы***** гамоняць, не бачылі цябе раней такім, хёўдынг. Дрэнна.

Локіс не адказаў Храўну. Паварушыў вуголле, і густая, ліпучая цемра, якая ўжо падпаўзла да прытухлага вогнішча, спалохана шуганула ў бакі. Скаманд падкінуў дроў, і полымя асвяціла суровыя, пасечаныя шнарамі твары воінаў. Чорны цень калыхаўся за іх спінамі. У глыбіні лесу застагнаў пугач.

- Ну, чаго маўчыш? – запытаў яцвяг. – Выхаваў зверанё, цяпер няхай кусае! Каб болей балела Стэгісу, падзель гэтага і гадаваў кроў яго. Хачу я зазірнуць князю ў вочы, калі даведаецца самб, што вантробы яму цягне ўласны сын! І няхай пабачыць Алнэ, як дзіця яе забівае бацьку!

- Помста годная вікінга, - кіўнуў Храўн.

- Можа тады ўспомніць яна, як плявала мне ў вочы, калі прыбівалі вітынгі мае далоні да дуба, - выскаліўся Локіс. – Плявала тая, падзель якой я змагаўся за Стэгіса! Тая, што абяцала маёй быць!

- Сапраўды! – зарагатаў Храўн. – Ты сам Локі! Нават ён не адпомсціў бы лепш!

- Мабыць, не мае ён такіх паплечнікаў, - усміхнуўся Локіс. – Ну, досыць языком малоць, як тыя бабы за шыццём. Спіце. На золку адыходзіць! І памятайце! Трынтвей не павінен даведацца праўды. Ён – мой сын! Я зрабіў з яго ваўка на пагібель кроўнікам сваім. Надоўга запомняць помсту Локіса! Уся Прусія!

Дайнавец адкінуў з грудзей цяжкую мядзведжую скуру. Моцны звярыны дух ляснога гаспадара, забітага ім гэтай зімой, яшчэ ішоў ад поўсці. Правадыр уздыхнуў. Сну не было.

* **Трынтвей** (прус.) – помста.

** **Выпрастаць рэбры** (урэзаць крывавага арла чырвонага арла,або крумкача) – жудаснае пакаранне, смерцю, прынятае ў германскіх пляменаў. Чалавеку на спіне рассякалі і расцягвалі ў бакі рэбры, пасля чаго яны нагадвалі птушыныя крылы. Потым даставалі лёгкія і сэрца.

*** **Конунг** (сканд) – кароль.

**** **Людзі туману** – скандынаўская назва прусаў.

***** **Трэль** (сканд.) - раб.

****** **Шуляк** – каршун, **хаук** (сканд.) – ястраб.

******* **Семланд** – Самбія.

******** **Хірдман** – дружынны воін у скандынаваў. **Хірд** – дружына.

www.kamunikat.org

Прахалода вясновай ночы пакусвала за ногі. У бездані чорных нябёс ззялі бліскуча – залатыя, таемныя і далёкія зоркі. Аднойчы адзін ірландзец – гадгедлар*, ізгой і забойца, распавядаў Локісу, што зоркі – гэта душы воінаў, якія з гонарам загінулі ў мінулых бітвах. Ён даўно выракся свайго бога і, мабыць, дзесьці там у вышыні, зіхаціць і яго зорка. Мелмордха паклаў сваю рудую галаву ў Вармііі. Локіс павярнуўся на другі бок, нацягнуў на галаву скуру і сплюшчыў вочы. А сон не ішоў.

... Высокія воіны з тварамі, як хваёвая кара, і магутнымі рукамі, колеру чырвона- шэрай гліны, на скрыжаваных дзідах нясуць цяжка параненага. Пад воўчай скурай уздрыгвае ў ліхаманцы зусім малады хлопец. Твар яго пажаўцеў ад хваробы – трасцы, схуднеў, пад празрыстай скурай бачна, як б’ецца яшчэ жыццё ў сініх жылах. Спяшаюцца самбы, аблізвае чорныя вусны скнара - Пікал! Што ж, калі паспеюць, можа і дамовіцца вайдэлот з князем мерцвякоў. Адчувалі вітынгі, незвычайнага ваяра нясуць яны ў паселішча. Таму і неслі.

- Навошта прыцягнулі вы гэтую падлу? - спытаў воінаў сваіх Стэгіс.

- Дык, дыхаў яшчэ, - паціснуў плячамі Вайкіт. – Цмока – пачвару жахлівую, на грудзях сваіх мае. Раны цяжкія мае, звычайны чалавек не вытрываў бы. А гэты яшчэ і сам ногі валок. Мы бачылі.

- Няма мне справы да яго, - сказаў князь – І ў жыцці яго няма патрэбы. Належыць ён уладару насейлаў**. На вачах яго – цень крылаў крумкача Пікала!

- З ім я гаворку весці буду! – раптам пачуўся гучны голас за спіною Стэгіса.

Князь заскрыгатаў зубамі, збялеў тварам. Вайдэлот самбаў стаяў за ім. Воіны апусцілі галовы. Высокі, сухі целам і цёмны скурай, карчакаваты, нібы старое, бітае маланкамі дрэва, слуга Пяркунаў апіраўся на закручаны зверху дубовы кій. Жоўта – зялёныя драпежныя вочы глядзелі ў пабялелы ад гневу твар Стэгіса.

- Пяркун не дарэмна не аддае яго Пікалу, - мовіў стары. – Нясіце яго да мяне, ды хутчэй.

- Кляты вядзьмак – ціха прасіпеў князь і шпарка закрочыў прэч. Люта ненавідзеў ён старога вайдэлота, які абмяжоўваў яго ўладу і не саромеўся гэта паказаць. Ён, а не Стэгіс, уладарыў самбамі. З ім, а не з князем, размаўлялі багі. І пры ўсёй сваёй нянавісці разумеў Шуляк, што нічога змяніць не можа. Сілу, вялікую магуту і ўладу мелі вайдэлоты, за якімі стаяў вялікі Крыве!

За ім жа – суровыя багі туманнай Прусіі.

Упершыню ўбачыла яго Алнэ ля ляснога возерца. Ён сядзеў на беразе, выцягнуўшы хворыя ногі і ў задуменні сачыў, як на чорную ваду ціхенька апускаюцца чырвона-жоўтыя асеннія лісты. Самбы не любілі сюды заходзіць.

Зачараванае гэта было месца, і не належала яно свету жывых. Заўсёды, нават, калі шалёны паўночны лістадзёр ламаў на магутных дрэвах вяршыні, у гэтым ракітніку панавала цішыня. Жудасная цішыня. Здавалася, ніякая сіла не зможа парушыць мёртвы спакой гэтай чорнай бездані, дзе, самбы былі ў гэтым упэўнены, адпачывалі Пікалавы слугі. Але Алнэ больш баялася свайго мужа, чым жудасных насейлаў. Ганарлівая яцвяжская кроў цякла ў яе жылах, і продкі яе былі славутыя воіны. Не аднойчы заходзіла яна ў гэты ціхамірны куток, уцякаючы ад служкаў сваіх. І ёй не было справы, што жорстка караў суровы Стэгіс тых, хто не звочыў, куды збегла яго трэцяя, каханая жонка – прыгожая, чароўная Алнэ, мілая яго жорсткаму сэрцу! Але ж не кахала яна славутага ўладара ваяўнічых самбаў. Не сама ішла за яго – бацька аддаў. За табун злых баявых коней, ды зграю лютых слідэніксаў***. Не мала даў Стэгіс. Ох, не мала. Але ж не пажадала самба яцвяжка ганарлівая. Не да душы быў. Не хацела з ім легчы, сілай браў яе Стэгіс. І не аднойчы бачыла Алнэ барвовае полымя ў зрэнках правадыра, калі выклікала яго гнеў. Заплюшчвала яна вочы, бойкі чакала. Але апускаў кароль Самбіі кулак цяжкі. Цадзіў скрозь зубы.

- Другую ўжо забіў бы, - хрыпеў Стэгіс – цябе не магу. Кахаю цябе, дурніцу. Але ж, сцеражыся. Не цягай каршуна за пер’е. Вочы ён табе выдзяўбе! Смерць табе лютая будзе!

Потым заўсёды была цішыня. Як на гэтым вось чорным возеры. Стэгіс выходзіў, пакідаючы яе з заплюшчанымі вачамі, і яна ніколі не чула яго крокаў. Ён знікаў, нібы прывід. А яна доўга яшчэ ўздрыгвала ў цемры князевых пакояў, абхапіўшы рукамі круглыя, прыгожыя калені. Яна баялася яго. Толькі гэты чалавек быў здольны выклікаць у ёй жах. Толькі ён. Спрабавала яна пакахаць гэтага самбійскага шуляка. Але кахання не было. Замест яго прыйшла нянавісць. Што ж, праўду казала ёй у дзяцінстве старая служка яе, што будзе яна рабой мужу свайму. І нельга супрацьстаяць лёсу.

Жонкі прусаў цалкам належалі сваім мужчынам. Ён – муж, быў іх гаспадаром і панам, і доля жаночая – скарыцца яму. А не – смерць! А вось гэты зусім быў не падобны да Стэгіса. Дайнавец, што сядзеў зараз ля чорнай вады і назіраў за карагодам лістоў. Дзівак, што тут

* **Гадгедлары** – ірландцы – хрысціяне, якія выракліся Хрыста і ваявалі супраць свайго народу.
** **Насейлы** – (прус.) прывіды, душы. Уладар іх – Пікал.
*** **Слідэніксы** – прускія баявыя сабакі.

www.kamunikat.org

скажаш. Цікава, пра што думае гэты юнак, ужо адзначаны завеямі жорсткіх бітваў. Пра маці? Аб чым марыць? Што пакінуў у Дайнаве? Каханку? Цікава! Вось ужо амаль месяц, як падгаіліся раны яго цяжкія і, абапіраючыся на бярозавы каштыль, - дрэнна зрасталася зламаная нага – што дзень цягнуўся ён да таемнага, засыпанага лістатой возера.

Тутэйшы вадзянік, чамусьці, не перашкаджаў яму. Напэўна, дужа паважаў самбійскага кудара, які вырваў маладога воіна з халодных рук Мажаны*. Хлопец падоўгу сядзеў на беразе, слухаючы шэпт старажытнай пушчы. І апошнія дні ён пачаў браць з сабою сваю цяжкую двухручную сякеру з драпежна выцягнутым лязом. Знявечаныя ў сечы ногі яшчэ не надта добра слухалі яго. Як потым даведалася Алнэ, хлопца гэтага прыдушыў забіты пад ім конь. Але дайнавец болей не жадаў чакаць. Вось і зараз, скінуў доўгую белую кашулю і пачаў бой з невядомым ворагам. І ніколі яшчэ не бачыла Алнэ, каб хто з вітынгаў так хвацка валодаў гэтай страшнай зброяй. З гулам рэзала яна паветра, лятала, нібы маланка раз'юшанага чымсьці бога-грамавіка, скакала з рукі ў руку. Пасля хваробы дужа схуднеў хлопец. Кожную жылу бачна было. Магутнае, гнуткае цела, пакасаванае баявымі шнарамі, заліваў пот. Доўгія каштанавыя валасы ліплі да мускулістай спіны. І вось, кінуў сякеру ў сухую траву і, нават, не павярнуўшы галавы ў яе бок, мовіў ён:

- Ну, і доўга яшчэ ў гушчары пільнаваць мяне будзеш? Выходзь жа! Чаго хаваешся?

Крыху памарудзіўшы, выйшла яна з-за вялізных старых ялін. Высокая, тонкая і чароўна прыгожая. З хвалістымі залацістымі валасамі і вачамі колеру ціхамірнага вясновага мора. І доўга моўчкі стаялі яны, і, нібы зачараваны, глядзеў дайнавец у бездань яе сініх вачэй.

- Я ведаю, - мовіла нарэшце яна. – Ты – Локіс!

Воін усміхнуўся.

- А ты, мабыць, сама Латыс**?

- Не, - з усмешкай адказала дзяўчына. – Я жонка ўладара самбаў.

Локіс кіўнуў мокрай ад поту, калматай галавой.

- Я бачыў цябе раней, красуня.

Зірнула дзева яму ў вочы і дакранулася тоненькім пальчыкам сіняй татуіроўкі на грудзях дайнаўца. Жахлівы цмок крыважэрна выскаляў на яе іклы. Доўгі сіні язык пачвары быццам бы злізваў кроплі поту з маладога дужага цела.

- Адкуль гэта ў цябе? - шапнула яцвяжка.

Локіс пацiснуў магутнымі, нібы з каменю, плячамі.

- Калісьці людзі князя Дзіркота забілі на паляванні мядзведзіцу. З яе нары выцягнулі смаркатае хлапчане. Малы бурчаў і кусаўся, нібы звер, і на грудзях яго сінела выява жудаснага цмока. Вайдэлот Дзіркатаў мовіў князю, што такога звера, калісьці, быццам бы насіў на грудзях Палтэс*** – уладар Полацка, які прыйшоў з-за сцюдзёнага паўночнага мора. Болей нічога не ведаю. Ведаю толькі тое, што князь загадаў выхаваць тое дзіця. Малы вырас, і аднойчы яму пашанцавала. Вельмі пашанцавала. Ён застаўся жыць пасля крывавай бітвы, апрытомеў ад цяжкіх ран, выкараскаўся з хваробы і ўбачыў найпрыгажэйшую дзяўчыну ў свеце!

Алнэ апусціла вочы.

- Мядзведзь у чалавечай скуры. Я сачыла, як ты валодаеш сякерай. Не блага. Не жадаеш прапанаваць яе гаспадару гэтых земляў?

-Усе гэтыя дні ты пільнавала мяне, каб паклікаць на службу да Стэгіса?

Не заўважыла Алнэ, як ён наблізіўся да яе і накрыў яе маленькія далонькі сваімі жалезнымі пальцамі…

Локіс цяжка ўздыхнуў і вылез з-пад цёплай скуры. Была ўжо глыбокая ноч і становішча спала. Толькі вартавыя па-воўчаму, нячутна краліся ў цемры, ахоўваючы сон братоў па зброі. Каля суседняга вогнішча сядзеў на калодзе Храўн і песціў асёлкам лязо Бацькі Слёз.

-Чаго не спіш, Варніс? – спытаў правадыр, прысеўшы побач!

Вікінг націснуў шырокімі, магутнымі плячамі і адкалаў свой улюбёны меч.

- Ды так, Локі, успаміны.

- Усё сумуеш па Хардрадзе**** ?

Нарвег скінуў з плячэй плашч з лісавага футра і зірнуў на дайнаўца бліскучым вокам, у глыбіне якога адлюстраваліся языкі палымя.

- Ён быў лепшы з конунгаў. Апошні конунг – скальд*****, конунг – вікінг. Ён загінуў і ўсё меней становіцца нас – сэконунгаў***** –

* **Мажана** – жанчына, увасабленне смерці у прусаў.

** **Латыс** – багіня вод і гадаў. Жыла ў яліне.

*** **Палтэс** – легендарны Полацкі нязь. Аб ім згадвае толькі адна скандынаўская сага. Ніхто не ведае, кім ён быў. Ці то скандынавам, ці варагам, ці кім іншым. Кажа сага, што прыйшоў з-за мора гэты віцязь.

**** **Харальд Хардрадэ (Суровы)** – нарвежскі кароль, які загінуў у 1066 годзе ў бітве ля Стэмфардбрыджу, калі спрабаваў заваяваць Англію.

***** **Скальд** – паэт - воін у скандынаваў.

****** **Сэконунг** – марскі кароль – назва вікінгскіх правадыроў, якія гамарыліся, што не адно лета не жывуць на землі.

www.kamunikat.org

уладароў Кітовай Сцяжыны*. Памятаеш, калісьці мовіў ты, што наш час скончыўся. Тады, у Ярыцлейфа** конунга, ты сказаў праўду, бо ў той час бачыў далей за мяне. Час вінінгаў зышоў, Локі. Я ведаю, ты не можаш забыцца, што калісьці я пакінуў тваю ладдзю і пайшоў за Харальдам.

- Годзе, годзе аб тым, Варніс. Не аднойчы ты ратаваў мне жыццё, пабрацім, ты дапамог мне стаць сэконунгам. Вось што не забудуся я да смерці! А Хардрадэ быў годны таго каб за ім ішлі такія, як ты. І ведай, пабрацім, не маю я на цябе зла. Кроў дарэмна не змешваюць. Хоць і балюча мне было, што лічыш ты Харальда лепшым. Ды я разумеў. Хардрадэ – вялікі конунг. Такіх болей не будзе. І ты не здрадзіў мне, калі аддаў яму свой меч.

-Усё так, хёўдынг. Харальда больш няма, і зноў я з табою. Бо не знайшоў людзей, якія былі б за цябе лепшыя.

Храўн замаўчаў, гледзячы ў агонь. Маўчаў і Локіс.

- За ім бадзяўся я па свеце. Дзеля яго прыняў Хрыста і служыў і Міклегардзе*** далёкім к'яру**** – нарэшце мовіў вікінг. – І на сваіх руках я нёс яго на карабель, дзе ён пажадаў аддаць Богу душу, калі сакская страла працяла яму горла. Я змагаўся побач, але не паспеў прыняць тую змяю ў сваё сэрца, хоць і кінуўся ёй насустрач, бо заўважыў, як сакс нацягнуў лук, - Храўн аблізаў перасохлыя вусны і глытнуў з вялізнага турынага рога, акутага срэбрам. – Бачыў бы ты вочы Элісіў****, калі зямля праглынула цела Харальда. Я воін, Локі. Я ліў кроў, паліў, рабаваў і гвалціў. І прозвалі мяне Жалезным Сэрцам. Але да гэтай пары памятаю я вочы дачкі конунга русаў.

- Здаецца мне, што памякчэла тады тваё жалезнае сэрца, Варніс.

Храўн усміхнуўся.

- Няўжо думаеш, што памякчэла яно падзель слёзных жаночых вачэй? – сказаў ён. - Мае валасы, Локі, ужо беліць шарон сівізны, і снег на скронях маіх – гэта снег паходаў, у якіх я бачыў шмат вачэй. Я бачыў у іх жах і боль, нянавісць і шаленства. Я шмат чаго бачыў, Локі. Але не магу забыцца я таго, што ўбачыў у вачах Элісіў. І тады зразумеў я, чаму забараняе Хрыстос ліць кроў.

- Хрыстос? – прыпадняў бровы Локіс і агаліў ва ўсмешцы моцныя белыя зубы. – Ілжа хрыстовых вайдэлотаў даўно атруціла цябе, пабрацім. Я заўсёды казаў табе гэта, Варніс!

- Я ніколі дужа не верыў ім, Локі. Папы трымаюць крыж адной рукою! У другой жа – меч! Я змяніў Одына і Тора****** на Хрыста, каб быць побач з чалавекам, якога любіў. І калі ён памёр у мяне на руках, я зразумеў, што чалавечае жыццё ўсё ж нечага каштуе. І я кажу гэта табе, хёўдынг, таму, што бачу, як змяніўся ты ў апошнія дні. Каля Стэмфарду я страціў вока, але стаў бачыць лепш. Далей. І бачу я тое, чаго не заўважаюць іншыя. І жадаю табе сказаць я, пабрацім. Бо я ведаю. Помста не заўсёды прыносіць асалоду.

Цішыня. Ціхая сіняя ноч панавала над зямлёю. Мужчыны доўга маўчалі, слухаючы таемны шэпт лесу, і над галовамі іх зіхацелі халодныя зоркі. Локіс нарэшце ўстаў на ногі і мовіў Храўну:

-Трэба хоць крыху паспаць. Хутка ўжо ўзыдзе Дайнайна*******.

Храўн кіўнуў і паварушыў галінай вуголле. Локіс зірнуў на пабраціма.

-Варніс...

Вікінг падняў галаву. Бліснула ў святле вогнішча яго суровае вока.

-Ты ведаеш. Пяркуну я абяцаў Шуляка. Агонь, які доўгія годы паліў маё сэрца, чакае яго! Агонь помсты! І яна будзе мне салодкай, Варніс. Мядзведзі ніколі не даруюць абразы. Я – Локіс!

- Не дарэмна кажуць людзі, што жыве цмок у тваіх грудзях, брат мой. Ты ведаеш, Локі, я заўжды з табою! Але я ведаю, хёўдынг, шкадаваць будзеш, што не паслухаў слоў маіх.

- Досыць, Варніс. На ўсё воля тваіх норнаў********.

... Ён стаяў, абапёршыся на сякеру, глядзеў у блакітна - шэрыя вочы Стэгіса і паўночны вецер развяваў яго доўгія шорсткія валасы, па-самбійску заплеценыя спераду ў дзве касы. Бараду ён, у адрозненні ад самбаў, галіў. Але меў доўгія, дужа доўгія шараконавыя вусы, якія апускаліся яму на грудзі і надавалі маладому твару змрочную суровасць, падкрэсліваючы яго мужную прыгажосць! Усе Дзіркотавы ваяры галілі падбародкі і мелі звычайна такія вось вусы. Сам князь гадаваў і песціў іх, ганарыўся імі.

- Кажаш, вітынгам быць жадаеш? – жмурыў правадыр самбаў пранізлівыя вочы. – А што не кожнага клічу, тое ведаеш?

- Ведаю, - адказаў Локіс.

Стэгіс зірнуў у бок сваёй дружыны.

- А што, Скурдо паб'еш, сярод нас месца

* **Кітовая Сцяжына** – у паэзіі скальдаў кёнінг мора.
** **Ярыцлейф** – кіеўскі князь Яраслаў Мудры, якога нарманы звалі скупым.
*** **Міклегард** (сканд.) - Канстанцінопаль
**** **К'яр** – кесар, васілеўс.
***** **Элісіў** – так валі нарманы Елізавету Яраслаўну– жонку Харальда Суровага, дачку Яраслава Мудрага.
****** **Тор** – у міфалогіі скандынаваў бог грому і маланкі.
******* **Дайнайна** – зорка Венера. У прускіх плямёнаў лічылася зоркай воінаў.
******** **Норны** – (сканд.) – у скандынаўскай міфалогіі – бігіні лёсу. Урд, Верандзі і Скульд.

www.kamunikat.org

атрымаеш. А не ..., - князь развёў магутнымі рукамі, і воіны зарагаталі.

З іх натоўпу выйшаў вялізны волат - самб і накіраваўся да Локіса. Быў ён амаль на галаву вышэйшы за дайнаўца. Магутны, нібы тур, да вачэй у пасівелай барадзе, якая хавала глыбокія баявыя шнары. Рухаўся ён лёгка, нягледзячы на ўжо немаладыя гады, мяккай, тыгрынай хадой. Нёс на плячы драпежніцу-сякеру з вузкім кіліна-надобным лязом. Спыніўся Скурдо-вітынг насупраць Локіса і зазірнуў яму ў вочы. Дайнавец спакойна вытрымаў яго воўчы позірк. Упэўненасць старога ваякі, загартаванага ў шматлікіх бітвах, была ў бурштынавых вачах пруса. Мацёры ваўчына, якому не вядомыя паразы, стаяў перад Локісам. І ведаў Локіс, бачыў, што хоць і дужа пажаўцелі яго іклы, але не сцерліся! Цяжкі будзе бой.

- Трымайся, ліцьвін, - мовіў Скурдо, калі ім падалі скайтаны*. – Шалом хоць вазьмі. Мо цалейшым застанешся.

Локіс толькі ўсміхнуўся і зручней перахапіў адпаліраванае тронца сваёй улюбёнай сякеры. Ён ганарліва зваў яе Дайнайнай – надзеяй воіна і, таксама, як і прусы, з пагардай глядзеў на тых, хто спадзяваўся ў смяротным баі на вялікую тарчу і цяжкія моцныя броні. Бачыў хлопец, лепшы з вояў, лепшы са Стэгісавых вітынгаў выйшаў супраць яго. Што ж, тым большая асалода, большы гонар будзе ад перамогі над годным. Кароль самбаў з усмешкай назіраў, як баяры, нібы каты перад бойкай, пільна сочаць за кожным рухам ворага, выбіраючы зручнае імгненне для выту. І вось, Локісава сякера грымкула аб скайтан Скурдо. Прус выскаліўся, страшна, павоўчаму, і адказаў страшэнна магутным вытам. Вузкая, як дзюба драпежнай птушкі, сякера яго працяла тарчу дайнаўца і параніла Локісу руку.

- Ну, трымайся, хлопча. – Скурдо з рыканнем ірвануў зброю, але лязо моцна засела ў скайтане. Локіс хутка скінуў сваю тарчу з параненай рукі і яна пацягнула Скурдаву сякеру да зямлі. Не звяртаючы ўвагі на рану, дайнавец абхапіў Дайнайну дзвюма рукамі і ў некалькі магутных вытаў пасек скайтан самба на кавалкі і абяззброіў яго. Скурдо так і не паспеў выцягнуць сваю сякеру. Пераможаны, стаяў ён перад ліцьвінам і твар яго быў цямнейшы за самую цёмную навальнічную хмару. Толькі воўчыя вочы палалі, налітыя чырванню, праменілі нянавісць. Але Локіс ўжо не звяртаў на Скурдо ўвагі, бо ўбачыў Алнэ, што стаяла побач Стэгіса і ўсміхалася параможцу. Яна ведала, чаму гэты прыгажун-вітынг застаўся ў Самбіі і выйшаў на міжбой з лепшым воінам Стэгіса, і была шчаслівая.

- Хвацка, хвацка, - хваліў правадыр. – Якога ты роду, хлопец?

Локіс пацісну плячамі.

- Дзіцём знайшлі мяне ў мядзведжай нары паляўнічыя князя дайнаўскага Дзіркота. Сярод іх кунігас з вармаў** быў. Мінтэля звався. Ён мне імя даў, зваў сынам. Яго я - бацькам.

- Чаму ж не хочаш у Дайнаву вяртацца, а мне служыць застаешся?

Цень лёг на Локісаў твар, і мовіў ён уладару самбаў.

- У сечы лютай загінуў бацька мой. Побач князя біўся, побач яго і лёг. Пасля смерці Мінтэлі няма мне месца ў маёнтку яго. Трох уласных сыноў мае кунігас. Пяцёра ўсіх меў. Старэйшы загінуў, калі з русамі рэзаліся. А другі – Комат, у сечы з ляхамі жыццё паклаў. Ніколі не мелі мы між сабою згоды, не мелі любові. Ніхто ў княстве Дайнаўскім не чакае мяне, правадыр. Хіба што мячы Мінтэлявых нашчадкаў. Яны не пажадаюць даць мне і малога кавалка ад бацькаўшчыны. Цяпер вось гэтая сякера – уся мая маёмасць. Табе хачу служыць!

- Што ж, Локіс з Нары, валодаеш ты ёй не кепска. Усе тое бачылі, - Стэгіс зняў з запясця срэбнае абруча і працягнуў пераможцу. – Трымай, вітынг. Няхай твая сякера п'е кроў маіх ворагаў.

І бразнулі воіны зброяй у тарчы, калі прыняў Локіс срэбра з рук уладара.

- Не думала я, што юнак гэты паб'е Скурдо, - сказала мужу Алнэ.

- І я не думаў, - змрочна адказаў правадыр і зірнуў на жонку – А табе, бачу я, да душы перамога дайнаўца!

У гэты момант Стэгіс дужа нагадваў драпежную птушку. За тое і быў Шуляком празваны. І апусціла Алнэ галаву, каб не бачыць лёду ў яго вачах. Яна ненавідзела гэтыя вочы. Ад іх заўсёды веяла холадам. Халоднымі былі і яго вусны, якія зараз дакраналіся яе пяшчотнай шчакі. Зусім іншыя былі ў яго – дайнаўскага ваяра – ляснога знайдыша, які вёў свой род ад таемнага легендарнага чужынца, што калісьці прыйшоў з-за далёкага халоднага мора. А бацькам яму быў сам уладар лесу – Локіс! А мо той жахлівы змей, што ўколаты ў магутныя грудзі? І былі яго вусны цёплыя, жывыя... Алнэ ўздрыгнула ад гэтых успамінаў, і Стэгіс абняў яе за плечы.

- Бачу я боязь у вачах тваіх, - мовіў гаспадар Самбіі – Чаму? Няўжо пакрыўдзіў чым? Я ўсё яшчэ чакаю твайго кахання. А таксама, што народзіш ты мне сына. Не бойся мяне.

Алнэ маўчала.

- Добрага ваяку атрымаў ты сёння, князь, мовіў Барнім за спіною Стэгіса і правадыр павярнуўся да старога аднарукага вітынга.

---

* **Скайтан** – невялікіая круглая тарча ў прусаў.

** **Вармы** – адно з прускіх плямёнаў.

- Спрытны хлопец, - згадзіўся ён. – Можа і не дарэмна вайдэлот выратаваў яго. Там пабачым. Дарэчы, Барнім, наглядай за ім. Скурдо не даруе яму паразы сваёй…

- Прачніся, кунігас, - скрозь сон пачуў Локіс і, яшчэ не расплюшчыўшы вачэй ускочыў на ногі, сціскаючы ў руцэ нож. – Спакойней, Локіс. Нічога не здарылася, - усміхаўся Скаманд. – Як і дамаўляліся, прыйшлі людзі Стардо. Брат мой чакае ў Чорнай пушчы. Яны правядуць. За шырокай спіной Скаманда стаялі маладыя яцвягі, зацікаўлена пазіраючы навокал. Высокія ды ладныя хлопцы, светлавалосыя і светлавокія, апранутыя ў воўчыя скуры і ўзброеныя дзідамі і гнуткімі лукамі. У аднаго самага старэйшага, з-за дзягі тырчэла сякера, перавітая срэбным дротам.

- А што, Скаманд праўда, што суседзі і вас дайнавай клічуць? – запытаў Локіс.

- І дайнавай таксама, - кіўнуў воін. – Як хто.

- А вітынгаў колькі прывёў правадыр ваш Стардо?

- Паўсотні сваіх мае, - адказаў адзін з хлопцаў, той, што сякеру меў. – Ды дзесяткі два вармаў. А ліцьвінаў – тых за сотню!

Дайнавец кіўнуў цяжкай галавой, адкінуў з ілба хвалі валасоў.

- Брат твой, Скаманд, не парушыў слова сваё. Годны вітынг. Быць яму правадыром. Воінаў нам, мяркую, хопіць. Бурыслаў абяцаў сваіх ваграў. Што ж, свае абяцанні і я трымаю. Усе тое ведаюць. Як спалю Стэгіса, дапамагу Стардо. Будзе свой род мець. Абы вайдэлоты згоду далі, - Локіс усміхнуўся. – Дадуць. Срэбра яны любяць. А зараз – на ладдзі!

… Амаль год служыў Локіс гаспадару Самбіі. Біўся з русамі і з вармамі. І давялося яму аднойчы ў сечы з ляхамі выратаваць жыццё Стэгісава. Правадыр наблізіў дайнаўца да сябе, і цяпер меў Локіс магчымасць амаль кожны дзень бычыць Алнэ. І цяжка было хлопцу, калі крадком цалаваў ён вусны каханай і ведаў, што належыць яна не яму.

- Уцячом, уцячом жа ў Дайнаву, Алнэ! – шаптаў ён дзяўчыне на вуха. – Мая будзеш, толькі мая! Уладарыць там цяпер Вазола князь, сваяк Дзіркатаў. Ён прывеціць мяне, пабачыш, Алнэ!

- Думкаю твая я, - адказвала дзяўчына. – Але не ўцячы нам ад Шуляка самбійскага. Даведаецца – жудаснай смерцю пакараць загадае. А Вазола не прыме нас – Стэгіса пабаіцца.

Страшна мне, Локіс. Кахаю цябе, але не хадзі да мяне болей. Цяжка мне, мілы, сэрца мне рвуць жах і каханне!

Не ведалі яны, што ўжо не першы дзень сочыць Скурдо за ліцьвінам. Не ведалі, што кожнае слова чуе стары воўк і ўсміхаецца ў пасівелую бараду.

І вось, з пачаткам восені, пажадаў кароль Самбіі на ловы ехаць. Два дні збіралася паляванне. Дазволіў Стэгіс і жонцы каханай удзел браць у забаўцы гэтай. Няхай кроў па жылах разгоніць. Локіс ехаў побач яцвяжкі, нешта распавядаў ёй, і, шчаслівая, рагатала яна над жартамі ліцьвіна. І не заўважылі яны, як нешта мовіў Скурдо сваёму пану, і як пабялеў твар Стэгіса, і як сціснулі пальцы срэбнае дзяржанне харалужнага корда. Паднялі тут харты вялізарнага прыгажуна аленя, і загаласіла, загікала князева паляванне, паімчала ўслед, сцёбаючы коней. Локіс жа і Алнэ скіравалі пад шаты адвечных дубоў, што ўзвышаліся над пушчай. Саскочыў дайнавец з каня, прыняў на магутныя рукі яцвяжку каханую і прагна вусны ёй цалаваў. Але ж заіржэлі, загітаталі чымсьці спалоханыя коні і раптам прэч кінуліся, толькі зямля з-пад капытоў. І ўскрыкнула Алнэ, схапіўшы Локіса за плячо. З гушчару, выдзерся агромністы мядзведзь, раз'юшаны сабачым гвалтам. Звер прысеў і збянтэжана круціў слінавай пысай, узбуджана нюхаючы паветра. Заўважыўшы людзей, ён рыкнуў і ўзняўся на заднія лапы. Локіс падхапіў рагаціну, балазе, саскочыўшы з каня, уваткнуў яе ў зямлю побач дуба.

- На дрэва лезь, хутчэй! – крыкнуў ён дзяўчыне.

А звер ужо блізка. І носам сваім адчуваў Локіс моцны, цяжкі пах яго, бачыў вогненна-чырвоную зяпу з жоўтымі ікламі. Мільганулі доўгія чорныя кіпцюры ля твару воіна, пырскі гарачай агіднай сліны апяклі вусны. Нібы шэрая скала, узвышаўся ўладар пушчы над дайнаўцам. Быццам чалавек, стаяў ён на задніх лапах. Вось, яшчэ імгненне, і раздзяруць цела чалавечае жудасныя кіпці, вырвуць з грудзей адваджнае сэрца жорсткія прагныя да крыві іклы! Але б'е звера ў шыю шырокае жалезнае джала рагаціны. Роў пачвары страсае лісты з дрэў. Крывава-чырвоны язык дрыжыць у раззяўленай пашчы. Магутныя лапы цягнуцца да чалавека і дзяруць скураную кашулю, зрываючы з яе медныя бляхі. Кроў залівае грудзі Локіса. Ён выскаляецца, зноў б'е драпежніка, цэлячы ў сэрца і ўпірае тронца рагаціны ў зямлю. Прысядае, пазбягаючы смяротных мядзведжых абдымкаў, і Алнэ бачыць у яго руцэ радасны бляск славутага прускага пэйле. Магутным узмахам ён распорвае зверу жывот і хутка адскоквае у бок. Тронца трэскае. Мядзведзь яшчэ хрыпіць, рве зубамі зямлю, паўзе, цягнучы за сабой скрываўленыя вантробы, а забойца яго ўжо песціць залатыя валасы каханай, шэпча на вушка словы ласкавыя. Яна туліць галаву да яго разарваных грудзей і пэцкае пяшчотную шчаку ў кроў. Але вось чамусьці,

www.kamunikat.org

адпіхае яна хлопца, і бачыць Локіс, як жахам наліваюцца, мутнеюць яе цудоўныя вочы. Далонь яго апускаецца на рагавую рукаятку нажа, спіну коле холадам небяспекі, і сціскае Локіс зубы, калі бачыць Стэгіса. Правадыр трымае аголены меч, і, як вуглі пякельныя, гараць яго вочы. За спіной Шуляка ўсміхаецца Скурдо, і моўчкі стаяць трое вітынгаў, узброеныя дзідамі.

- Жывым яго бярыце, – кажа воінам князь.

- Дазволь мне, княжа, - выйшаў наперад Скурдо.

- Хутчэй! – раўнуў Стэгіс і самбы кінуліся на Локіса.

- Не, не! – крычала Алнэ. – Ён выратаваў мне жыццё!

Але змоўкла дзяўчына, калі моцная Стэгісава далонь сціснула ёй горла. Смерць – Мажана зірнула на яцвяжку вачамі Шуляка. Жахлівы быў лік яе, і сілы пакінулі дзяўчыну. Кордам Стэгіс адрэзаў ёй валасы і разарваў на грудзях кашулю. Тым часам самбы круцілі дайнаўца. Адзін з вітынгаў зацiскаў рукамі страшную рану на жываце. Жыць яму засталося нядоўга. Локіс усё ж паспеў секануць самба сваім пэйле. Білі ліцьвіна доўга. Нарэшце, замардаванага хлопца пацягнулі да дуба і прыбілі рукі яго дзідамі да магутнага дрэва. Каб не сарваў з іх далоні дайнавец, Скурдо ўвагнаў яму ў запясце жалезныя цвікі. Крывёй плюнуў яму ў твар Локіс, усміхаўся, з пагардай глядзеў на катаў сваіх.

- Вы доўга будзеце жадаць смерці, - мовіў Стэгіс. Схапіў ён Алнэ за руку, адсёк ёй два пальцы і адпіхнуў жонку ад сябе. Яна паваліласся ля ног укрыжаванага Локіса.

- Я не дам вам смерці. Вось так, кавалак за кавалкам я буду, рэзаць вас, і кроў вашу будуць лізаць сабакі.

- Забі ж мяне, Стэгіс, забі! – раптам крыкнула Алнэ. – Забі і сына свайго, што ў чэраве нашу я! І згасне род твой! Разам з табой адыдзе ў цемру, у невараць! І не ўспомняць цябе нашчадкі!

Правадыр усміхнуўся. Жудасная жахлівая гэта была ўсмешка.

- Байструком узнагародзіць хочаш?! – гадам зашыпеў самб.

- Бачаць багі, гэта тваё дзіця! І не кахаю я гэтага дайнаўца! Няма мне да яго справы.

І бачыла Алнэ, як збянтэжанасць мільганула на шэрым твары Стэгіса.

- Плюнь у вочы яму, - загадаў князь. – Можа гэта прыму я на веру!

- Яна не марудзіла. Плюнула. Трэслася , дрыжэла ўсім целам, глытала горка-салёныя слёзы, але плюнула. Не адна цягліца не ўздрыгнула на твары Локіса і мовіў ён. Ціха мовіў ёй:

- Сорамна мне, што кахаў цябе. Не ведаю, што за ўладу мае над табой ён, але ты не маеш цвёрдасці! Не будзе табе дабра! Ніколі не будзе. Не цешыцца сынам табе, бо жывы ці мёртвы, адыму я яго ад грудзей тваіх, і вялікае зло табе будзе. Праклён, табе, праклён да канца дзён тваіх! Клантэмай!*

Адхіснулася Алнэ ад Локіса, прытомнасць страціла і грымнула вобзем. Ведалі прусы, вялікую сілу праклён мае. Стэгіс строс яе і мовіў:

- Сына не народзіш - шкадаваць будзеш, што калісьці свет убачыла! У яме гнісці табе да здыхаты. І чэрві цябе жыўцом жэрці будуць!

Ён кінуў жонку на рукі Соху.

- А табе – смерць! – сказаў Шуляк Локісу. – Ты здрадзіў мне і жорстка пакараю цябе я.

Правадыр хацеў яшчэ нешта дадаць, але малады Гурда паклаў яму далонь на плячо.

- А ну, зірні, князь, - мовіў вітынг і выцягнуў уперад дзіду.

- Між дрэў паказаўся вершнік. Невялікі шэры сверапіс** спрытна абмінаў вялізныя дубы. Кіраваў канём чорнабароды прус са скрываўленым тварам. Нацягнуўшы павады, ён узняў жывёлу на дыбы. Конь захроп, апырскаўшы Стэгіса пенаю.

– Сканды, правадыр! Крыкнуў ганец, сціскаючы каленямі потныя конскія бакі – Вікінгі! Спяшайся, князь! Не, то не будзе каго ратаваць. Знячэўку навaліліся. Усіх рэжуць! Буданы паляць, спяшайся, князь!

Над пушчай шалёна зароў турыны рог і ўскочыў Стэгіс у сядло. Скурдо ж баявым нажом узрэзаў твар Локісу ад скроні да падбародка і мовіў з усмешкай:

- Не сумуй. Я хутка вярнуся і прымушу цябе скавытаць, як бітага сабаку. Дайнавец нават не зірнуў на яго. Жорсткі боль катаваў яго цела, помсты прагла сэрца, але не ўбачыць ворагам гэтага. Не, ён не дасць ім такога задавальнення…

- Пабач, хёўдынг, унь, - паказваў кірунак магутнай рукою нарвег Фрыдлаў – сівавусы хольд*** яшчэ Хардрадавых паходаў. – Ладдзі! Пэўна, Бурыўлейф ярл****.

- Можа, - адказаў Локіс, назіраючы, як з ранішняга туману выплываюць драпежныя драконавыя пысы з крыважэрнымі пукатымі вачамі.

- Яму жо пара. Дзевяты дзень чакаем.

- Яны, - упэўнена мовіў малады заркавокі Гевар Чырвоная Кашуля. – Бурыцлейфава

---

* **Клантэмай!** – Праклінаю!

** **Сверапіс** – прускі баявы конь.

*** **Хольд** (скан.) – ветэран.

**** **Ярл** (сканд.) - князь.

www.kamunikat.org



снека* – цмокава галава ў золаце!

- Вагры, - кіўнуў Скаманд, апускаючы лук.

Весляры скакалі ў ваду і цягнулі ладдзі на пясок. Пазіраючы на лес, на бераг першым выйшаў высокі магутны воін у скураной кашулі і скураных жа штанах. Твар ссечаны шнарамі, скура цёмная, быццам гліна.

Доўгія, як попел шэрыя валасы, каб не лезлі ў вочы, падтрымлівае скураны пасачак. Падбародак голены, толькі пасівелыя вусы вецер калыша. Вочы пранізлівыя. Сінія – сінія, як каштоўныя камяні. На шыі – каралі з бурштыну, у руцэ – меч цяжкі. Крыж яго, срэбрам выкладзены, на сонцы зіхаціць, што скрозь туманную смугу прабіваецца, лязо ж цмянае.

- Ідзі Трынтвей, - усміхнуўся Локіс, - Вітай Бурыслава. Можа і не пазнае цябе старавачына. Хлапчанём апошні раз бачыў

- Бурыслаў пазнаў. Цераз некалькі імгненняў правадыр ваграў цiскаў юнака ў сваіх мядзведжых абдымках. Голас гэтага вечнага бадзягі быў сіпаты, быццам бы назаўсёды прастуджаны сівымі туманамі і халоднымі скавышамі** сцюдзёнага Воўчага мора***.

- Малайца выгадаваў ты, Локіс! – казаў ён дайнаўцу, калі той ляпаў яго па каменнацвёрдых плячах бугрыстымі, знявечанымі калісьці далонямі – А ці воін?

- А ты сам, кунігас, з ім паспрабуй, - рагатаў побач, волат Скаманд.

- А і паспрабую! – весела хрыпеў вагр.

- Есць больш важныя справы, чым з смаркачамі зброяй звінець, - усміхаўся Локіс, аглядаючы Бурыслававу ладдзю. – А што, кунігас, як дабраўся? Бачу я шнары на золаце "Брата Хваляў". Каго кусаў твой залатагаловы цмок?

- Зоркія вочы маеш, Локіс. Шкадую, што адпусціў цябе на вольны хлеб. Служыў ты мне спраўна. Ну ды добра. Спазніўся я не дарэмна. Сечу меў. Сем дён таму згубіліся снекі мае ў тумане густым. І загадаў я ў рог трубіць, але не чулі адказу мы. І вось, калі сонечныя промні пачалі працінаць туманнае малако, Бурывой, мой новы стырнавы, Стравус загінуў ад дацкай дзіды, заўважыў чорны, доўгі карабель.

Норскія**** вікінгі таксама ўбачылі "Брата хваляў". Біцца захацелі. Чырвоную тарчу падняліі*****, ды на нас! Цяжкая бітва была. Сігньёт, Шалёным празваны, правадыром іхнім быў. Хвацкі сякач, добры воін. Але мы лепшыя. Я пабіў яго. Шолам яму жыццё выратаваў. Добры шолам, моцны. Міклегардскі. На маёй сякеры шчарбіна засталася, калі вытам магутным зваліў я важара норгаў. Думаў – забіў. Крыві дужа з галавы яго нацякло. Ажно не. Выжыў Цяпер мой вязень. Дружыну яго мае хлопцы да рэшты парэзалі. Хлапчанё толькі пакінулі – пашкадавалі. Торварам зваць. Ладны юнак падрастае. Прыгожы, як дзеўка. Братучада****** Сігньётаў. Дагледзеў параненага дзядзьку. А Сігньёт гэты сапраўды Шалёны. Анучы скрываўленыя з галавы сваёй ірваў, зверам выў. Смерці жадаў. Калі на ногі ўстаў, у мора выскачыць хацеў. Я б і сам выкінуў. Дадзеў выццём воўк нарманскі. Ды Торвар казаў, сваякі за іх срэбра не пашкадуюць. Вось і трымаю норга гэтага ў жалезах. Дарэчы, луп******* багаты на дракары норскім узяў я. Унь ён, - Бурыслаў паказаў на вялікі чорны карабель з пачварнай пысай цмока на даўжэзнай шыі і закручаным змяіным хвастом на карме. - З германскімі гандлярамі Сігньёт спатканне меў. Цікава, ці дайшлі ўжо яны да свайга Белага Бога?******** Дзіўлюся, як яму не дадзене слухаць іх вісклівыя спевы! А, прабач, Храўн, цябе я не жадаў пакрыўдзіць.

- А ну, ярл, пакажы вязня, - раптам папрасіў Храўн.

* **Снека** – шпаркаходны марскі карабель. Выкарыстовываўся, больш за шсё прыбалтамі.
** **Скавыш** – моцны вецер з завываннем
*** **Воўчае мора** (Варажскае) – Балтыйскае мора
**** **Норскія** – нарвежскія.
***** **Падняцце чырвонай тарчы на мачце** – выклік на бой. Белая ж тарча вызначала мірныя намеры.
****** **Братучада** – пляменнік.
******* **Луп (лупы)** – ваенная здабыча.
******** **Белы Бог** – Хрыстос.

- Пабач, калі хочаш, - паціснуў магутнымі плячамі Бурыслаў.

- Удача з табою, - мовіў Локіс. – Усе твае ладдзі знайшліся?

Вагр кіўнуў.

- Усе тут. Пяць снекаў і дракар норскі. Амаль чатыры сотні воінаў маю. Да сечы з нарманамі болей было.

- У мяне паўтары, ды Стардавых яцвягаў з вармамі за паўсотні, - сіла немалая, рыкс*.

- Немалая, - згадзіўся правадыр ваграў. У гэты момант з “Брата Хваляў” саскочыў Храўн.

- Ну, бачыў вязня?

- Бачу, ярл. Цябе прасіць хачу. Прадай палонных. Не танна дам.

- Табе навошта?

- Суайчыннікі, - усміхнуўся Храўн.

- Толькі?

- Не, не толькі – пакруціў нарвег галавой.

- Калісьці, вельмі даўно, Сігньёт, потым празваны Шалёным, выратаваў жыццё Храўну Жалезнае Сэрца. Тады мы мяшалі кроў і праходзілі пад кавалкам дзірвану**. З той пары я яго не бачыў.

- А-а-а, - працягнуў Бурыслаў. – Справа годная, Храўн, пабраціма з бяды ратаваць, - вагр усміхнуўся: - Але, баюся я, не хопіць у цябе срэбра, купіць яму волю. Толькі за Шалёнага меней двух дзесяткаў марак не вазьму. А яшчэ хлапчук..., - Бурыслаў развёў рукамі.

- Ты не лічыў маё срэбра, ярл, - пацямнеў тварам нарвежац.

- Моцны раб каштуе дзве маркі, - нагадаў Локіс. – А-а...

- Дык тое раб! – перабіўшы, дайнаўца ўсклікнуў вагр. – А тое – правадыр.

Рагочучы, паляпаў Бурыслаў Храўна па плячы.

- Ну, годзе, годзе. Не злуй. Бяры пабраціма баз выкупу. І помніце Бурыслава!

У знак падзякі нарвег нахіліў галаву.

- Шодрасць дадае славы правадырам! – мовіў ён.

- Прымі, Бурыцлейф ярл, - Храўн падаў вагру свой меч у выкладзеных золатам похвах. – Я прывёз яго з Серкланду***, дзе ваяваў з Хардрадай. Імя яму – Бацька Слёз.

- І ты вазьмі, Храўн Жалезнае Сэрца, - Бурыслаў павесіў нарвегу на шыю свае бурштынавыя каралі. – Я рады, што зноў бачу цябе.

- Шмат мінула гадоў з апошняй нашай сустрэчы, ярл.

- Шмат, - згадзіўся вагр. – Гэй! Бурывой! – паклікаў ён.

Стырнавы, малады яшчэ хлопец, паказаў з натоўпу воінаў, якія ладзілі становішча, русявую галаву.

- Загадай – жалезы з вязня вон! Воля яму!

Малады вагр насупіў светлыя бровы, але нічога не сказаў. Бачна было, не да душы яму загад князеў.

- Спрытны хлопец. Сівавус яго добра вывучыў. Да стыру**** Бурывой вельмі здатны, ды роду добрага. А старога шкада. Дужа шкада. А унь ужо і норгі твае, Храўн. Сустракай. А Сігньёту скажы, няхай не дужа нораў свой паказвае. Сярод людзей маіх не меней шалёныя ёсць. Ім няма яго за што шанаваць. Шмат хто нож яму ў вантробы ўвагнаў бы толькі за тое, што ён – вікінг норскі!

У гэты момант да іх падыйшоў невысокі хударляы мужчына год трыццаці пяці. Жоўтая скура туга абцягвала вострыя скулы. Бачна было – хварэў чалавек. Глыбока ўваліліся яго зялёныя кашэчыя вочы. Скрозь брудныя пасмы медных валасоў драпежна пазіраў ён па баках і ўздрыгвалі яго ноздры, калі казытаў іх прыемны пах гарачай ежы, што пачалі гатаваць воіны. Юнак – тонкі і даволі высокі, з пяшчотным дзявочым тварам і мяккімі доўгімі валасамі колеру саломы, стаў за яго спіной. Вагры з–пад ілба глядзелі на нарвежцаў. Некаторыя нешта мармыталі сабе пад нос, пагрозліва сціскаючы свінцова-цяжкія кулакі.

- Колькі даў ярлу за нас? – спытаў Сігньёт Храўна.

- Слаўны ярл не пажадаў срэбра. Я ўдзячны яму за яго шодрасць і ўвагу,- адказаў Жалезнае Сэрца. – Ты болей не вязень, пабрацім.

- Пэўна ж, навошта ярлу срэбра. Дастаткова ён узяў на маім дракары. Добры ў цябе хірд, ярл. Воіны не дарэмна ядуць твой хлеб.

- Зайздросціш?! – усміхнуўся Бурыслаў.

- Не, - паківаў калматай галавой Сігньёт. Мой быў не горшы. Але ўдача адвярнулася ад мяне.

- Вы, норгі, забыліся дзядоўскіх багоў. А Белы Бог не такі магутны, як малююць яго вашыя мніхі, болей падобныя да старых бабаў, чым да сапраўдных мужоў! Хрыст – Бог рабоў!

- Я не веру Хрысту, вэрынг, - адказаў Сігньёт, бліскаючы вачамі.

... Капыты мільганулі перад самым Локісавым тварам, калі ўзняў на дыбкі раз’ятранага каня незнаёмы чарнавалосы воін. Сверапіс хроп, пырскаў пенай, зыркаў крывавым вокам на

* **Рыкс** – князь.

** **Змешваць кроў і праходзіць пад кавалкам дзірвану,** які ўзнімалі на дзідах, а потым клалі на месца – абрад пабрацімства ў скандынаваў.

***Серкланд (сканд.) – зямля сарацынаў.

**** **Стыр** – стырно на ладдзях.

www.kamunikat.org

чужынца, які рваў яму цуглямі рот. Чарнавалосы лаяўся па-нармански. На чым свет стаіць, кляў злую скаціну. Локіс зарагатаў, калі ён расцягнуўся на зямлі.

- Каб табе ды здохнуць! –пажадаў ваяка шэрачорнаму сверапісу, - выплёўваючы кроў, ён зірнуў на ўкрыжаванага дайнаўца. – Ну, чаго іржэш? Няўжо весела? - спытаў ён.

- Па–людску скажы. А то брэшаш, як сабака, - адказаў Локіс, які дрэнна разумеў мову скандаў.

- Самб? – па-пруску мовіў нарман.

- Не, -усміхнуўся Локіс. Я не самб. І, калі табе цікава, самбаў не дужа люблю.

Чарнавалосы зарагатаў.

- А ты вясёлы хлопец, - усміхаючыся сказаў ён.

- Бачна, добра дасталі вы ад Стэгіса, калі ўцякаеце? - Локіс аблізаў перасохлых вусны.

- Не думаю, каб ты быў гэтаму рады, – адказаў сінявокі скандынаў.

- Жадаў бы я, каб было наадварот. Але ў Шуляка вострыя кіпцюры.

- Вострыя, - згадзіўся чарнавалосы, пазіраючы навокал. – На тое і Хаўк.

- Не ўратавацца табе, нарман. Самбы зацкуюць цябе слідэніксамі.

- А што так думаеш?

- Ведаю. Гэта зямля самбаў. Разумееш?

- Дык, не дурань, выскаліўся вікінг, як воўк паранены. – Эх, казалі ж хёўдынгу, не трэба тут меч з похваў цягнуць. У Сямландзе ніколі не возьмеш багатага лупу. Хутчэй стралу ў бок атрымаеш.

З гэтымі словамі чарнавалосы вырваў дзіды з далоняў Локіса.

- Цярпі, паспрабую, - і ён, ківаючы з боку ў бок, пацягнуў цвікі з Локісавых запясцяў.

Дайнавец заскрыгатаў зубамі.

- А пальцы ў цябе жалезныя. Ніколі не бачыў у руках такой сілы!

- Жалезныя, - усміхнуўся вікінг. – Як і сэрца.

Локіс зірнуў на свае знявечаныя, скрываўленыя далоні.

- Ну, зброі табе ўжо ў іх не трымаць, - мовіў нарман.

- Пабачым, - хмурна адказаў дайнавец. – Зубамі Стэгісу горла перагрызу, сэрца з грудзей выгрызу! Вырву нутро яму!

- А ты ўсё болей падабаешся мне, -усміхаўся чарнавалосы. – Зваць як?

- Локіс.

- Локі? - бровы нармана папаўзлі ўверх.

- Чаго дзівішся?

- Ды не, нічога. Мяне Храўнам заві.

- А што, самбы ўсіх вашых пасеклі?

- Пэўна, - паціснуў магутнымі плячамі вікінг.

- Я ратаваўся пасля таго, як загінуў ад гадзіны шоламаў* мой правадыр – Домальдзі хёўдынг празваны Двухзубай Сякерай. Добры важар быў. Сквапны толькі, але карміў не дрэнна.

Локіс падраў сваю кашулю і перавязаў сабе рукі.

- Дзёрзкі быў набег, - скрывіў вусны ва ўсмешцы Храўн. – Не ўдаўся. Хірд шкада. Добрыя былі воіны адважныя вікінгі. Але далёка ім да хольдаў Хардрады.

- Ты ведаеш Хардраду?

- А то! У Міклегард хадзіў з ім. У Серкландзе ваявалі за к’яра. Яго ворага білі і шаломамі чэрпалі белы снег тыгля ў скарбніцах!

- Што, што? – не зразумеў Локіс.

- Золата!

Дайнавец зарагатаў.

- Чаму ж не з ім ты? Навошта кінуў такога шчодрага і ўдачлівага кунігаса? Што так?

Нарман насупіў бровы.

- Харальд любіць Хрыста болей, чым сваіх воінаў. А я люблю свайго конунга, таму і прыняў яго бога. Але і не забыўся сваіх. Конунг у пашане трымаў мяне, але не хацеў мне даравацъ таго, што аднойчы я здрадзіў Беламу Богу і пасля крывавай бітвы, якая скончылася страшнай паразай для нашых ворагаў, прынёс у ахвяру Одыну аднаго з палонных. Я пакінуў Харальдаву дружыну і адплыў на радзіму, хоць і жадалі затрымаць мяне пабрацімы. Маўляў, ужо змяніў Хардрадэ гнеў на міласць. Я не хацеў вяртацца. І вось, я тут, размаўляю з нейкім дурнем, якому, не ведаю навошта, выратаваў жыццё. І чакаю, пакуль прускія сабакі не пачнуць ірваць мяне на кавалкі.

Дайнавец усміхнуўся і, не звяршаючы ўвагі на боль, падняў дзіды, якімі працялі яму далоні.

- Кажаш, Хрыст мілейшы кунігасу твайму за ўласных вітынгаў? Ну, які не які, а бог! А Стэгісу дык зусім, бабы свае больш да душы, чым якісьці ліцьвін, што жыццё яму выратаваў.

- Воіны зарагаталі.

Локіс яшчэ раз агледзеў самбійскія дзіды.

- Добра, вастрыё вузкае маюць. Не, то ўжо без рук быў бы, – заўважыў Храўн.

- Ну, хутчэй, а то і праўда, дачакаешся, - выдыхнуў дайнавец. – Я ведаю гэтыя лясы не горай за самбаў! Ідзі за мной, - ён пакрочыў да гушчару.

- Каня шкада, уцёк, - пачаў лаяцца Храўн. – У-у, выклятая жывёла.

Усміхнуўся Локіс.

- А вершнік ты нязграбны. Бачна, да каня звычкі не маеш. Едзеш, ногі боўтаюцца – глядзець агідна. Рэбры каню каленямі ціснуць трэба, а ты толькі рот цуглямі дзярэш – кіраваць ім хочаш. А

*** Гадзіна шоламаў** – у паэзіі скальдаў адзін з сінонімаў сякеры.

сверапісы чужых і ведаць не жадаюць. Толькі гаспадара на спіне носяць. Так навучаныя. Баявая коні. Злыя. У баі, што сабакі, грызуцца ды капытамі, як сякерамі сякуць. Добрыя коні.

- Дом вікінга – ладдзя, - паціснуў плячамі Храўн, закідваючы меч за спіну. – А што ў цябе з конунгам сямландскім? Стэгіс конунг – суровы ўладар. Чым не дагадзіў яму? Няўжо з-за бабы цябе так?

Локіс невесела ўсміхнуўся.

- Шмат жонак Шуляк мае.

Храўн зарагатаў, бліскаючы зубамі і ляпнуў дайнаўца па плячы.

- Ну і як?

- Ні адна яго жонка не варта цвікоў у маіх далонях.

Зноў бліснуў белазубай усмешкай вікінг, задаволены сваім новым знаёмым.

- Хадзем хутчэй, - мовіў Локіс. – Цяжка хавацца ад прусаў. Гэтыя балоты яны ведаюць не горай за звяроў. Але я – Локіс!

Амаль палову месяца вышуквалі іх ворагі, але, нягледзячы на жудасную раз’юшанасць Стэгіса, так і не знайшлі. І пакляўся тады Скурдо пану свайму, што не будзе спакою мець, пакуль клятага пярэваратня не здабудзе. Пры словах яго прымхлівыя самбы з жахам пазіралі па баках, і паўсюль бачыліся ім лютыя вочы ўладара лесу – Локіса! Калі вярнуліся вітынгі пасля сечы і не знайшлі дайнаўца пад дубам, то толькі магутная воля і лютасць Шуляка пагналі іх на пошукі. Яны не баяліся ні людзей, ні смерці, ні пакутаў, гэтыя суровыя ваяры. Але той, хто выцягнуў са сваіх рук і дзіды, і доўгія цвікі, не мог быць чалавекам. Ён – Локіс! І дарэмна біўся Скурдо з князем, намагаючыся ўдзяўбці ім у галавы, што дапамог дайнаўцу, пэўна, адзін з нарманскіх уцекачоў. І слухаць не жадалі. А сляды! А што сляды? Унь, колькі іх натапталі! Скурдо смяяўся. Пайшоў. І не вярнуўся вітынг з мядзведжай скурай, як абяцаў. Праз тры дні паляўнічыя прынеслі яго цела. У самба было вырвана горла. Пабрацім жа ягоны – Сох, што з ім ісці пажадаў, знік у балотах. Не знайшлі. А яшчэ меў Скурдо на сцягне рану глыбокую. Не, не ад кіпця мядзведжага – ад мяча! Пярэварацень паказаў свае іклы! Сціснуўшы зубы, загадаў князь вяртацца сваім перапалоханым людзям. І ніхто не ведаў, толькі змрочныя крукі з ялін балотных бачылі, як Храўн, знянацку з’явіўшыся перад самбамі, кідальным нажом трапіў Соху ў вачніцу ды кінуўся на збянтэжанага Скурдо і сцягно яму параніў. Але, нібы не заўважыў раны стары воін і моцна сек сякерай аслабелага ад голаду вікінга. Быць бы забітым нарману, калі б не кінуўся на плечы Скурдо Локіс. Ледзьве трымаўся на нагах дайнавец. Знявечаныя рукі яго, па локаць успухлыя, не мелі сілы душыць нянавіснага ворага, і хлопец зубамі рваў яму горла. Так загінуў Скурдо – мужны стары вітынг, і бачылі самбы жах у яго мёртвых вачах, і жах гэты сціскаў бязлітаснымі кіпцюрамі іх адважныя сэрцы. І разумеў Стэгіс – яны болей не застануцца ў гэтай пушчы ні імгнення. І не ўтрымае ён іх. Пярэварацень сам пачаў паляванне на паляўнічых. Цела Соха ж Храўн утапіў у багне.

Ужо які дзень дайнаўца трэсла ліхаманка. Рукі былі чорныя, страшныя. Гной і гнілая кроў цяклі з яго далоняў. І здзіўлены быў Храўн, што яшчэ жывы ён. Але ведаў вікінг, чакае іх смерць у гэтым жудасным месцы прускай пушчы. Што чалавек перад лікам багоў? І норны судзілі па своему.

Локіс расплюшчыў вочы і поўнымі грудзьмі ўдыхнуў сухое, насычанае водарам духмяных траў паветра. У перасохлым горле калола. Дайнавец аблізаў распухлым языком сасмяглыя вусны. Было цёмна. Толькі маленькі агеньчык лучыны калыхаўся ў цемры, і дрыготкі цень блукаў па чорных ад сажы драўляных сценах, абвешаных высахлымі зёлкамі. Іх моцны пах дурманіў галаву. Локіс паспрабаваў падняцца, але не здолеў. Пакой круціўся перад вачамі, і не трымалі ногі аслабелае цела. Хлопец сеў на ложка, засланае воўчымі і рысінымі скурамі і са здзіўленнем разглядаў чыстыя палатняныя анучы на сваіх руках. Болю болей не было. Думкі мітусіліся, хутчэй тахкала сэрца, і Локіс разгублена пазіраў па баках.

Ён не ведаў, не памятаў як апынуўся тут. У адным з кутоў заўважыў дайнавец мядзведжы выскалены чэрап, а пад ім – знаёмы цмяны бляск баявой сталі. Некалькі дзідаў, рагаціна ды двухручная самбійская сякера. Над чэрапам, у сцяне – цяжкі пэйле. Пераадолеўшы слабасць, ён даплёўся да кута і ад злосці заскрыгатаў зубамі. Пальцы не гнуліся. Хваля болю лінула па руках, у грудзях зрабілася горача. Цяжка дыхаючы, Локіс нязграбна абхапіў дзіду далонямі і ўбачыў на бялізне палатна крывавыя плямы. Вылаяўся, піхнуў нагою нізенькія дзверы, прыгнуўся і выйшаў. Вяршыні старадаўніх ялін хавала туманная смуга, якая ўладарыла над прускімі балотамі. Цішыню парушаў мерны стук сякеры. Нехта недалёка сек дровы.

Зрабіўшы некалькі крокаў, Локіс здрыгануўся і наставіў дзіду на незнаёмца. Пачварнага выгляду гарбаты карла трымаў у доўгіх магутных руках баявую сякеру, якой сек вялізныя яловыя колоды. Яго бурштынавыя вочы зацікаўлена аглядалі дайнаўца. Нарэшце ён выскаліў ва ўсмешцы жоўтыя зубы,падобныя да воўчых іклаў, і нешта прамармытаў.

- Не бойся яго, Локі, - пачуў дайнавец хрыплаваты голас Храўна. Нарвег выйшаў з туману і паклаў трохпалую далонь на плячо

www.kamunikat.org

дайнаўцу. – Яна заве гэтага троля Галтам і сцвярджае, што гэтая пачвара – чалавек.

Галт ізноў усміхнуўся сваёй жудаснай звярынай усмешкай, што больш нагадвала воўчы выскал і адным махам гахнуў сякерай моцную сукаватую калоду.

- Хто гэта, яна, Варніс? – папытаў Локіс, абапёршыся на вікінга. – Як мы апынуліся тут? Я ўжо бачыў Мажану. Яна ішла да мяне па барве апалых лістоў і паўночны вецер веяў яе медныя валасы. І была яна высокая і тонкая, і прыгожая на дзіва. Я адчуваў яе пацалункі на сваім твары. Халоднымі былі яе цудоўныя вусны, а ад скуры пахла дажджом. Я бачыў толькі палову яе твару, і вока яе было залацістае і сумнае. Болей я нічога не памятаю Варніс.

-Хадзем у хату, Локі, ты вельмі слабы, - Храўн усміхнуўся. – Сапраўды, ты бачыў смерць. Бо яна і ёсць смерць!

- Пра каго ты? Як мы трапілі сюды, і хто гаспадар гэтай хаты?

- Вядома ж хто, Вёльва*! Ідзі, зараз распавяду.

Локіс апусціўся на мяккія скуры і прыняў ад Храўна срэбны кубак сцюдзёнай вады.

- Срэбра ў гэтай нары?! – здзівіўся дайнавец.

- І гэта не самае дзіўнае, Локі, - сказаў вікінг.

- Нажом я ўжо пачаў капаць табе магілу. Бо твае багі пажадалі ўзяць цябе. Злыдні–ліхаманкі атруцілі тваю кроў гноем, і не належаў ты ўжо свету жывых, калі з’явіліся яны. Я думаў, што здурэў ад голаду. Вось і трызніцца рознае. Але не. Не мары авалодалі маім розумам. Гэта былі гномы, сапраўдныя гномы. Невялікага росту – ледзь да дзягі мне.

У скураных шаломах, доўгабародыя. Узброеныя дзідамі і сякерамі, яны накіраваліся да мяне. Нешта брахалі па-своему. А калі я агаліў меч, хутка кінуліся на мяне і абяззброілі. Чацвёра іх было. Магуту ў целе маюць яны вялікую. Ведаеш ты, Локі, і маю руку. Дык вось, недамеры гэтыя шмат мацнейшыя, далоні быццам бы лапы медзведжыя. Скруцілі мяне ды павалаклі кудысьці. Разам з табою. Доўга цягнулі. Размаўляць з імі спрабаваў. Не адказвалі. І вось мы з табой тут. Яна ўжо чакала нас…

– Ды хто, яна! Перарваў вікінга дайнавец.

- Вёльва, - адказаў Храўн. – Заву яе я вёльвай, бо імя яна не мае. Цябе гномы адразу ў хаціну панеслі, мяне ж на ногі паставілі і путы мае зрэзалі. Яна стаяла і глядзела мне ў вочы. І была яна высокая і тонкая і валасы мела доўгія, колеру старой медзі. Яны хваліліся па яе снежна – белых плячах і хавалі левую палову твару. А вока яе было вялізнае, залацістае. І нібы святло зорнае праменіла яно. Храўн замаўчаў, гледзячы на Локіса.

Дайнавец разгублена паківаў галавой.

- Гэта тая, што прыходзіла па мяне, - мовіў воін. – Гэта яна, Мажана, Варніс. Ты таксама не бачыў паловы яе твару.

-Я бачыў яе твар цалкам, - хмурна вымавіў норг. – Потым бачыў. І прыходзіла яна не па цябе. Не, яна хадзіла за табою. З невядомай жудаснай далечы вярнула яна цябе. Ляжала потым нерухома, амаль два дні, а страшыдла – троль яе даглядаў. Што гэтыя д’яблы там рабілі – не бачыў, але ведаю, каб не быў я такі дрэнны хрысціянін, Бог не паслаў бы мне такое выпрабаванне. Любы там здох бы з жаху. На той час, калі чэрці прыходзілі па тваю душу, мяне выгналі ў нейкі катух, ежы далі ды мовілі , калі жыць жадаю, каб у хату клятую гэтую нават дзвярэй не адчыніў. Галт з ёй застаўся, і адразу чуў я толькі яго голас. То спяваў нешта троль ведзьмін, то выў нема, нібы варг**, ды грукаў чымсьці. А потым такое пачалося, што ледзьве я штаны не абмачыў. Успамінаць не хачу. Цяжка. Гномы ж тыя зніклі дзесьці. Болей не бачыў. Яна заве іх па-іншаму, я не вымаўлю.

- Можа барздукамі***?

- Во, так і заве. Язык зламаць можна. А калі выйшла вёльва з нары, ноч была. Яна сказала, што ты будзеш жыць, але ад мяне патрабавала разліку за тваё жыццё. І калі я мовіў, што зараз не маю срэбра, яна разрагаталася мне ў твар і адказала, што даўнютка не мела мужчыны, а срэбра сама мне дасць. І я быў з ёй, Локіс. І была гэта самая жудасная і самая цудоўная ноч, што дзяліў я з жанчынай. І калі я песціў яе чароўна-прыгожыя валасы, я адкінуў іх з яе твару, і жах скаваў маё сэрца. Бо левая палова, якую заўсёды хавалі медныя пасмы, была мёртвая, пакасаваная шнарамі і з пустой вачніцы струменіла мутная сляза. “Хель”**** –крыкнуў я і адпіхнуў ад сябе ведзьму, але яна ўчапілася з рогатам мне ў валасы і паваліла на мядзведжую скуру. І вусны яе былі як лёд, а цела пякучае, нібы чэрава яе паліла

* **Вёльва** (сканд.) - ведзьма, празорліўка.У міфах многіх народаў ведьмы, празорліўкі, кудары, а таксама ж і розныя хтанічныя істоты ўяўляюцца калекамі – аднавокімі, аднаногімі і г.д. яны належаць як свету жывых, так і свету мёртвых (палова тут, палова там). Напрыклад у кельтаў лічылася што аднавокія пустой вачніцай бачаць іншы свет. Пустая вачніца – акно ў свет духаў і г.д.

** **Варг** (сканд.) - ваўкалак, а таксама назва ваўка.

*** **Барздукі** – своеасаблівыя пруска-літоўскія гномы, якія жывуць пад карэнямі бузіны побач з богам Раўзуцісам.

**** **Хель** – у скандынаўскай міфалогіі – гаспадыня пекла. Таксама назва пекла. Хель – дачка Локі, уяўлялася магутнай веліканшай, адна палова якой была мёртвая і мела сіні колер.

www.kamunikat.org

полымя Мусьпеля*. Скура яе белая, але ўся ў шнарах і тое не простыя шнары, а руны. Чароўныя. Усё жыццё яе памятаць буду, Локіс.

- А можа і ў Валгале ўспомніш, - знячэўку пачуўся крыху сіплаваты, але прыемны голас, і воіны ўздрыгнулі.

Яна зайшла нячутна, схаваўшы агеньчык лучыны за сваёй спіной, і цемра зараз жа авалодала жытлом.

- Ну што, апрытомнеў? – спытала чараўніца ў дайнаўца.

- Навошта дапамагала нам? – не сваім голасам мовіў Локіс. – Якой падзякі за жыццё маё пажадаеш? Чаго патрабаваць станеш?

Яна зарагатала, і мужчынам зрабілася жудасна ад смеху гэтага.

- Нельга не дапамагчы такім спрытным хлопцам – прыгажунам. Пікал не пакрыўдзіцца. Я больш дала яму, чым забрала. Не магла я не дапамагчы таму, у чыіх жылах цячэ славутая кроў Палтэса. А за жыццё тваё Варні разлічыўся. Ды не бойся мяне, не з'ем! – яна зноў зарагатала.

- Адкуль пра Палтэса ведаеш? – прамармытаў дайнавец.

- Я шмат чаго ведаю. Цмок, - мовіла ведзьма. – Цмок на тваіх грудзях. Ты – адзіны нашчадак яго, апошні з Палтэсава роду. Я сама з вяграў, я ведаю.

- Што, яшчэ адзін таемны конунг? – Храўн усміхнуўся і піхнуў Локіса ў бок. – А хто ён, гэты Палтэс? – пацікавіўся воін. - Ён конунг?

- Конунг. Полацкам уладарыў. Бацькі яго былі вяграмі. Але меў ён і норскую кроў. Па прадзеду свайму – норгу. Той таксама Палтэсам зваўся. У яго гонар бацька дзіцяці і імя даў.

- А хто былі мае бацькі? – спытаў Локіс, адчуўшы, як мацней затахкала сэрца.

- Мядзведзі! – зарагатала ведзьма.

Пачуўся трэск крамянёў і палымнула пасярод хаткі вясёлае полымя. І шуганула цемра па змрочных кутах ад вогнішча, складзенага з дзікіх камянёў. Дым, які адразу ж запоўніў жыллё, прымусіўшы кашляць воінаў, папоўз прэч скрозь страху. Агонь прагна лізаў сухія палены, і Локіс ва ўсе вочы разглядаў чараўніцу.

- Што, спадабалася? – са смехам адкінула яна свае цудоўныя валасы, кранутыя на скронях срэбнымі ніцямі сівізны. – А вось так. Можа прыгажэйшая?

Яе вока пацямнела, зацвярдзелі вусны і пругкія грудзі нацягнулі простую палатняную кашулю. Локіс кіўнуў, агледзеўшы знявечаную шнарамі бязвокую палову яе твару.

- Я бачыў цябе ў сваім сне, - сказаў дайнавец.

- Не сон гэта быў, - прамармытала ведзьма і села каля агню на калодку.

- А імя маеш? – пацікавіўся дайнавец.

- Вёльвай кліч, як норг чарнавалосы кліча, - махнула яна белай зграбнай далонькай. – Я страціла сваё імя, калі Стэгіс аддаў мяне вайдэлотам. Страціла сваё жыццё, страціла сябе.

Яна цяжка ўздыхнула і змоўкла.

- Ты ведаеш Шуляка? – крыху разгублена спытаў Локіс.

- Жонкай я яму была. Дзяўчынкай узяў мяне правадыр самбаў, і я кахала яо. Дужа кахала. Маці мая – магутная чараўніца была. Вягры баяліся яе. Усе баяліся. А Стэгіс не баяўся. Украў мяне і сваёй зрабіў. І не пажадала маці мая звесці яго са свету.

Магутная яшчэ была, хоць багі і адабралі моц яе пасля майго нараджэння. Цемра не любіць дзяцей. Ён нічога не баяўся, мой Стэгіс. Яго ж баяліся ўсе. А я кахала. Але бачылі вайдэлоты ў мяне сілу, вялікую сілу, чароўную – спадчыну маці маёй. І я ведала, што маю. Але хацела толькі кахання. Стэгіса хацела. І шапнулі вайдэлоты князю, што небяспеку нясу ў сабе. Пагрозу магутнасці самбаў і ўладарству яго. Мяне вайдэлоты баяліся. Бачылі – не звычайная дзяўчына, але ведзьмы дзіцё! І смерці маёй хацелі. Стэгіс не верыў, смяяўся. Не даў мяне адразу. І не таму, што кахаў. Але нельга адмовіць вайдэлотам. Яны заўсёды бяруць сваё. Яны ўладары Прусіі! І ён аддаў. Сам нажом мне вока выняў ды твар паходняй паліў. Слугі ж божыя цела маё ссеклі знакамі чароўнымі ды за ногі на дубе падвесілі. Спаліць жывуцом хацелі – Пяркунас не прыняў мяне. Даждждом полымя заліў. Вось і падвесілі, каб здохла. Барздукі мяне знайшлі, выратавалі. Хаўрус яны мелі з маці маёй. А маці тады ўжо не было на гэтым свеце.

Чараўніца рэзка ўстала на ногі, зірнула на воінаў і мовіла са смехам:

- Ну, што раззявіліся? Цікава?

- Навошта распавядала нам? – папытаў Храўн. - Мяркую, не дарэмна. Га? Адпомсціць яму жадаеш?!

Ведзьма ўсміхнулася.

- Няўжо вас падзель помсты ратавала? Няўжо вас чакала ўсе гады доўгія? На балотах гэтых, у самым сэрцы старажытнага лесу!

- Ну, а чаму ж жывы Стэгіс, - мовіў Локіс. – Чаму ж не помсціла, ведзьма? Даравала здзекі над сабою? Ці самбійскія вайдэлоты моц большую маюць? Навошта ж дзіцём баяліся цябе яны?

- Тое толькі я ведаю, - змрочна адказала чараўніца. - Пытанняў шмат у цябе, хлопча, а хто шмат ведае, доўга не жыве. А моц мая большая, чым ты ўявіць сабе можаш. Адно табе скажу, што помста мая жахлівая будзе. І ты

---

* **Мусьпель (мусьпельхейм)** – у скандынаўскай міфалогіі краіна вогненых веліканаў, якія ў апошняй бітве з багамі, (дзень Рагнарак) на чале з суртам спаляць увесь свет.

www.kamunikat.org

адпомсціш. І не аднойчы. Але не хутка гэта здарыцца. Жорстка адпомсціш. Людзі помсту тваю помніць будуць. І цябе помніць будуць. І быць табе кунігасам, Локіс. Магутным правадыром! Баяцца будуць цябе ворагі, і слава твая наперад цябе ляцець будзе. А норг з чорнымі валасамі, што сэрца жалезнае мае, дапаможа табе і славу мець з гэтага будзе. Яго слава таксама вялікая. Пабрацімамі вас бачу! Але не будзеш у жыцці шчасця ты мець, апошні з роду Палтэса! Ніколі не будзеш. І пабрацім твой не будзе!

Змоўкла ведзьма. Ды да дзвярэй накіравалася.

- Брэшаш, вёльва. Чаго болей жадаць сапраўднаму мужу, як не славы, чаго жадаць, як не боязі ворагаў! Якога ж яшчэ шчасця трэба?

Але не слухала яго чараўніца. За дзверы выйшла. Ані слова болей не вымавіла.

- Куды ж ты, пачакай! – Храўн хутка выйшаў за ёй, рукамі развёў ды вылаяўся. Жанчыны не было. І толькі вялізная шэрая сава раскінула шырокія крылы над вяршынямі змрочных ялін.

Амаль год былі яны ў наймітах у князя русаў, старога Яраслава, празванага Мудрым. Цяжкі той год для князя быў. З печанегамі біліся, з палякамі, адбівалі крывавыя набегі былых Локісавых суайчыннікаў – ліцьвінаў. Пасля, пакінуўшы Яраслававу службу, хадзілі ў вікінгскія паходы ў хірдзе магутнага норскага хёўдынга Сігара Залатое Пуза. Калі загінуў ён ад ірландскіх стрэлаў, то ўзначаліць хірд пляменнік яго пажадаў. Сыны Сігаравы малыя яшчэ былі. Але ж не ўсе людзі Залатога Пуза пажадалі Эйштэйна, Бондам* празванага, хёўдынгам. Маўляў, больш па душы яму свіней у одалі** сваім даглядаць, ды жонак чужых пузатымі рабіць, чым хадзіць у набегі і браць здабычу. Ніколі ў сечы адвагай не вылучыўся Эйштэйн. Не хацелі правадыром такога. І ўзбунтавалі воінаў Локіс з Храўнам. І мовіў Храўн, што Локі хочуць сапраўдныя мужы хёўдынгам. Хто, як не Локі Прывязаная Сякера лепшы храбрасцю і ўдачай? Хто, як не Локі, нашчадак вялікага старадаўняга конунга? І шмат хто з вікінгаў захацеў Локіса. Але ж былі і такія, што захавалі вернасць Сігараву роду.

Узялі тады воіны, што за дайнаўцам пайшлі, лепшы з дракараў і Раўніна цюленяў*** стала іх домам. І не было больш дзёрзкага і ўдачлівага правадыра ў халодных морах, чым Локі Прывязаная Сякера. А празвалі яго так таму, што заўжды перад сечай сякеру сваю да рукі знявечанай скуранымі пасачкамі прывязваў, бо кепска гнуліся пальцы на скалечаных далонях. Прусы звалі яго Пярэваратнем ды Локісам Цмок у Грудзях. Самыя адчайныя галовы прапаноўвалі яму сваю зброю. І мала хто з сэконунгаў меў лепшы хірд. Але ўсё гэта было пазней. А як стаў хёўдынгам Локіс, знік кудысьці разам з Храўнам і ліцьвіном Вайдатам, пакінуўшы за сябе старога дана Дача.

Доўга чакалі хірдманы важара, цярпенне страцілі. І вось , нарэшце, вярнуліся яны. Вайдата не было, і на ўсе пытанні, дзе ліцьвін, Храўн адказваў адно: "У Валгале." Дзівіліся, сівавусыя хольды – дзіцё з сабою прынёс хёўдынг! Хлапчанё малюткае! Зваў яго Локіс сынам, а імя яму жудаснае даў Трынтвей!

Што ж, гэта справа правадыра. А хлопчык быў прыгожы, залатавалосы. І толькі Храўн з Локісам, а потым і яцвяг Скаманд, ведалі, чый ён сын! І доўгі час, гледзячы на Трынтвея, сумавалі пабрацімы аб Вайдаце, што паранены стралой у сцягно, застаўся затрымаць самбіцкую пагоню. Сканды не маглі вымавіць гэткае мудрагелістае імя і звалі таемнае дзіцё проста – Лакісонам. Так і гадаваўся малы на ладдзях, за што і празваны быў Карабельным.

Не мінула яшчэ і года, а Локіс ужо меў два дракары і снеку, ды воінаў за дзве сотні. Славу меў правадыр Локі Прывязаная Сякера, гонар вялікі меў. І зноў клікаў яго да сябе Яраслаў Мудры. Паслухаў Пярэварацень, прыйшоў. Доўга ў Кіеве гасцяваў, у князя ласку меў. З Харальдам Суровым п'яным напіваўся. Харальд – былы выгнаннік нарвежскі, а ўжо зяць Яраслаў і ўладар паловы норскай зямлі, таксама ў той час завітаў да цесця. Ён вярнуўся з Міклегарда, авеяны славай і легендамі. Прыгожы і магутны, з марозным сінню у вачах, ён паходзіў на старажытнага грознага бога. Любілі яго і баяліся. Меч свой шмат хто аддаць жадаў яму. Вялікую ўдачу меў конунг, але не кожнага хацеў мець сваім хіраконам легендарны воін... Храўн часта бяляваў у сваіх былых сяброў баявых і зноў, як калісьці, у пашане ў Хардрады быў. Старой спрэчкі не помніў Харальд. Храўн таксама зла на конунга не трымаў. Аднойчы прыйшоў да Локіса Эймунд, правадыр нарманскай дружыны, якая верай і праўдай служыла Яраславу, і мовіў, што запрашае князь Локі на размову. Доўгая была размова. Толькі Локіс і Эймунд слухалі князя, болей ніхто. Выйшаўшы ад Яраслава, загадаў дайнавец Храўна клікаць да сябе, які ў Хардрады прападаў. І калі нарвег з'явіўся, мовіў яму правадыр:

- У князя быў. Размову меў. Службы ад нас Яраслаў хоча. Узнагароду вялікую абяцае, ласку сваю абяцае, калі выканаем.

* **Бонд** (сканд.) - вольны селянін.

** **Одаль** (сканд) - вотчына.

*** **Раўніна цюленяў** – адна з назваў мора ў паэзіі скальдаў.

www.kamunikat.org

- Што ж за служба? – пацікавіўся Храўн.

Локіс хмурна ўсміхнуўся і зірнуў па баках.

- Сыноў князь зашмат мае. Братоў сваіх, Барыса ды Глеба ў зямлю ўжо калі паклаў. Забіў іх, а Святаполк акаянным у магілу лёг. Хітры князь, мудры. Сам сеў на стол вялікі і ўладарыць пачаў рукою моцнай. Зараз жа адзін з сыноў яго злое супраць бацькі думае.

Храўн зірнуў Локісу ў вочы.

- Ці ведаеш, аб чым распавядаеш, правадыр? – ціха сказаў вікінг. – Братоў Ярыцлейфа конунга забіў Сфендаспол Злы. Усе тое ведаюць.

- Як жадаў Яраслаў, так і адбылося. Так і ведаюць. Святаполк – забойца кляты. Барыс і Глеб – святыя. А хто ў Кіеве пасля смерці іх сеў? Яраслаў! Эймунд – малады ліс, мне тое шаптаў. Яго бацька – стары Эймунд, сам перарэзаў Барысу горла!

- А ці не думаеш, хёўдынг, чаму язык так свой выцягнуў, як кушак, на тваіх грудзях, гэты наймін?

- А я - хто? А ты – хто? Найміты. Воўк бачыць ваўка, Храўн. Тое ведаеш ты не горай за мяне. Эймундсон шукае майго сяброўства. Ён тут адзін, а нарманаў князевых кіяне не дужа любяць. А князь нас хоча. Дружыну маю хоча. Слава аб нас паперадзе дракараў ляціць! Яраслаў магутны князь, мы ўжо служылі яму. Не пакрыўдзіць. Век вікінгаў зыходзіць, Храўн.

- Калі жадаеш уладара над сабою, Локі, ідзі да Хардрады!

- Дайнавец пакруціў галавой

- Не, Варніс. Мне патрэбны зараз хаўрус з Яраславам. Ведаю, благая справа. Але гэта яго сын Вячаслаў, што ў Смаленскай зямлі сядзіць, у Кіеве ўладарыць хоча. Стол бацькі свайго ўзяць жадае. Яраславу тое нашапталі. І калі не мы, гэта зробяць іншыя.

- Эймунд у сябры набіваецца, крывёй сына княжага звязацца з табою хоча, Локі. Ён ведае тваю моц і ўдачу, - Храўн паківаў галавою. – Не, хёўдынг, не хачу такой службы. Згодны з табой, гэта Ярыцлейфаў сын, і лёс яго – не мая турбота. Але мала мне гонару, браць удзел у гэтым. Мы з табою пабрацімы, і я люблю цябе. Ты ведаеш, за табою я пайду да Валгалы. Але цяпер я хачу ісці з Хардрадам. Чулі, Магнус хворы, і Харальд можа стаць конунгам усёй Нарвегіі. Я павінен зараз быць з ім, хёўдынг. Хадзем з ім, Локі, ён лепшы з уладароў. Лепшы, чым Ярыцлейф Скупы. Што ж, не жадаеш, тады адпусці і не злуй. Заўтра ў святой Сафіі я буду прасіць Хрыста, каб дараваў мне ён таемнае ідалапаклонства маё. Я вырашыў, я так хачу. Старыя багі памерлі!

- Ты забудзешся бацькоўскую веру падзель Харальда, ці сапраўды вырашыў, што Белы Бог лепшы за Одына?

Храўн нічога не адказаў.

- Што ж, Варніс, я не трымаю цябе. Мы шмат што зведалі разам, пабрацім. Не аднойчы адзін аднаму жыццё ратавалі я буду сумаваць па табе. Хардрада вялікім каралём будзе. Яму будзе заўжды мала славы. Яраслаў не дарэмна пажадаў даць яму руку сваёй дачкі. Ідзі, Варніс.

- Я вярнуся, Локі.

- Я буду чакаць цябе, пабрацім...

І ён вярнуўся. Вярнуўся цераз шмат гадоў, калі адгрымела бітва ля Стэмфардскага маста. І склаў Харальд Хардрадэ, тады ўжо конунг Нарвежскі, буйную галаву сваю, і ў крывавую гразь утапталі саксы знакаміты "Спусташальнік Земляў"*, і ўвайшла ў Б'ёрыхеймскі заліў вузкая вагрская снека, і рэў турынага рогу побач з ветрам ляцеў над чорнымі скаламі. Суровыя воіны сушылі вёслы. Цмокавой пысы на штэўні не было. Знялі, паказваючы свае мірныя намеры. Не жадалі палохаць добрых духаў гэтага берага. Высокі аднавокі віцязь з пасечаным шнарамі тварам скочыў у ваду і падняў трохпалую далонь.

- Вітаю цябе, Локі хёўдынг!- крыкнуў ён.

На беразе стаялі воіны Локіса Прывязаная Сякера. Сам правадыр, па калена ў вадзе, ішоў насустрач аднавокаму. Яны ўсміхаліся і ляпалі адзін аднаго па спінах жалезнымі далонямі.

- Думаў я, што ўжо ты ў пекле Хрыстовым! – мовіў дайнавец.

- Я быў там. Але засумаваў па табе пабрацім.

- А што, табе толькі вока выбілі? Ці яшчэ можа што адсеклі? А то я тут маладзіц з дзесятак маю, у апошнім паходзе прыдбаў. Аднаму ўжо не па сілах. Стары стаў. Зарагатаўшы, пабрацімы зноў абняліся.

- Як служба твая ў Бурыгулейфа Ярла?

- Нічога. Згода між намі. Срэбра вагр маім ваўкам шчодра адсыпае – дзель мы з лупаў добрую маем, Бурыслаў ведае кошт нашым сякерам.

- А што ж Ярыцлейфу не служыў ты, хёўдынг? – спытаў Храўн. – Не ўдалося сынка яго, ці адмовіў князю?

- Не адмовіў бы. Але, пэўна, багі супраць тога злачынства былі. Князь баль даваў. Ну, выпілі. Мае хлопцы нечага яраслававых грыдзяў зачапілі і ну – пысы крывавіць! Пакуль схамянуліся мы, людзі ў нажы пайшлі. Кроў між намі лягла. Князь маіх караць жадаў, яны пачалі. Я не даў. Сварка была, і давялося нам уночы ўцякаць. Каля караблёў сеча была. Кмеці** не хацелі даць нам адплыць. Пабілі мы іх. Шмат страціў я, калі ласкі Яраслававай пазбавіўся. Але

* **"Спусташальнік Земляў"** – знакамітая баявая харугва Харальда Суровага.
** **Кмець** – воін.

яшчэ большую славу гэтым здабыў. Воіны мае пасля таго за мной у агонь ідуць і маўчаць, нават, калі ён ім дужа латы пячэ. Ды што тут казаць, Яраслаў ужо колькі ў зямлі. Мабыць у пекле вашым братазабойца. На маіх руках крыві Вячкі няма. Як ён і жадаў, пасля смерці бацькі свайга атрымаў стол кіеўскі. Але не доўга уладарыў. Неўзабаве, амаль цераз два гады пасля Яраслава сканаў. Ці сам, ці дапамог хто – таго не ведаю. Цяпер вось, з Бурыславам, князем вагрскім сяброўства добрае маем. Калісьці дапамог яму германцаў біць. Пабілі. Князь задаволены быў Дужа яны яго заелі. Долю немалую ў здабычы, нам вагр даў. Зямлю даў. Вось, бачыш! – Локіс махнуў рукою і ўсміхнуўся. - Жытлом мядзведзя празвалі людзі, Б'ёрыхеймам па вашаму.

- Ну, а дзе ж хлопец Стэгі канунга? – ціха спытаў нарвежац.

- Ён не Стэгісаў, ён мой, - адказаў дайнавец. - У хаце ляжыць. Вяпрук на паляванні нагу ікламі знявечыў. Рана цяжкая. Кунігасам яму быць. Храбры. Воіны любяць яго. Я люблю. Малады зусім. Сілы сталай не мае, а ў сечы наперад хольдаў лезе! Шкада толькі, што не мая кроў. Ну, досыць плявузгаць, горла сохне. Хадзем хутчэй у маю бярлогу.

Малады светлавалосы прыгажун Стардо паклаў чорную ад гразі далонь на кальчужнае Локісава плячо.

- Стой, кунігас. Прыйшлі.

Амаль паўмесяца не здымалі ваяры броняў. Хаваліся, крадком ішлі цераз змрочную прускую пушчу. Агню не палілі, елі мала і хутка, спалі на голай зямлі. Бруднае цела чухалася ад поту, люта заядалі вошы. Нават Храўн зморшчваў нос ад жудаснага смуроду, калі скідаў шолам і сцягваў з галавы мокры падшаломнік. Локіс з Бурыславам загадалі заўжды быць гатовымі да сечы. З-за кожнага дрэва чакалі правадыры самбійскую смяротную стралу. Нягледзечы на тое, што па ўсім лесе, далёка наперад, заслаў Стардо сваіх віжоў*. Ён пакляўся давесці і давёў. Локіс ведаў з пушчы самбы ніколі не будуць чакаць ворага.

- Унь, правадыр, між ялінамі святло бачыш?

- Ну!

- Тут і селішча Стэгісава. А там ужо і Рамова** не так далёка. Я слова стрымаў.

Локіс кіўнуў. Твар яго хавала пазалочаная лічына шалома. І толькі бачна было, як змрочным палымем гарэлі пад ёй вочы. Доўно ўжо адкінуў ён ліцьвінскую пагарду да броняў, і магутнае цела яго абцягвала моцная кальчуга, скаваная русамі ў Ноўгарадзе. На грудзях яе, на срэбных "дошках" залаціўся мядзведзь з раззяўленай зяпай. Была гэта баявая кашуля не цяжкая, лягчэй за нарманскую, не доўгая, каленяў не ахоўвала, але рукавы мела да запясця. У Воліне, на кірмашы Локіс даў за яе срэбрам кошт амаль цэлай баявой снекі!.

- А вось і Яствуд, - мовіў Стардо.

З-за дрэў, паваленых бурай, выйшаў высокі, худы, немалады ўжо яцвяг з доўгімі пасівелымі валасамі.

- Усё спакойна, правадыр, - сказаў ён, гледзячы на Стардо – Ціха. Пэўна, багі жадаюць пагібелі Стэгісавай. Князь упэўнены ў бяспецы сваёй. Шмат хто з воінаў адпрасіўся ў наезд на ляхаў.

- Сам ён тут? – перарваў лесавіка Локіс.

- Тут, - кіўнуў калматай галавой паляўнічы. – Аднекуль дзеўку сабе прывёз. Баль самбы рыхтуюць.

- Баль, - дайнавец усміхнуўся і нацягнуў на правую руку абшытую дзіковай скурай рукавіцу. Нягнуткімі пальцамі сціснуў цяжкую сякеру і нетаропка пачаў прывязваць чэрань да далоні скураным пасачкам. – Будзе баль. Частаваць я буду. Крывёй! Сын! Хадзі, поруч станем. Ты заслужыў месца побач з правадыром.

- Твар юнака пачырванеў, і ён ганарліва падняўшы прыгожую галаву, стаў каля Локіса. Як доўга чакаў ён гэтых словаў!

- Варніс! – ужо не хаваючыся, голасна мовіў дайнавец.

Нарвежац падняў баявы рог, але, чамусьці, марудзіў прытуліць яго да вуснаў. Вялізная шэрабелая сава нячутна, нібы прывід, плыла ў паветры над галовамі воінаў. Яшчэ імгненне і белая здань знікла між парослых імхамі дрэваў. Срэбны Храўнаў рог зароў. І ўзнёсся рокат яго над вяршынямі старадаўніх ялін, вольхаў і дубоў і напоўніў сабою неба. І гучала прага крыві ў голасе яго немым. І бразнула зброя аб тарчы, заенчылі, завылі на ўсе галасы ваяры, услаўляючы сваіх магутных правадыроў. І нібы не людзі, а жудаснае, жахлівае Паляванне Одына – Дзікае Паляванне, праімчала ад лесу да ўмацаванняў Стэгісава града. Самбы не паспелі апамятацца – вікінгі на іх плячах уварваліся за вал. Локісава зграя рэзала і рвала, плёскаючы крывёй на ўсе бакі. Услед ішлі Бурыслававы вагры, збіраючы крывавую даніну. Але гэта былі самбы, і ведалі іх як лепшых воінаў не толькі ў Прусіі. Заблішчэлі ў іх руках сякеры і знакамітыя пэйле. Жалезны клін Локісавых вікінгаў спыніўся. Калыхнуўся і заграз у натоўпе ворагаў. Секліся люта. Але мала было самбам адной іх вялікай адвагі. Лепшае ўзбраенне, лепшыя броні мела дружына дайнаўца і моцна шыхт трымалі вікінгі. Гінулі самбы, адчайна наскокваючы на шчыльна састаўленыя рознакаляровыя тарчы. І не секлі нажы іх жалезных

* **Віж** - выведнік, шпіён.

** **Рамова** – сталіца прусаў, рэзідэнцыя Крыве.

www.kamunikat.org

кашуль ворагаў, шчэрбіліся, ламаліся мячы аб акаваныя па краю тарчы. Зіхацела на сонцы страшная Локісава сякера, і кожны вытяе кідаў пад ногі дайнаўца мёртвае цела. Запырсканая крывёй, жудасная мачуга* Скаманда, як арэхі, разбівала варожыя галовы і грудзі.

Стары ваяка адным вокам сачыў за маладым Трынтвеем і не аднойчы ўжо ратаваў хлопцу жыццё, прыкрываючы сваёй тарчай ад смяротных вытаў. Локісаў выкармак секся адважна, з лютасцю параненага звера. У самае пекла лез, жыцця не шанаваў. Побач, пад харугвай з мядзведжай галавой, пацямнелы ад самбійскай крыві, мільгаў доўгі меч Храўна. Сігньёт з Торварам ахоўвалі яго па баках. І грымела над сечай суровая, поўная крывавай радасці песня, якую, рассякаючы людзей ледзь не на дзве паловы, складаў скальд Жалезнае Сэрца.

Баль далёка чуе
Зязюля сваркі злая.
Там ран рагач чырвоны п'е плач,
Льюць сечы расу
Ільдзіны кальчуг,
Завея Одына ведзьміных коней
Склікае ў круг,
Месяц вепра хваль стогне!
Клёны віхра стрэлаў
Падаюць у Хель,
Прамень бітвы ўладара абруччаў
Галодны Цмок!
Белы снег тыгля,
Вікінга слава – узнагарода герою,
Светлавокія дзевы
ЎВалгалу імчаць мерцвякоў
Радуецца Сеяцель Бедаў**.

Круціўся шалёны віхор сечы, поўніліся радасцю сэрцы сапраўдных мужоў. Прагла гарачай чалавечай крыві халодная сталь. Не, не праўду кажуць старыя сівагаловыя дзяды, пакрытыя рубцамі мінулых баёў, што мінуў, адышоў у невараць век герояў! Век адышоў. Героі засталіся. Дарэмна намагаліся самбы раскідаць нерухомую паўночную сцяну, уварвацца між шэрагаў і рэзаць, рэзаць! Вікінгі стаялі. І вось, зайшлі са спіны вагры і ўсекліся ў самбійскія шэрагі. Локіс ведаў, калі не зможа абысці ворага Бурыслаў, не зможа ніхто. Вагр змог. З уласнай дружынай з'явіўся ён у самы зручны, патрэбны момант і, уславўшы свой шлях трупамі Стэгісавых вітынгаў, насеў ззаду на асноўныя Шуляковы сілы. Пачуўшы падтрымку, уздрыгнуў Локісаў клін, як мядзведзь, зацкаваны сабакамі, марудна папоўз уперад, пакідаючы за сабою знявечаныя целы.

Стэгіс выскачыў з дому, ледзьве паспеўшы нацягнуць мяккія штаны з ласінай скуры. У далоні грозна зіхацеў кароткі меч.

- Каня мне! – раўнуў ён перапалоханаму сэйміну***. За князевай спіною збіраліся ўжо узброеныя воіны заўжды гатовыя, як да балю, так і да сечы лютай. Іх бронзавыя твары, адзначаныя нягодамі шматлікіх войн і паходаў, не выказвалі ніякіх пачуццяў. Яны былі лепшыя – Стэгісава дружына. Гэтыя вітынгі ўжо не аднойчы адраблялі свой корм. Гул сечы рос, і ўжо пацягнуліся ў нябесную бездань слупы чорнага дыму ад запаленых хат і буданоў.

- Локіс, - прамармытаў нехта з воінаў. Ніхто не ўбачыў, як правадыр, сцяўшы зубы, пракусіў сабе губу, але ўсе ведалі, як паліць нянавісць сэрца Шуляка, калі чуе ён імя дайнаўца. Завязваючы на магутных, зарослых сівой поўсцю грудзях скураную кашулю, ля дзвярэй заўважыў Стэгіс сваю новую жонку – прыгожую статную дзяўчыну з вогненна – рудымі валасамі – нарвежку палонную. "Гэта абавязкова народзіць мне сына!"З гэтай думкай князь ускочыў на сверапіса.

Злая радасць ахапіла Локіса, калі заўважыў ён самбійскага князя. Вярхом на дзікім кані, не меў Стэгіс тарчы, але сек на два бакі мячом і сякерай, каленямі кіруючы сверапісам. Баявы конь кусаўся, уздымаўся на дыбкі і капытамі біў ворагаў свайго пана. Шуляк не меў ні шалому, ні кальчугі, толькі скураную кашулю з бронзавымі бляхамі. Незаплеценыя валасы яго ляцелі па ветры, нібы крылы драпежнай птушкі. Запырсканы крывёй, з дзікімі, утрапёнымі вачамі, ён быў страшны і велічны.

- Стэгіс! - на ўсю сілу сваіх лёгкіх раўнуў дайнавец і падняў запэцканую самбійскай крывёй сякеру.

Скінуў з левай рукі тарчу і, расшпіліўшы пад падбародкам пас, бразнуў вобзем пасечаны шолам. Сцягнуў смярдзючы падшаломнік і вецер падхапіў яго мокрыя валасы.

- Стэгіс!

Князь павярнуў галаву на Локісаў голас, сверапіс пад ім хроп, пырскаючы ружовай пенай, перабіраў моцнымі нагамі, не жадаючы стаяць спакойна. Глядзелі адзін на аднаго даўнія ворагі і ведалі, што хутка ўжо скончыцца іх нянавісць. Стэгіс гікнуў, і конь ірвануў, быццам віхор. Локіс з непрыемнай усмешкай выцягнуў з-за дзягі доўгі нож. Рукаятка з маржовага ікла звычна лягла ў

* **Мачуга** – літоўская дубіна.

** **Зязюля сваркі** – крумкач, **ран рагач** – дзіда, **чырвоны плач** – кроў, **раса сечы** – кроў, **ільдзіны кальчуг** – сякеры, **завея Одына** – бітва, **ведзьміны коні** – ваўкі, **месяц вепра жваль** – **вепр хваль** – карабель, **месяц вепра хваль** – тарча, **клён віхра стрэлаў** – воін, **прамень бітвы** – меч, **уладар абруччаў** – правадыр, **белы снег тыгля** – золата, **светлавокія дзевы** – валькірыі, **Сеяцель Бедаў** – Одын.

*** **Сэйміны** – чэлядзь, халопы.

www.kamunikat.org

далонь. І не было болей нічога – ні сечы, ні крыві, ні смяротнай нянавісці. Толькі ён – вораг, якога трэба забіць. Яшчэ імгненне і конь іржэ, асядае на заднія ногі і валіцца на бок з нажом у шырокіх грудзях. Князь паспявае саскочыць з параненага сверапіса. Коціцца па зямлі, і вось ужо на нагах – шчэрыцца акрываўленай зброяй. Локіс падымае на руку ссечаную тарчу і нетаропка ідзе да яго. Іх вочы сустракаюцца. Воіны спыняюць бітву каля правадыроў.

- Доўга ішоў ты да мяне, Пярэварацень. Але цяпер ты мой. Мой! – крыкнуў Стэгіс.

- Не спяшайся. – спакойна згадзіўся Локіс. – Гадаваў тваёга сына.

І пахіснуўся князь, нібы яго ў твар выцялі. Зарагатаў Локіс, гледзячы ў вочы ворагу.

- Унь, зірні, Стэгіс. Апошні ў родзе, стаіць ён у мяне за спіною, залатавалосы юнак. І рве цябе вачамі на кавалкі!

І рагатаў дайнавец, ведаў, няма кроўніку яго больш жахлівай пакуты, чым зараз церпіць. Князь моўчкі кінуўся на ворага. І гул пайшоў сярод воінаў, калі Локіс прыняў на тарчу яго сякеру і сваёй Дайнайнай адбіў Стэгісаў германскі корд. І закруціліся яны ў смяротным міжбоі. Годныя былі баяры. Даўно не бачылі людзі такога танцу зброі. Маланкамі ззяла сталь, вухала ад моцных вытаў Локісава тарча. Нарэшце скінуў яе, амаль разбітую, дайнавец, знямелі яго знявечаныя далоні. І сlibekануў тут яго Шуляк па грудзях мячом, але не дастаў цела. Не дарэмна карабля каштавала жалезная кашуля русаў. Гледачы так і не зарзумелі, што адбылося. Заўважылі толькі, як кінуўся Локіс прамком пад зброю Стэгісаву – насустрач смерці, і толькі Храўн усміхнуўся. Ён таксама ўмеў біцца адной сякерай з двухрукімі!

І мала хто убачыў, як гэта здарылася, а толькі ляжаў князь на зямлі, і кроў струменіла з яго галавы, разьбітай абухом сякеры. Ён хутка апрытомнеў. Маўчаў. Маўчаў і пераможца, паставіўшы нагу на грудзі яму і апусціўшы прывязаную да рукі сякеру.

- Забі, - ледзьве вымавіў самб.

- Сын твой табе катам будзе! – сказаў Локіс.

Ён стаяў ля слупа, абкладзены галлём і вымушаны быў бачыць, як находнікі гвалтуюць яго жонак. Алнэ нерухома ляжала пад нагамі воінаў, запэцканая ўласнай крывёй.

- Хадзі, Лакісон! Пабач, прыгажуня якая! Ці табе падабаецца толькі меч і сякера твая! – крыкнуў Інг’ельд. Ён схапіў жанчыну за валасы і падняў ёй галаву.

- Ну, як табе гэты хлопчык, сямландская сука? Хочаш яго?

Ад рогату вікінгаў Трынтвей ледзьве не аглух. Хлопец апусціўся на калені і зазірнуў жанчыне ў вочы. Жах замуціў іх цудоўную сінь. Нешта шаптала Алнэ разбітымі вуснамі. Трынтвей усміхнуўся, скрывіўшы губы.

- Крыві, быцца свіню рэзалі. Кроў мая сякера любіць можа яна дасць табе лепшае задавальненне, чым усе гэтыя парсюкі!

І пад рогат мужчын уваткнуў чэрань сякеры ёй між ног. Алнэ ўздрыгнула ўсім целам і застагнала. Трынтвей адкінуў акрываўленай рукой з ілба валасы і пайшоў да Локіса. Правадыр стаяў побач з Бурыславам, абапёршыся на сваю ўлюбёную Дайнайну. У яго вачах, як заўсёды, быў лёд. І ніякіх пачуццяў не адлюстроўвалася на яго каменным твары. Юнак запаліў паходню і накіраваўся да прывязанага Стэгіса. Князь падняў скрываўленую ўскалмачаную галаву і зірнуў у вочы сына.

- Шкада , - мовіў Стэгіс. – Шкада.

Пагардлівая ўсмешка кранула вусны хлопца і ён моўчкі кінуў пахоню на галлё.

- Мядзведжы выкармак ты, не мой сын! - крыкнуў князь. – Пракляты будзь! Пракляты будзьзь Локіс Цмок у Грудзях! Клантэмай! – Стэгіс зарагатаў. – Пабачце, сабакі, як памірае муж – князь Ваўка!

Полымя ўжо лізала яму ногі, а Шуляк усміхаўся. Рудая нарвежка, вырваўшыся ад гвалтаўнікаў з енкам кінулася да Трынтвея. Вікінг з усмешкай схапіў яе, аб калена зламаў княжевай жонцы спіну і кінуў у агонь.

- Ідзі ж да яго! – крыкнуў ён.

- Стэгіс смяецца над сваімі пакутамі – мовіў паранены самб, і адзін з вікінгаў прыбіў яго да зямлі дзідай.

Воіны ківалі галовамі.

- Мужны конунг. Валгалы годны, - казалі яны. І вось, ніхто не заўважыў,адкуль яна ўзялася, гэта магутная птушка, што кружыла над галавою князя Ваўка. І ўбачылі воіны жах на твары яго, і крык князеў рэзнуў па вушах.

Енчыў князь, і мука была ў яго вачах, калі шэра-белая сава апусцілася яму на плечы і кіпцюрамі ўчапілася ў твар. І заструменілі крывёй яго пустыя вачніцы, і ўзнялося тут полымя, і знікла страшная птушка ў клубах чорнага дыму. І нават самых адчайных ахапіў жах. Знямелыя рукі шукалі амулеты. Клалі крыж тыя, хто верыў Беламу Богу. І ніхто не ўбачыў, як ля Трынтвея з’явілася высокая жанчына, палову твару якой хавалі вогненныя валасы. Дакранулася яна вуснамі шчакі юнака і нешта шаптала яму на вуха. Хлапец зрабіўся белы, што снег, і прысеў на кукішкі, нібы ад моцнага выту. Калі падняўся – побач нікога не было. Ён кінуўся да Алнэ, і дрыжэлі яго рукі, калі ён браў белае, у крывавых плямах цела сваёй маці. Убачыўшы гэта, Локіс нахмурыў бровы. Нешта шаптала Алнэ свайму сыну, абхапіўшы яго за жылістую, ужо мужчынскую шыю аслабелымі рукамі. І з пракушаных вуснаў юнака цёк струменьчык цёмна-чырвонай крыві. Трынтвей асцярожна паклаў маці на

www.kamunikat.org

зямлю, прыкрыў сваім плашчом і пацягнуў з срэбных похваў старадаўні меч – падарунак Локісаў.

І ў вачах яго не было жыцця. Нічога не было ў іх, толькі лёд, як у Локіса.

- Што здарылася, сын? – спытаў дайнавец.

- Ты лгаў мне, Локі усё жыццё лгаў.

- Ты паверыў гэтай? – Локіс плюнуў у бок Алнэ.

Трынтвей маўчаў.

- Сава, – прамармытаў правадыр. – Клятая ведзьма.

- Ну, задаволены, хёўдынг? – Трынтвей узмахнуў мячом.

- Не зусім. – мовіў дайнавец і паглядзеў яму ў вочы. – Што табе да іх? Не Стэгіс гадаваў цябе. Я! Я зрабіў з цябе воіна! Вікінга! Я кахаў тваю маці, а яна плявала мне ў твар, калі самбы прыбівалі мяне да дуба. Кроў між намі, і вось мая помста! Доўга чакаў я. Я- Локіс!

- Ты лгаў мне, - зноў сказаў Трынтвей. Ціха сказаў, страшна.

- Ты мой! Мой – не Стэгісаў!

Юнак падняў меч. Локіс усміхнуўся.

– Ну, сячы!

Яго пасон доўга стаяў з паднятай зброяй І вось бліснула славутая сталь Ёрмунрэка на сонцы і зазвінела аб храўнаў Рысіны Кіпцюр. Нарвежац схапіў Трынтвея за рукі і з сілай адпіхнуў яго.

- Прэч, Лакісон!

Юнак ледзьве ўтрымаўся на нагах.

- З глудзу з’ехаў? На каго зброю падняў?!

Трынтвей з нянавісцю зірнуў на Храўна.

- Адыдзі, Варніс!

- Слухай яго, пабрацім, - мовіў Локіс.

- Скураны пас звычна клаўся на мазолістую далонь, прывязваючы яе да чэраня сякеры.

- Апамятайся, Лакісон! Што табе князь сямландскі і тая, што абразіла твайга правадыра. Не вартыя яны твайга жалю. Ты – вікінг! Локі бацька табе!.

- Шмат слоў, Варніс, – адказаў Трынтвей і кінуўся на Локіса.

- Страшна яны біліся. І секануў Трынтвей дайнаўца па твары, ледзьве вока не зачапіў, але адказаў правадыр такім магутным вытам, што не ўтрымаў меч у руках юнак

- Годзе, - мовіў Локіс, апускаючы сякеру і абціраючы кроў з рассечанай шчакі. – Ідзі. Потым размаўляць будзем.

Але падхапіў меч Трынтвей і крыкнуў:

- Цесна нам у свеце будзе! Кроў між намі!

І зноў спявалі сваю радасна –жудасную песню Дайнайна і Ёрмунрэк. І вохнуў юнак, калі сякера ўрэзалася яму ў грудзі. Выслізнуў меч з яго далоні, і паваліўся Трынтвей на стаптаную траву. Нахіліўся над ім Локіс.

- Я любіў цябе,- мовіў правадыр. – Ты сам абраў свой лёс.

Нешта хацеў сказаць Трынтвей, але горлам яму найшла кроў і Локіс паклаў сваю далонь на яго мёртвыя вочы.

- Праклён Стэгі конунга, сказаў Храўн.

Локіс паківаў галавою, і ўпершыню ўчуў нарве-жац, як задрыжэў яго голас.

- Вёльва, Варніс. Мажана. Яна таксама адпомсціла. Знік род Стэгіса, і самбы зломяць меч над яго попелам. Чуў, як енчыў князь Ваўка ў савіных кіпцюрах. Ён ведаў, што за птушка да яго прыляцела. Рудая ведзьма забрала яго душу. Маімі рукамі яна забіла яго сына – знішчла семя Стэгісава. Цяпер я разумею, чаму ні адна жанчына не магла нарадзіць яму сына. Вялікую сілу мае чараўніца. Толькі Алнэ змагла. – Локіс падняў вочы на Храўна. – Досыць ёй пакутаваць, пабарцім.

Храўн выцягнуў нож і пайшоў да закатаванай жанчыны.

- Надта жорстка цяпер пакідаць табе жыццё, - мовіў вікінг, гледзячы ў яе вільготныя ліхаманкава-бліскучыя вочы. Моўчкі падняла яна галаву, агаліўшы белае горла, дзе біліся. пульсавалі сінія дрыготкія жылкі. Храўн махнуў нажом.

- А ты страшны чалавек, Локіс. І страшна мецць цябе ворагам. Адпомсіў ты спаўна. Помста годная струн арфы.

- На тое і помсціў, каб помнілі. Я – Локіс! А цяпер – лупы на караблі. Усё спаліць. Пакуль Крыве не паслаў воінаў па нашыя душы. Унь, бачыш, зірні на раку!

- Бурывой вядзе ладдзі. Малайчына. Шануй хлопца, князь, справіўся.

- Добрую думку ты выказаў, ісці цераз пушчу, - Локіс усміхнуўся.

- Ты і сам разумееш, Бурывой. Каб ішлі па рацэ, маглі б і не дайсці. А каб дайшлі цэлыя, Стэгіс чакаў бы нас з усімі самбійскімі войскамі. І не Шуляк енчыў бы ў агні. Аднойчы не заўважылі самбы Дамальдзі Двухзубую Секеру, што прыйшоў сюды на двух дракарах, - дайнавец зірнуў на Храўна. – Ён загінуў і паклаў тут увесь свой хірд. Але сваёй смерцю ён, сам таго не ведаючы, выратаваў мне жыццё. І ўвесь свой век шкадаваў аб гэтым Стэгіс, Шуляком празваны, князь Ваўка, уладар воўчага роду – галоўны з князёў туманнай Самбіі.

Паласатыя вятрылы чорных караблёў ўжо калі зніклі за лесам. А на свежым велічным равісе*, які па Локісаву загаду насыпалі воіны над целам Трынтвея, яшчэ доўга стаяла высокая жанчына. Свежы вецер развяваў яе доўгія рудыя валасы і цякла з пустой вачніцы мутная сляза па мёртвай ссечанай шнарамі палове яе твару.

***(Малюнкі аўтара.)***

* **Равіс** – курган над мёртвым воінам.

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ



У выдавецтве “Беларускія ведамасьці”, Варшава і Таварыства беларускай культуры, Вільня выйшла кніга Зянона Пазьняка “Гутаркі з Антонам Шукелойцем”.
Наклад 1150 асобнікаў.
144 ст.



У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя”, г. Менск, выйшаў “Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён”.
Наклад 5000 асобнікаў.
160 ст.



У Менску выйшла кніга Алега Трусава “Падсумаванне. Артыкулы. Спіс публікацый.”
Наклад 299 асобнікаў.
72 ст.




У выдавецтве “Наша будучыня”, г. Вільня, выйшла кніга-альбом Міхася Чарняўскага “Дзесяць бітваў”
Наклад 3000 асобнікаў.
64 ст.



У выдавецтве “Логвінаў”, г. Менск, выйшла кніга Уладзіміра Арлова “Каханак яе вялікасці”
Наклад 500 асобнікаў.
252 ст.




У выдавецтве “Беларускі кнігазбор”, г. Менск, выйшла кніга Кастуся Цвіркі “Край легенд”.
Наклад 1000 асобнікаў.
400 ст.



У Беластоку-Лондане, выйшла кніга Юрыя Весялкоўскага “Ад Гарбачова да Белавежы”.
Наклад 200 асобнікаў.
288 ст.

www.kamunikat.org



**Вялікі князь Гедзімін.** ***Бронза. Аляксандр Лушчык. Макет помніка для горада Ліды.***

www.kamunikat.org